УДК [821.161.3+821.161.1(476)]-822

Альманах літаратараў Берасцейшчыны



Чарговы нумар альманаха «Жырандоля» прысвечаны 80-годдзю вызвалення Брэсцкай вобласці і Беларусі ад фашысцка-нямецкіх захопнікаў. Таксама ён знаёміць з новымі творамі берасцейскіх літаратараў.

# ПАЭЗІЯ





## Аляксей Белы

Аляксею Беламу, каб пісаць вершы, не трэба нічога выдумляць. Яго жыццё заўсёды было насычаным і цікавым. Гарцаванне на конях у дзяцінстве, рыбалка з дапамогай таптухі на канавах, што атачалі вёску, мара даплыць… да Чорнага мора на лодцы, якую змайстраваў разам з сябрам. Пасля — Поўнач, выратавальны параход «Ерафей Хабараў», на якім праходзіў плавацельную практыку ў якасці матроса першага класа. Першы фотаздымак у газеце «Беломорская трибуна» ў 1970-м, першая публікацыя вершаў у 1971-м у карэльскай газеце «Вперёд». Потым войска (Венгрыя), пасля — праца на рачным флоце Беларусі, дзе даслужыўся да першага памочніка капітана цеплахода. Рэйсы ў Чарнобыль, Гомель, Брэст… Ну і, вядома, журналістыка, якой аддаў больш за трыццаць гадоў у асноўным у якасці рэдактара. Але дзе б ён ні быў, куды б ні трапляў, заўсёды спадарожнікамі Аляксея былі і застаюцца вершы.

* * *

…Я ў першым класе. Вышыўкі, радно,
У хаце — печ (пасля ўжо — батарэі).
Год пяцьдзясят дзявяты (так даўно!).
І наш настаўнік — партызан Купрэеў.

Мінулым вельмі даражыў сваім,
Хоць страшна ўсім тады было і цяжка.
Зялёны фрэнч і галіфэ пры ім,
Без кантаў, пад вайсковую, фуражка.

У яго жыцці так шмат было падзей,
Бо нёс у лес вінтоўку, а не клункі…
Звычайны лёс (мы зналі іх) людзей,
Што бачылі вайну не па малюнках.

Заўважце, што падзей, а не прыгод…
Жылі ў зямлянках, часам і пад елкай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Шмат выпала ўсяго на *той* народ.
І ў Гута-Міхаліне* кожны год
Збіраліся яны і там пілі гарэлку.

І выпадковых не было людзей —
Хто «За адвагу» меў, а хто і «Славу»…
Яны, хто меў і хто не меў надзей,
За Перамогу выпіць мелі права!

Ні вецер не палохаў іх скразны,
Ні дождж, што ўлетку лупцаваў па вязах…
Мой бацька, партызанскі сувязны
І франтавік, тады быў з імі разам.

## Hungary**

Для нас дарагаваты быў «Элем»,
Па дамбах стромкіх бегалі мы шпарка…
Мадзяры ж нас прымалі бех праблем:
Любілі нашы грошы і салярку.

І ў час, калі быў модны твіст,
Які цывільны кожны добра гоцкаў,
Да дроту падыходзілі на свіст
І палінку*** перадавалі хлопцам.

Цікавы там усё ж жыве народ,
Усё грунтоўна робіцца, без спешкі…
І прыймачы «Турыст» ішлі у ход,
А часам і бэушныя «хэбэшкі».

Мы ведалі усе іх гарады,
Бо бралі нас туды на два гады!

---

* Гута-Міхалін — мемарыяльны комплекс, месца пахавання 140 партызанаў і вайскоўцаў.
** Hungary — Венгрыя.
*** Палінка — венгерская гарэлка.

* * *

Была ў жыцці адметная пара —
Газ-66. Вясна. Пах чамаданаў!..
Дзямобе дружна мы крычым: «Ура!» —
Не перадаць цяпер такога стану.
Мы ўсе там абтапталі гарады,
Пашвэндаліся і па іх акрузе.
Такі вось пokліч быў у нас тады,
Не «дзембель», як заўжды было ў Саюзе.
…З вайсковых выпадаем мы радоў,
Запас! Заплечнікі не муляць спіны…
Нібы і не было тых двух гадоў
(І нават больш) далёка ад радзімы.
І хочацца ў вагоне памаўчаць.
Цягнік звычайны, аніяк не скоры,
І лычкі, што «пад золата» блішчаць,
І «бляха», што надрайваў яшчэ ўчора.
Вядома ж, бляха, тут не скажаш «жэсць».
Душа сумуе трошкі і спявае.
Бывай жа дзесяць, дзевяць, трыццаць шэсць —
Такой была ў нас пошта палявая.
…Таможня, пагранцы, ізноў Саюз!
Сябры перадаюць табе гітару.
Зусім няцяжкі твой дзямобны груз,
А ў ім альбом. На вокладцы — Hungary.

* * *

Па бруку не пачуеш больш падкоў,
Але свае ў нас застаюцца звычкі:
Я не люблю кур’ерскіх цягнікоў,
Мне болей даспадобы электрычкі.
У госці едзеш ці ўжо з гасцей —
А бачыш, хто і чым жыве на свеце.
Так для мяне прыемней і прасцей —
Няхай гамоняць, хто ў гадах і дзеці!
І каўбаса «пад хлеб» за ўсё смачней,
І паўз чыгункі заўважаеш кветкі.
І — вельмі важна — там білет танней,
Нашмат танней, калі вясной ці ўлетку!

## Выпрабаванне язмінам (Хутка лета!)

Сёння нікому не здраджвае густ,
І не зважаем на чуткі.
Шлюбнай сукенкай — язмінавы куст,
Белы-бялюткі.
Прыйдзе знянацку ён на ўспамін
У садзе, а не ў букетах.
І не чаромха, не бэз, а язмін,
Гэта шчымлівае лета!
Бульба старая і леташні хлеб,
Дзень сінявока-бясконцы!
Запаланіў ўсе лугі кураслеп —
Быццам маленькія сонцы!
…Потым паедзем праз лес на снапах, —
У час пераспелай маліны.
Сёння ж атрутна-міндалевы пах —
Подых язміну.
Вымыеш ногі у цёплым пяску,
Злічыш апошнія дні.
Квецень язміну. І ты не ў вазку —
Ты — на кані!..

* * *

Без споведзі, а значыць — без прычасця,
Жывеш, нібы чакаеш карабля…
Як лёгка прызвычаіцца да шчасця.
І як балюча адвыкаць пасля…
Пакуль што прыцягальна ўсё зямное,
Ці варта ўжо чакаць каўчэга Ноя!

## Бацькі̂

*(З паэмы, якая пішацца)*

Мы не лавілі рыбу на кручок
Дзеля таго, каб трошачкі пад'есці,
Для гэтага ж у доме быў сачок
(Таптуха, калі дзесь у іншым месцы).
І жылка ў нас была і паплаўкі,
На забаўкі ж нам бракавала часу,

І рэдка мы хадзілі да ракі,
Ну а жылі ўсё болей самапасам.
Тады і па начах было цяпло,
Нібыта у Бразіліі ці Чылі.
Былі канавы (колькі іх было!) —
Балота ў нас яшчэ не асушылі.
І ў лесе шмат тады было дарог —
І не блукаў ніхто між цёмных шатаў,
А мы у Куце з бацькам рвалі мох —
Тады якраз мы будавалі хату.
Былі яшчэ малымі гарады,
І дрэў амаль што не ламала ветрам.
У школу не вазілі нас тады
(Што для дзятвы чатыры кіламетры?).
На конях мчалі ветру наўздагон,
Любілі сок спускаць з бяроз і клёнаў.
Без сёдлаў мы ляцелі і страмёнаў…
Нічога не ішло тады на скон.
Ля нашай вёскі не было ракі,
Ды рыбы і ў канавах нам хапала.
А на вялікай печы — кумпякі,
І паляндвіца, й вэнджанае сала.
У простай хаце, не ў якім шале
(Што добра там было — яно бясспрэчна).
І дранікі штодня ў нас на стале,
І смачная (не адцягнуць) яечня!
Грыбы збіралі ў кошык і прыпол,
Дзяўчат краналі вуснамі за вушка,
А дома часам, каб «разбавіць» стол,
Рабіла мама для сям'і хармушку.
Тады ўставала часам да зары,
Пакуль мы спалі пасля доўгіх гуляў,
У кіпяток кідала сухары,
А потым — сала з смажанай цыбуляй!..



**Вольга Грыдзюшка**

Нарадзілася ў вёсцы Багданаўка Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыла Пінскае педвучылішча і Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага (цяпер БДПУ імя М. Танка). Працавала настаўніцай рускай мовы і літаратуры ў Таджыкістане, у школах Лунінецкага раёна і Лунінца. У 2018–2024 гадах была кіраўніком народнай паэтычнай студыі «Муза» пры Лунінецкім ГДК. Аўтарка паэтычных зборнікаў «Касіяпея», «Шчаслівы сон», «Час кветак», «Зімнія яблыкі», зборнікаў вершаў і апавяданняў «Блакітныя крылы касмеі» (2018) і «З прэтэнзіяй да зорак» (2020). Друкавалася ў калектыўных зборніках «ЛітАўра» (Брэст, 2015), «Калі не маўчыць душа» (Лунінец, 2017), «С.Т.Р.О.К.І» (Баранавічы, 2020), «Пакуль жывеш пад вечным небам» (Лунінец, 2023), у раённых, абласных, рэспубліканскіх выданнях. Жыве ў Лунінцы.

## Адпускаю

Навярэдзіла цела душа.
Цесна ёй, не хапае дыхання.
Адпускаю ў бязмежны абшар
Летуценную — на паляванне.
Каб расправіла крылы яна
На бяскрайняй нябеснай прасторы,
Каб, хмялеючы не ад віна,
Палявала на птушак і зоры.
Не імкнулася час падганяць,
Зазіраць туды, дзе не будзе,
Па аблоках магла пагуляць
І высокім напоўніла грудзі.
Колькі ў небе малочных кароў
На вільготным блакіце пасецца!
Каб здаровай была мая кроў,
Там душа малака іх нап’ецца.
І натоліцца, мне прынясе
Птушак хор на галінках духмяных,
Гукі, вобразы, колеры ўсе,
Новых вершаў радок палымяны,

Ды натхненне — каштоўны трафей —
Зноў падорыць, такая ёсць мода,
А пасля запяе, як Арфей, —
Гэта з целам часовая згода.

## Першы падман
*(Санет)*

Як жа пашчасціла мне нарадзіцца
Ў самы вясёлы вясенні дзянёк!
Мама паіла мяне не вадзіцай —
Мы пілі з ёй бярозавы сок.

Можна калыску было і не гушкаць —
Сон абдымаў немаўля ўсё адно,
Бо калыханкі спявалі мне птушкі,
Спеў іх прыгожы ляцеў праз акно.

Маці ў пялюшкі мяне спавівала,
Хлебную куклу-падманку давала,
Бегла, руплівая, ў свой агарод.

Там завіхалася з глебаю тлустай,
Доўга садзіла цыбулю, капусту,
Доўга маўчаў мой падмануты рот…

## Прывід

Развяла ў цеснай печы агонь
у бацькоўскай пакінутай хаце.
Танчыць полымя, вогненны конь,
дым абуджаны весела траціць.
Смачна ліжуць кару языкі
на бярозавых дровах, альховых,
дыму вуснаў сівыя клубкі
мне выпісваюць дзіўныя словы:
«Калі хочаш шчасліва пражыць,
тут застанься, не едзь больш далёка,
можна добрую песню стварыць,
калі ўслухвацца ў буслявы клёкат.
Неабдымнае марыш абняць?
Паспрабуй, але многае страціш…»

Хутка дровы сухія гараць,
зноў палена падкідвае… маці?
Разлілося па хаце цяпло,
асвяціў агонь шэрыя сцены…
— Каб жа, мамачка, можна было
нам у лёсах рабіць перамены…
Лепш давай зазірнем у акно:
на слупе там сумуе буслянка.
Птушкі ўсе адляцелі даўно,
ты са мною пабудзеш да ранку?
Прывід той растварыўся і знік —
не спыняюцца шчасця імгненні!
У руцэ маёй — мамін ручнік,
на ім чорна-чырвоныя пеўні.

## Мой свет

У сэрцы ці мо ў галаве
мой свет унутраны жыве.
Вялікі ён і разнастайны,
хоць рэчаў шмат у ім звычайных:
штодзённы побыт, праца, хобі,
і кніжкі — статус іх асобы,
далёкіх продкаў галасы,
мае чарнічныя лясы.
Там месца шмат для роднай мовы…
Мой свет прыгожы, каляровы,
вандровак поўны і дарог,
сустрэч, што шчодра дорыць Бог.
Маленства там свабодны дух,
агонь кахання не патух.
Расчараванні ёсць, віна
і жах, што недзе йдзе вайна…
Ёсць за людзей трывога, сум —
за ўсё адказнасць з ім нясу!
Мой свет унутраны — душа,
зямны мы з ёй трымаем шар.

## Марафон

Як на стаметроўцы, пралятае лета:
чэрвень, ліпень, жнівень — фініш? Новы старт.
Абвяшчаюць птушкі крыкамі, канцэртам
марафон асенні — лёсу сумны жарт.
Першаю стартуе шэрая зязюля:
ні сястры, ні брата — паляціць адна.
Ластаўкі, салоўкі продкаў зык пачулі,
і пад небам хмарка чорная відна.
Гэта не хмарка — так шпакі стартуюць,
і буслоў зганяе вецер у рады.
— Хто прыдумаў вырай і вандроўку тую? —
заклякоча раптам буслік малады.
Адлятаюць птушкі: ланцугамі, клінам,
хмарамі, дугою ў Афрыку, Кітай…
Для каго ты спееш, горкая каліна? —
у дразда, сарокі лепей запытай.
І ляцяць, як птушкі, дні мае і ночы,
ды ніхто не верне іх вясной назад.
Бабінае лета затрымацца хоча —
цінькаюць сініцы, клічуць зімку ў сад.



## Уладзімір Лебедзеў

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Зарой Клімавіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта БДУ (1966) працаваў у Боркаўскай СШ Бярозаўскага раёна, а з 1971 года — у Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна. Аўтар шматлікіх навуковых і навукова-папулярных артыкулаў, вучэбных дапаможнікаў для студэнтаў, праграм для школ і ВНУ, паасобных раздзелаў падручнікаў для агульнаадукацыйных школ. Адзін са складальнікаў і аўтараў калектыўных выданняў «Зямля, прырода, людзі ў духоўнай культуры Беларусі» (1999), «З прыродай зліўшыся душой» (2001), «Радаводнае дрэва Прыпяці» (2002), «Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў» (2003). Выдаў зборнікі вершаў «Восеньская ралля» (2004), «Верасовы разлог» (2005), «Нязводныя прысады» (2008), «Несціханае рэха» (2013), «Час вечаровы» (2015), «Росная трава» (2018), зборніка паэзіі і прозы «Па дарозе ўспамінаў» (2020). Уклаў анталогію трыялета паэтаў Берасцейшчыны «Яго вялікасць трыялет» (2019). Лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка Брэсцкага аблвыканкама (2019). Жыве ў Брэсце.

### Як не прыходзілі…

Як бацькі не вярталіся з вайны,
У роспач упадалі часта мамы.
А дзеці спасцігалі часу драмы,
Як бацькі не вярталіся з вайны.

Боль востры адступіў з слязьмі і снамі,
І доўга зажывалі тыя раны.
Як бацькі не прыходзілі з вайны,
Сталелі рана дочкі і сыны.

### * * *

Спевы жаўранкаў
Каго клічуць на працу,
Каму цешаць слых,
А каму нагадваюць,
Што ён пад родным небам.

* * *

Сярдуе пярун,
Зямлі і неба ўладар,
Грымоты ўжо добра чуваць.
Ды цяжка спазнаць,
Чым так
Незадаволены ён.

## Такі краявід ці другі…

Даліны і рэкі, лясы —
То гай, то дубрава:
Зялёная бульба, аўсы
То злева, то справа.
Такі краявід ці другі
Ад Брэста да Магілёва.
І кожны табе дарагі,
Як цёплае слова.
Аўтобус з дарогай
Размовы вядзе
І кнігу прастораў
Гартае.
Плыве над зямлёю
Сонечны дзень,
І ўсё ён ніяк
Не мінае.

## У жнівеньскі час

Празрыстая раніца
Ужо абяцае
Позні стомлены вечар
І адчуванне
Важнейшых рытмаў жыцця.
Не прапусціць бы
Жаданы жнівеньскі час.

## Восень

Зноў гаспадарыць стала восень:
То дробны дождж, то ветру свіст;
Трывожней зашумелі сосны,
Віхор разносіць жоўты ліст.

Суровы час, сыры, завейны,
Усё бліжэй, бліжэй штодня.
Ды з вераю, як знак надзеі,
У сны ўрываецца вясна.

## Дзень абяцаў

Дзень абяцаў быць халодным,
Настрой пачуваўся благім.
А хмаркі плылі так лагодна,
І звыклым быў шум гарадскі.

Бывае так раніцай золкай
Як пойдзе ўжо штосьці не ў лад.
Хай тое турбуе, ды толькі
Дзень новы і новы расклад.

## Залацяцца паволі

Залацяцца паволі
Сады, і лясы, і прысады,
І ахінае міжволі
Нейкі сцішаны сум,
Што ўжо адыходзіць
Не толькі высокае сонца
Ў лагоднай прасторы,
А важнейшая частка
Тваёй душы.

## Лета бабіна

Лета бабіна ўздыхала
Каляровымі лістамі.
Лета бабіна спявала
Песні-гімны закаханым.

Лета бабіна гарэла
Зыркім полымем барвовым,
Лета бабіна ўсіх грэла
Перад холадам зімовым.

Лета бабіна вяртала
Мроі ўжо пра час вясновы.
Лета бабіна сплывала
З кожным днём — у невядомасць.

## Рунь

Дождж
Дробны асенні
Зямныя абшары
Усцяж палівае.
І на палях
Навакольных
Рунь зелянець
Пачынае.
Яснее рунь,
Яснее жыццё.

## * * *

Даймае мароз
Холадам на вуліцы
Ды абуджае
У такія імгненні
Вострую прагу жыцця.



## Генадзь Мішчук

Нарадзіўся 25 студзеня 1970 года ў вёсцы Вотчына Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Ляхавецкую сярэднюю школу, курсы мастакоў-афарміцеляў і працаваў у калгасе «Новы шлях». Амаль 20 гадоў нёс службу на пажарна-выратавальным пасту вёскі Макраны. Друкаваўся на старонках газет «Звязда», «Знамя юности», «Народная трыбуна», «Голас часу», у літаратурным альманаху «Жырандоля». Першы зборнік вершаў «Чалавечы век» быў выдадзены аддзелам бібліятэчнага маркетынгу Маларыцкай раённай бібліятэкі ў 2003 годзе.
У 2008 годзе выйшаў у свет зборнік «Шчасце», а ў 2015 годзе — «Ля клёнаў і бяроз».

### Табе

Салаўіныя ночы мая,
Зарапады ў цёплым жніўні —
Пакуль сэрца ўспамін трымае,
Маладосць мая не загіне.
Хоць даўно ўжо я стаў бясчубым,
Але голас гучыць распеўна,
Калі я табе яшчэ любы,
Значыць, жыццё не дарэмна.

### Такія справы

Такія, братка, мае справы:
Час нестрыножаны імчыць,
Я ўчора чуб насіў русявы,
А сёння лысіна блішчыць.

На «вы» звяртаюцца, па-бацьку
Вітае племя маладых,
Але ж у транспарце грамадскім
Даюць мне месца не заўжды.

Дарэчы, я не прэтэндую,
Не знаць бы іншае бяды,
А чуб русявы свой шкадую —
Схаваў бы ён мае гады.

## Роднае

Казыча дождж шурпатую сцяну
І далікатна стукае мне ў шыбы,
І вельмі ўтульна ў хаце ля агню, —
Вось тут мае Мальдзівы і Карыбы.

Не трэба пальмы мне, чужая старана,
Няхай другія ад яе шалеюць,
Мне ж даспадобы, што з майго акна
Дубы-асілкі на мяжы віднеюць…

## Зямны рай

Ціхі ранак, лета край,
Журавы крычаць з балота —
Ім у вырай, нам у рай
Выбірацца неахвота.

Бо прысохлі да зямлі,
Да радзімае старонкі,
Дзе бацькі, дзяды жылі
Ля бароў, гаёў гамонкіх.

Тут, у засені дубоў,
Будавалі свае хаты,
Шчыравалі — будзь здароў —
На зямельцы небагатай.

Як бы цяжка ні было,
Ды на лёс не крыўдавалі,
Пад анёлавым крылом
Сваіх дзетак гадавалі.

І лічылі родны край
Раем з матчынай пяшчотай.
…Як і птушкам, гэты рай
Пакідаць нам неахвота.

* * *

Было заўжды, было і будзе,
І бедакі, і каралі —
Жывуць адною марай людзі:
Каб дзеці лепш за іх жылі.

Ды толькі запыты, патрэбы
Відны ж у кожнага здаля:
Для бедака — удосталь хлеба,
Улады больш — для караля.

## Бусел-клекатун

Я бусла ў дзяцінстве ранкам
Прызвычаіўся вітаць,
Нос задраўшы да буслянкі,
Каб было яму чуваць:

«Бусел, бусел, клекатун,
Схапіў бабу за каўтун,
Па балоце валачыў,
А ў карыце намачыў».

Быў шчаслівы, каб вы зналі,
Калі клекатаў адказ,
Ён вучыў мяне маралі,
Помню ўсё па гэты час.

…Пасталеў, сівыя скроні,
Ды заўжды ў бусла прылёт,
Склаўшы у трубу далоні,
Я гукаю цераз плот…

Як тады далёкім ранкам,
Не крыўдуе хай лятун,
Шлю вітанне да буслянкі:
«Бусел, бусел, клекатун…»

## Вясна

Не ўтрымаўся ад спакусы
І стары, аглухлы дзед
Да зямлі ажно нагнуўся,
Каб панюхаць першацвет.

Удыхнуў той пах вясновы,
Ад усмешкі сам расцвіў,
Не патрэбны нават словы,
Бачна й так, як дзед ажыў.

Бо вясна ўласцівасць мае:
Ажывае кожны нерв,
Салавей як заспявае —
І глухі пачуе спеў.

## Аб праўдзе

Праўда не ведае звады і меж,
Хоць часта бывае ў загане.
Бруд прыстае да светлых адзеж,
Да светлай душы не прыстане.

## 9 Мая

У гэты дзень смуткуе май,
Жалобна сыпле сваю квецень
Па ўсёй зямлі ад краю ў край,
Дзе не забылі ліхалецце.

Віхура жудаснай вайны
Не знала жалю і спагады,
Аб гэтым сведчаць курганы,
Магілы брацкія, парады.

Шануе памяць кожны род
Да скону дзён на гэтым свеце
Пра свой няскораны народ,
Дзе стаў прагалам кожны трэці.

…Хілю ў жалобе галаву:
Якой заплачана данінай
За кожны дзень, што я жыву,
За кожны дзень дачушкі, сына.

Імгненне кожнае цаню —
Вайны не трэба нам пакуты,
Хай парушаюць цішыню
Адны святочныя салюты!




## Аляксандр Рызо

Нарадзіўся 27 мая 1956 года ў Брэсце. Пасля заканчэння сярэдняй школы паступіў у Брэсцкі інжынерна-будаўнічы інстытут (цяпер — БрДТУ). Па адукацыі — інжынер-будаўнік. З кастрычніка 1978 па май 1980 года служыў у Савецкай арміі ў ГДР. Потым працаваў інжынерам у Лукенвальдскай КЭЧ у горадзе Ютэнборгу (ГДР). Пасля вяртання на радзіму з 1982 па 1989 год працаваў на розных прадпрыемствах. З 1990 па 1991 год працаваў у Будапешцкай КЭЧ (Венгрыя) начальнікам паліўнай групы, з лістапада 1991 па снежань 2021 года — на СП ААТ «Брэстгазаапарат». Вершы пачаў пісаць у школьныя гады. Першыя публікацыі з'явіліся ў абласной газеце «Заря», у «Фізкультурніку Беларусі». Друкаваўся ў альманахах «Радавод» і «Жырандоля». У 1999 годзе ў мінскім выдавецтве «Экаперспектыва» выдаў першы паэтычны зборнік «Последний лирик». Потым былі «Зима тысячелетия» (1999), калектыўны зборнік паэтаў Белграда, Харкава і Брэста «Триединство» (2012), зборнік вершаў для дзяцей «Знают взрослые и дети» (2016), «Эпоха» (2017), «Аксиома» (2019), «Память» (2020), «Под славным именем “GEFEST”» (2021). Жыве ў Брэсце.

## Роздум

*Міколу Пракаповічу*

У сярэдзіне лістапада
пад ціскам цяжарных нябёсаў,
калі сонейка гасне лампада,
разважаючы, нібы філосаф,
прыходжу ў рэшце рэшт да высновы,
што не трэба ніколі спяшацца,
бо той шлях не пракрочыць нанова.
Можа, ў гэтым сапраўднае шчасце?

* * *

Няхай шляхі ўсе ў Рым вядуць…
*Сяргей Амяльчук*

Усе шляхі вядуць у Брэст,
дадому імкнучыся з Брэста.
Жыцця даволі просты змест:
усе шляхі вядуць у Брэст.
Абраны шлях — мой крыж, мой фэст
без аніякага пратэста.
Усе шляхі вядуць у Брэст,
дадому імкнучыся з Брэста
ў мой родны кут, маё маленства.

* * *

*Иосифу Бродскому*

В середине октября в крохах лета бабьего,
улетающего в прошлое на коврах-самолётах,
сотканных из паутины в высотах,
недоступных размаху крыла птичьего,
появляется необъяснимая печаль,
как безысходности печать.
А синева глубоких небес
нависает прозрачным куполом,
лёгкость которого ощущаешь на вес,
и в этом сосуде хрупком
из голубого хрусталя
хлопают беспокойные крылья
птиц, гонимых нуждой,
предчувствием голода и холода
туда, где щедрее природа,
где вода остаётся водой.
И, словно вдогонку, на прозрачные своды
наползают серые, в пятнах, разводы,
превращая хрусталь в тяжеленный слиток,
а пейзажи для туристских открыток
портит штопка из рваных ниток.
Дни становятся разновидностью пыток,
пережить которые не хватит ни сил,
ни времени.

За́ ногу, застрявшую в стремени,
я, выброшенный из седла,
волочусь за ускользающей жизнью,
что катит мелкой рысью,
ни жив ни мёртв, дышу едва.
И, не понимая сущности происходящего,
из тупика
я вынырну по прихоти кого-то,
собирающего кубик Рубика.

## Смятение

*Памяти Евгения Евтушенко*

Первоапрельское смятение,
желанье скорых перемен
и убежденье: в дни весенние
все поднимаются с колен.
Весны целительная аура
творить способна чудеса,
жизнь после заточенья в камере
меняет мир за полчаса.
И, полон чувства благодарности
ты к небесам возносишь взор,
устав от перманентной ярости,
с собою прекращаешь спор.
А впереди вновь возвращение
и, наконец, через года
слияние, верней, сращение
с самой Россией навсегда.

## * * *

*Ивану Михайловичу Мельничуку*

Межсезонье в городе царит:
бабье лето днём, ночами — осень.
Солнце взять в недорогой кредит
дней хотя бы так на восемь,
пелену туманов и дождя
отодвинув на какую-то неделю,
и неторопливо и шутя
приближаться к новому апрелю.

## Вояж

Трясёт, качает тарантас.
Закат. Унылая дорога.
Прищур чуть утомлённых глаз.
Проездом в Брест-Литовске Гоголь.

Въездная брама, сонный страж,
а дальше, дальше, словно чудо:
великолепный антураж
и остров — лакомое блюдо.

Такого множества церквей,
Пожалуй, нет и в Петербурге.
Сей город красотой своей
обязан местным демиургам.

Уютный постоялый двор.
Можно сказать, почти Европа.
Никто не потупляет взор:
нет ни магната, ни холопа.

А завтра — августовский зной,
и нескончаемой дорогой
путь продолжает свой земной
пока ещё безвестный Гоголь.

## Последний график

*Памяти художника*
*Александра Григорьева*

Уже не встретимся мы вновь,
столкнувшись где-то на Советской,
и, обменявшись парой слов,
с учтивостью почти шляхетской
раскланяемся, пожелав
друг другу творческих успехов
и руку по-мужски пожав.
Былого памятное эхо
соединило навсегда
нас под одной обложкой вместе.
И через многие года
нас вспомнят непременно в Бресте.

## Хосе

*Иосифу Пронько*

Вжал Хосе акселератор,
Взъерепенился «Москвич».
Заскользил, как аллигатор,
без оглядки под «кирпич».

Задрожали мы с Серёгой,
вжавшись молча в дерматин.
Верилось: ещё немного —
и мы уж точно полетим.

Над просторами родными
к аргентинским берегам,
выпуская кольца дыма,
назло тёще и врагам.

Когда борт наш приземлился,
оказалось — это Брест.
Тут Хосе перекрестился.
Верит, значит. Либо — стресс.

## Лабухи

*Анатолию Марушко,*
*Александру Шевчуку*

Товарищ давний, всё ещё «лабáешь»?
Или развеялось былое, будто дым,
и ты сегодня с грустью вспоминаешь
о тех деньках, когда был молодым?
Казалась бесконечною дорога,
от перспектив захватывало дух.
И не смущала вовсе доля «бандерлога»,
ведь рядом был напарник, даже друг.
Определённей жизнь теперь гораздо.
В приоритете — дом, семья, работа.
Но просыпается, хотя не очень часто,
необъяснимое, неведомое что-то.

* * *

*Міколу Аляксандраву*

Ляцяць дзесяцігоддзі, быццам дні.
Перагарнуў яшчэ адну старонку.
Усё глыбей сівыя карані,
усё вышэй і сакавіцей гронкі.

Здаецца, што бясконцы гэты шлях.
Паспею напісаць, чаго спяшацца…
У спрэчках, сутыкненнях ды баях
не зарабіў ні грошай, ні палаца.

Я не шкадую. Пралятайце хутка, дні.
Як і віну, паэту вытрымка патрэбна,
каб адзначалі: — Гэта нашы карані!
Ён наша ўсё: і золата, і срэбра.

Але ж у іншым сутнасць, бо быццё
ёсць першаснасць, і ад яго залежыць
не толькі чалавечае жыццё,
але і тое, ў што патрэбна верыць.

## Слімакі ўсіх краін, яднайцеся!

Я слімак інтэрнэтны,
і месца маё між людзей.
*Генадзь Праневіч*

Добра слімаку жывецца.
Ён нап’ецца ды нажрэцца,
цалкам ўлезе ў інтэрнэт —
і пакрыху смокча свет.
І, прынамсі, разважае:
кепска ў пекле, кепска ў раі,
а таму лічу хутчэй —
маё месца між людзей.



## Ігар Сідарук

Нарадзіўся 23 ліпеня 1964 года ў горадзе Кобрыне Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Паэт, празаік, драматург, фатограф. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона», «Непазбежны лістапад» і інш. Жыве ў Кобрыне.

### *ТРОХРАДКОЎІ*

* * *

Гардук адцвітае.
Бардовая рыска на вуснах —
такая тонкая…

* * *

Твая бялізна — бы сціхлая птушка.
Ранкам —
віно не п’ецца.

* * *

Вецер. Дрыжыць павута.
Непрачытаны ліст
каменьчык прыціснуў.

* * *

Тонкі водар парфумы
На канечнай станцыі.
«Цягнік далей не едзе…»

* * *

Іду начным горадам.
На лавачцы адзінокай
вецер кніжку гартае.

* * *

Пыл на падваконні.
Чысты нататнік раскрыты два тыдні таму.
Хутка скончыцца кава.

* * *

Тонкім воскам растане
пах і травень шалёны,
і радзімка на правай каленцы.

* * *

Што ты, хлопча,
забыўся на гэтым старым вакзале?
Тут нават не селяцца галубы.

* * *

Так адзінока
рамонак ляжыць
на адкрытай тэрасе, залітай дажджом.

* * *

У дзверы нячутны грук.
Я ведаю, хто там.
Не спяшаюся адчыняць:
след мокры на ходнічку.

* * *

Што ж ты, сабака, са мною не плачаш?
Яна ўчора пакінула
пах палыннай расы на падушцы.

# ПРОЗА





## Лявон Валасюк

Нарадзіўся 13 снежня 1955 года ў вёсцы Песцянькі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. З 1963 года жыве ў Брэсце. Вучыўся ў сярэдняй школе № 16, якую скончыў у 1973 годзе. Працаваў на электрамеханічным заводзе слесарам. У 1974–1976 гадах служыў у Савецкай арміі чарцёжнікам пры штабе Паўднёвай групы войск у Будапешце (Венгрыя). У 1981 годзе скончыў архітэктурны факультэт Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (цяпер — Брэсцкі дзяржаўны тэхнічны ўніверсітэт). Працаваў на розных пасадах у абласным навукова-метадычным цэнтры культасветработы і народнай творчасці ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама. Потым была праца мастаком-дызайнерам на прадпрыемствах горада, у тым ліку на рэкламным камбінаце Аблспажыўсаюза, у Брэсцкім ЦУМе, Брэсцкім дзяржаўным тэхнічным універсітэце, Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна. Вершы пачаў пісаць з пятага класа школы. Першы надрукаваны верш з’явіўся ў абласной газеце «Заря» 22 кастрычніка 1982 года — «Озеро Гать» на рускай мове. Вершы публікаваліся ў газетах «Літаратурная Беларусь», «Літаратура і мастацтва», «Народная трыбуна», «Заря», «Брестский курьер», «Настаўніцкая газета», калектыўных зборніках «Дзень паэзіі — 2005», «Ягамосць» (вершы-прысвячэнні Анатолю Сысу) (2009), часопісах «Маладосць», «Полымя». Проза — у часопісах «Вожык», «Маладосць», «Дзеяслоў», «Верасень»; газетах «Літаратурная Беларусь», «Звязда», «Заря», «Народная трыбуна». Аўтар зборнікаў вершаў «Блики дня» (1999), «Краски души» (2000), «Под знаком Стрельца» (2001), «Леаніды» (2003), «Чырвоная вежа» (2004), «Позтнія сны» (2006), «Знакі на валуне» (2010), «Вечаровы настрой» (2016); кніжак прозы «Сцежкі да сядзібы (абразкі маленства)» (2008), «Вяртанне Берасцейскай Стралы» (2012), «Далёкая сядзіба» (2018), кнігі эсэ «Непрыдуманыя партрэты» (2014), альбома-каталога «Леанід Валасюк: акварэль, жывапіс, малюнак» (2019), кнігі эсэ «Ёсць такая вёска Песцянькі» (2023). Сябра грамадскага аб’яднання «Беларускі саюз мастакоў».

## Дзікі камень, альбо Апошні літвін

*Апавяданне*

Ва ўтульнай ранішняй пасцелі Антон раптоўна адчуў дотык да твару нечага халоднага і слізкага, падобнага на лязо нажа. Ад нядобрых прадчуванняў мужчына здрыгануўся і адразу прачнуўся. Змрочная цемра ахутвала стары драўляны ложак, на якім ён спаў яшчэ ў дзяцінстве. Той чырвоны драўляны ложак некалі перавезлі з бацькоўскай хаты ў дзедаву, калі маладая сям'я з дзецьмі перабіралася жыць у горад. Доўгія гады ён яшчэ служыў бабулі, часам і яму, Антону, калі той бываў наездамі ў вёсцы.

Мужчына разгледзеў цёмныя постаці людзей, што мітусіліся ля акна. Складвалася ўражанне, што няпрошаныя госці нешта шукаюць у тым месцы, дзе стаіць стары дубовы стол. Але хто яны такія і як патрапілі ў хату? Сітуацыю неабходна было вырашаць імгненна. Антон ірвануўся з пасцелі, каб запаліць святло, высветліць, хто трапіў у дзедаву хату, і прагнаць чужынцаў. І ў гэты момант ён канчаткова прачнуўся… на ложку ў сваім гарадскім доме…

Жонкі побач не было, не чуваць было і дзяцей. Святло толькі пачало прабівацца ў пакой праз занавешаныя фіранкі: шэсць гадзін раніцы. Антон прысеў на край ложка. Малюнкі і адчуванні трывожнай начы, дзіўнага, неверагоднага явы-сну ўсё яшчэ не пакідалі яго. Што шукалі незнаёмыя ў дзедавай хаце?.. І як наогул магло такое прытрызніцца?.. Мо настальгія?.. Хочаш ці не хочаш, з гадамі яна даймае ўсё мацней.

* * *

Антон — з той пары, як сябе памятае, і да самага ад'езду ў горад — любіў бавіць час пад дзедавым дубовым сталом, які заўсёды стаяў на адным месцы, у кутку між вокнамі. Бабуля Ганна калі-нікалі з усмешкай удакладняла, што гэта яе стол і дастаўся ёй у пасаг. Стол прывезлі з Крыўлян, з бацькоўскай сядзібы бабулі Ганны, калі дзед Іван ажаніўся з ёй, маладой і прыгожай. На той час ужо закончылася Першая сусветная вайна, пастунова заціхаў напал Грамадзянскай. Дзед з меншым братам Петруком і матуляю вярнуліся з бежанства. Напачатку пабедавалі вялікай сям'ёю ў радні ў суседняй вёсцы Мацясы. Пасля адбудавалі на пажарышчы сваю хату, у першую чаргу за кошт чырвонцаў, што назапасіла матуля, працуючы ў багатых данскіх казакоў. У новыя харомы і прывёў нядаўні салдат маладую гаспадыню, перавёзшы сюды і яе небагаты скарб. Працавалі, выхоўвалі дзяцей. Мяняліся ўлады, адвечнай, роднай заставалася толькі зямля, палі, лясы і балоты навокал вёскі, людзі, што жылі побач.

Стол быў прыгожы, груваскі, сціпла, але з густам аздоблены арыгінальнымі накладнымі дэталямі. Ён стаяў на круглых точаных ножках, якія бліжэй да нізу злучаліся моцнымі дубовымі брускамі — на іх дарослыя часта ставілі ногі. Па гэтых адпаліраваных да бляску брусках вельмі любіў коўзацца малень-

кі Антонік, абследуючы ніз стальніцы, засоўваючы далонькі ў патаемныя бакавыя нішы, дзе былі схаваныя няхітрыя цацкі, якія майстраваў яму дзед Іван ці прывозіў з горада бацька. Тыя цацкі ніхто са старэйшых не мог дастаць, ды ім і не было такой патрэбы. А хлопчык, у чарговы раз залазячы пад стол, намацваў у аднаму яму вядомых схронах то пластмасавую дудачку, то чорны жалезны пісталет, з якога можна было страляць пістонамі з карычневата-чырвонаю кропачкай пасярэдзіне. Асабліва рызыкоўна, і ў той жа час цікава, было пальнуць менавіта тады, калі за сталом сядзелі дарослыя і пілі гарэлку ці проста размаўлялі, смяяліся. Праўда, за падобнае свавольства даводзілася пасля забаўляцца з катом у кутку ля печы ці, у добрае надвор’е, з курамі на сметніку.

Была ў стале і шуфляда, якая высоўвалася, калі дзед намерваўся галіць парослыя сівым шчаціннем шчокі і бараду. А яшчэ Антон час ад часу даставаў адтуль кніжку ў жоўтай цвёрдай вокладцы, каляровыя алоўкі, асадку ці іншыя дробныя рэчы. Калі старыя памерлі, ён забраў на захаванне рарытэтны нож і аб’ёмны «польскі» сшытак у цвёрдай вокладцы. З процілеглага боку шуфляда адсутнічала, яе некуды падзела старэйшая сястра.

Меў стол і не абы-якую вагу, таму, пэўна, і прастаяў у дзедавай хаце больш за тры чвэрці веку на адным месцы. Раз у дзесяць, а то і больш гадоў яго адсоўвалі, каб пафарбаваць сценкі. Ну і яшчэ ў час вяселляў: жаніліся сыны, выходзілі замуж дзедавы дочкі. Звычайна за сталом абедалі і вячэралі. У святы за ім збіралася вялікая радня: тры сыны з жонкамі, дзве дачкі з зяцямі, а потым і дарослыя ўнукі са сваімі сем’ямі.

Мелася за сталом і ганаровае месца: з тарца, акурат ля акна, у якое была відна амаль што ўся вуліца і лава, на якой часта бавілі вольны час аднавяскоўцы. Любілі там пасядзець і дзед Іван з цыгарэтаю, і бабуля Ганна са сваім нязменным кіёчкам.

* * *

Бабуля Ганна казала, што яе будучы пасаг ніколі не пакідаў бацькоўскай хаты. Па словах бабулінай маці Лізаветы, да іх ён трапіў з пакояў былога замка князёў Чартарыйскіх, пабудаванага яшчэ ў XVI стагоддзі. Чартарыйскія валодалі ім у XVII–XVIII стагоддзях. Замак стаяў непадалёк ад хутара, дзе нарадзілася і вырасла бабуля Ганна, у мястэчку Коранева. З цягам часу першыя ўладары прадалі памесце новым гаспадарам, дзе ўжо працаваў нехта з бабулінай радні, за што атрымаў ладны кавалак зямлі, на якой і пабудаваліся. Бабуля расла пад прыглядам маці. Бацька, яго звалі Аксінцій, доўгі час служыў у царскім войску, біўся з туркамі і, ужо вярнуўшыся з вайны, памёр ад старых ранаў…

З пачаткам новага стагоддзя прыгожы, дагледжаны замак пачаў паступова прыходзіць у заняпад. У час нямецкай акупацыі перыяду Першай сусветнай пра былое харство і веліч напаміналі толькі разваліны. Мясцовыя гаспадары, карыстаючыся момантам, паціху цягнулі з замка ўсё што можна. Такім чынам і трапіў да бабулі Ганны прыгожы дубовы стол, які і стаў яе пасагам…

* * *

Хата, а з ёю і стол перажылі ліхалецце яшчэ адной вайны, хрушчоўскую адлігу і перабудову. Паменела жыхароў у вёсцы, менш галасоў было чутно на лаўцы дзеда Івана. Прыйшоў час, калі не стала спачатку бабулі Ганны, а праз два гады і дзеда Івана. Хата асірацела. Некаторы час там яшчэ сяліліся прыезджыя кватаранты, якіх невядома дзе знаходзіў дзядзька Сцяпан, дзедаў сярэдні сын. Урэшце і іх не стала.

Зрэдку за хатай прыглядвала старэйшая дачка Надзея, якая прыязджала з райцэнтра, але гэта ўжо было не тое. Шматлікія кватаранты павыграбалі з дому ўсё, што толькі можна. Не кранулі толькі цяжкі дубовы стол (пэўна, не хацеў трапляць у чужыя рукі), дарэшты пралежаную канапу ды стары драўляны ложак.

З часам і Надзея ўсё радзей стала пераступаць парог бацькоўскай хаты — гады бралі сваё, і толькі Антон — Антон Васільевіч — наведваўся туды раз у два-тры месяцы, каб падтрымліваць які-ніякі парадак, тым больш што жыллё цяпер лічылася за ім. Толькі ці ж упільнуеш усё?!.. Прыезджыя пасяленцы — адкуль яны толькі браліся! — і калодзежны зруб, і хлеў разабралі на дровы. У самой хаце застаўся адно толькі пакрыты пылам стол. Надзея папрасіла пляменніка забраць рарытэт у горад, каб не знікла памяць пра родную хату.

Хоць і не без прыгод, стрыечны брат і пляменнікі Антона дапамаглі яму выцягнуць стол з хаты, загрузіць у прычэп і перавезці ў гарадскі дом. Напачатку Антон паставіў фамільную рэліквію ў двары ля гаража, прыкрыўшы зверху цыратай, а ўжо наступным днём, адклаўшы ўсе справы, пачаў вычышчаць ад бруду і рыхтаваць да пакрыцця лакам.

Паклаўшы на зямлю некалькі жардзін, Антон перакуліў стол, каб вытрасці смецце, зняць густое павуцінне. Ці не ўпершыню за сто гадоў стол апынуўся перавернутым дагары нагамі. Адразу прыгадаліся дзіцячыя гульні пад сталом, валтузня з катом…

Зусім нечакана Антон звярнуў увагу на перагародку паміж нішамі шуфлядак. Толькі цяпер ён зразумеў, што сама перагародка — таксама ніша, збіты з дошак і прыладжаны знізу да стальніцы жолаб, прычым дастаткова аб'ёмны. Ці не схрон?.. І аніякіх слядоў узлому.

Антон закурыў, пастаяў некалькі хвілін у роздуме і пастукаў па дошках жолаба знізу і з бакоў. Гэта нічога не дало. Тады ён прынёс з гаража і пусціў у ход долата і малаток, пачаў акуратна адціскаць ніжнюю дошку. Калі яна паддалася, на зямлю выслізнуў запылены і парудзелы ад часу скрутак, які напамінаў загорнутае ў тканіну палена, а следам выпалі два меншыя.

Антона ажно скаланула. Страшна было нават дакрануцца да нечаканай знаходкі: а што, калі там… сляды злачынства, таемныя амулеты, загавораныя на хваробу чарапы або шкілеты пацукоў. Антон пакратаў кожны са скруткаў ламачынай, а пасля ўсё ж набраўся смеласці і ўзяў у рукі большы. Ого, нешта цвёрдае!

Сэрца Антона трывожна затрымцела-затахкала. Добра яшчэ, нікога не было побач. Найперш трэба самому разабрацца, што і як. Антон узяў у рукі большы скрутак і накіраваўся ў гараж, каб далей ад чужых вачэй, прычыніў дзверы, уключыў святло і разгарнуў парудзелую ад часу тканіну. Усярэдзіне аказалася кардонная труба, якую чарцёжнікі называюць тубусам. На светла-карычневай паверхні тубуса Антон адразу ўбачыў пацямнелую ад часу сургучовую пячатку. «О-го-о!» — толькі і вырвалася з вуснаў. Ён інстынктыўна азірнуўся на дзверы: ці не падглядвае хто ў шчыліну. Пераканаўшыся, што нікога няма, паклаў тубус на паліцу і пайшоў па меншыя скруткі. Ужо цяпер Антону было ясна, што ён натрапіў на сховішча, што праз хвіліну-другую будзе далучаны да нейкай таямніцы.

Ён перанёс у гараж меншыя скруткі, зачыніў дзверы цяпер ужо на зашчапку, і няспешна зноў падступіўся да тубуса. «Пэўна, вельмі старадаўнія дакументы?» — падумаў, няспешна паварочваючы загадкавую знаходку ў руках. З аднаго боку, хацелася прадоўжыць імгненне таямнічасці, з другога — усё яшчэ баяўся расчаравацца. Вось табе і дзед, і бабуля! Жыццё пражылі і не ведалі, на чым абедалі.

Антон набраў у грудзі паветра, выдыхнуў і пачаў асцярожна раскрываць тубус. У ім быў стос скручанай у трубку пажаўцелай паперы, а ў самай сярэдзіне — асобны ліст, на якім Антон разгледзеў план мясцовасці. Бліжэй да цэнтра чырвоным алоўкам ад рукі быў акрэслены невялікіх памераў круг. «Гэта ўжо цікава!» — прамовіў услых, задаволены тым, што не спраўдзіліся горшыя прадбачанні. Старыя лісты паперы аказаліся дакументамі, раўнюткія, каліграфічным почыркам напісаныя радкі якіх panізу былі заверaны пячаткамі. Усе дакументы на дзвюх мовах, і толькі некалькі — на расійскай, прычым «на хуткую руку».

Антон засунуў усе паперы назад у тубус, пакінуўшы толькі чарцёж-план. І якім моцным было ягонае здзіўленне, калі пры больш уважлівым разглядзе плана прачытаў знаёмыя з дзяцінства назвы.

Каб супакоіцца і прадумаць свае далейшыя дзеянні, пачаў няспешна даводзіць да ладу стол — падбіў адарваную дошку схрону, пакрыў лакам ніз і верх стальніцы.

Цяпер з ім жыла таямніца, таямніца яго роду, таго краю, дзе нарадзіўся і вырас…

* * *

Андрэй, пятнаццацігадовы сын Данілы Вайцюка, любіў хадзіць на зімовае паляванне, цягацца па навакольных балотах, палях і лясах. Гэтая любоў з цягам часу толькі мацнела. Хлопца цешылі малюнкі і гукі зімовай прыроды. Яна прыдавала сілы, мацавала здароўе, рабіла вынослівым і дужым. Андрэй спасцігаў свет, які меў шмат таемнага, непазнанага і неразгаданага.

Зімовае паляванне ў першую чаргу адрозніваецца тым, што можна дабрацца да самых глухіх, аддаленых месцаў, куды не ступала нага чалавека. Вясной,

калі ўсё навокал залівала вадою і балоты станавіліся азёрамі, марыць пра такія падарожжы не было сэнсу.

Бацька Андрэя, суровы з выгляду, дзелавіты чалавек, не дазваляў пустога бадзяння па ваколіцах. Праўда, да палявання гэта не адносілася, бо яно, на думку старога, выхоўвала мужчыну-воіна, моцнага духам і целам, здольнага пераадольваць цяжкасці, быць абаронцам сям'і і роду.

* * *

Аднаго разу з Андрэем ледзь не здарылася бяда. Пераскокваючы з купіны на купіну, ён не ўтрымаў раўнавагу і ледзь не па шыю апынуўся ў студзёнай вадзе.

— Жук! Жук!.. — закрычаў хлопец, зрываючы голас. Пальцы сутаргава хапаліся за асаку, калечыліся да крыві. Крывая алешына, за якую можна было ўхапіцца, расла зусім побач, не болей як за паўтара метра, але дацягнуцца да яе не было моцы.

Сабака апынуўся побач, на ўсю моц забрахаў-заскуголіў. Іншым ён дапамагчы не мог.

Раптоўна на пясчанай выспе на краі балота з'явілася дзяўчына, босая, у палатнянай, перацягнутай чырвоным поясам сукенцы. Яна асцярожна набліжалася да Андрэя па купінах, абапіраючыся на тычку-рагаціну, якую выламала па дарозе. Падабраўшыся, наколькі было магчыма, дзяўчына злаўчылася і рагацінай нахіліла алешыну да вады. Праз хвіліну верх дрэўца апынуўся ў руках тапельца, і цяпер ён мог падцягнуцца да камля. Кволая на выгляд алешынка не зламалася, вытрывала.

Андрэй аддыхаўся і праз некаторы час ужо быў на пясчанай выспе разам са сваёй выратавальніцай. Жук то цёрся ім аб ногі, то, стаўшы на заднія лапы і высунуўшы свой ружова-чырвоны язык, аддана зазіраў абаім у вочы, нібы дапытваючыся: «Я правільна рабіў, што голасна брахаў?..»

— Ты хто? — Андрэй разгублена глядзеў на незнаёмку, усё яшчэ да канца не верачы ў сваё вызваленне з балотнай пасткі.

— Бацькі клічуць Аленаю. У мяне яшчэ ёсць тры меншыя браты і сястра. На выспе я апынулася выпадкова, пэўна, так патрэбна было Богу. А як толькі пачула сабачы брэх, ногі самі панеслі сюды, бо змалку ведаю, што навокал багна, няма аніводнай грэблі, адно толькі непрыкметная старонняму сцяжына, па якой бацькі трымаюць сувязь з суседзямі, што жывуць за балотам… — дзяўчына зачырванелася, папраўіла на галаве хустку, запытала: — А ты хто? Як апынуўся тут, на краі свету?

— Я — Андрэй, а сабаку завуць Жуком, — адказаў ён, пагладжваючы па спіне свайго адданага сябра. — Мы заўсёды разам. Сёння без яго прапаў бы, а без цябе тым больш. Люблю біць ногі, шукаць прыгод на сваю галаву, як кажа маці.

Яны памаўчалі. Андрэй адчуваў сябе няёмка ад таго, што з ног да галавы быў у балотным брудзе, і шукаў вачыма лапік чыстай вады. Алена заўважыла гэта і падказала, у які бок ісці.

— Я пачакаю цябе тут, — прамовіла дзяўчына, нібыта даўняму знаёмаму. Было відаць, што хлопец спадабаўся Алене, ды і па ўзросце яны былі блізкімі.

Воддаль за пясчаным пагоркам віднелася прыгожая сажалка, адбіваючы люстэркам паверхні промні паўдзённага сонца.

* * *

Пры наступнай сустрэчы, пра якую Андрэй і Алена дамовіліся, развітваючыся, дзяўчына прапанавала прагуляцца па выспе да балотнай ракі Шэўня, да святога месца, Дзікага каменя, на якім пакінула сляды босых ног Божая Маці.

Андрэй прыгадваў месцы, якімі яны цяпер ішлі. Рачулку ён адкрыў для сябе яшчэ падчас першых вандровак. Аднаго разу сабака, удосталь набегаўшыся па хмызняках у пошуках дзічыны, раптоўна прапаў з поля зроку. У пошуках Жука і набрыў Андрэй на балотную рачулку, з якой той прагна хлябтаў халодную ваду.

Алена падвяла Андрэя да каменя, які велічна ляжаў непадалёк ад броду. Здавалася, што яго тут калісьці паклаў чалавек-асілак. Большая частка валуна ўрасла ў зямлю, што не дзіўна, бо месца было гразкае, асабліва ў пару дажджоў. Тым не менш верх каменя ўражваў сваёй сівой веліччу.

І ўсё ж галоўным былі сляды, якія пакінула на Дзікім камені Божая Маці, калі адпачывала на ім, пабываўшы на пакутнай Беларусі. Ад гэтага і камень быў не просты, а меў цудадзейную сілу. Алена расказала, што да гэтай спрадвечнай святыні жыхары навакольных вёсак і хутароў хадзілі па дапамогу, калі хварэлі або калі была вялікая патрэба нешта папрасіць. Божая Маці ніколі не пакідала чалавека ў бядзе. Хваробы адступалі, салдаты вярталіся з вайны жывымі, пажары абыходзілі сялянскія хаціны, град не выбіваў пасевы жыта і льну.

І пазней неаднойчы, у розную пару года, малады паляўнічы з сабакам выходзіў на бераг рачулкі, якая яму палюбілася, зарыентаваўшыся на мясцовасці, беспамылкова выбіраў правільны кірунак, з асаблівым хваляваннем падыходзіў да каменя, доўга разглядаў яго, не спяшаючыся прысесці, перахрысціўшыся, праводзіў далоняю па адбітках ног Божай Маці.

* * *

Праходзіў год за годам. Падпарадкоўваючыся бацькоўскай волі, якая супала з яго ўласным жаданнем, Андрэй паехаў у сталічны горад, доўга вучыўся, стаў адукаваным чалавекам.

Ён ніколі не забываў пра сваё выратаванне, пра знакавую ў яго жыцці сустрэчу на выспе. Андрэй сапраўды вырас чалавекам мужным, і за імкненне даць шчасце і волю дарагой для яго зямлі пазнаў горкі хлеб чужыны. Вярнуўшыся на радзіму пад канец жыцця, ён загарэўся думкай перавезці Дзікі камень у царкоўны двор, але і пяцёра добрых коней не змаглі зрушыць валун з месца. Спадзеючыся на мудрасць і кемлівасць далёкіх спадчыннікаў, адзінокі гаспадар маёнтка намаляваў дакладны план мясцовасці, абазначыўшы на ім месца

валуна, і папрасіў сталяра пакласці яго і шмат якія іншыя радавыя дакументы ў схрон.

* * *

Пра камень і сляды на ім Антон ведаў з маленства. Здаралася, бываў там і ў маладосці, грэўся пад вечар ад разагрэтага цела валуна, адпачываў у яго цені спякотным чэрвеньскім поўднем. Але ж калі тое было!.. І паўвеку назад далёка не кожны чуў пра Дзікі камень. А ўжо цяпер!..

Мо толькі ён адзін зможа адшукаць тое запаветнае месца на беразе балотнай рачулкі. Нічога на свеце не бывае выпадковым. І гэты сон, і знаходка… Яны таксама не самі па сабе. Цяпер у яго, Антона, ёсць абавязак: наблізіць Дзікі камень да людзей. Цяпер менавіта ён адказны перад Вечнасцю.



## Вадзім Жылко

Нарадзіўся 31 кастрычніка 1967 года ў горадзе Лунінцы Брэсцкай вобласці, дзе жыве дагэтуль. У 1990 годзе скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працаваў навуковым супрацоўнікам Лунінецкага раённага краязнаўчага музея, карэспандэнтам, намеснікам рэдактара газеты «Информ-прогулка». Прымаў удзел у больш як трыццаці міжнародных і рэспубліканскіх канферэнцыях па гісторыі, краязнаўстве, журналістыцы, правах чалавека і інш. Лаўрэат звання «Чалавек года — 2003 Лунінецкага раёна ў галіне культуры». З'яўляецца аўтарам звыш 9600 публікацый у перыядычным друку, зборніках, альманахах. Аўтар кніг і брашур «Ассорти: стихи и пародии», «Размова з прысутнымі. Уладзіслаў Нядзведскі: старонкі жыцця і творчасці», «Краязнаўчая справа на Лунінеччыне: даклады, паведамленні, артыкулы», «Точка на шахматной карте», «Оборванная нить: стихи и рассказы», «На старонках «Жырандолі» (2008–2021)», «Дмитрий Жилко: жизнь, творчество, шахматы…», «Безоттеночный мир, черно-белые грани… О шахматах в моей жизни», «Из истории шахмат и шашек на Лунинетчине», «Из истории клуба "Муза"« (1995–2014)», «Конспект автобиографии», «Невесомость ответа: избранные стихи и пародии», «Бег с препятствиями: избранные рассказы и очерки», «Вместо диссертации: избранные доклады на научных конференциях и краеведческие статьи», «Дмитрий Жилко: капли шахматного моря», у суаўтарстве — «Памяць. Лунінецкі раён», «Две музы: шахматные задачи и стихи», «Памятники земли лунинецкой», «Лунинетчина — край наш полесский», «Родная моя Лунинетчина», «Локомотивное депо Лунинец: 120 лет. 1885–2005», «Лунинецкий район», «Культура Лунинетчины», «На научных форумах: сборник докладов» і інш. Разам з калегамі па творчым клубе «Муза» ў 1996–1999 гадах выдаў 9 альманахаў з творамі лунінецкіх аўтараў у серыі «Галасы Лунінеччыны», у 2000–2022 гадах — 36 альманахаў у серыі «Лунінецкая муза» і значную колькасць дадаткаў да іх, у 2002–2020 гадах — 43 нумары бюлетэня «Выток» Брэсцкай абласной філіі СБП. У 1998 і 2010 гадах быў укладальнікам анталогій вершаў лунінецкіх паэтаў «Азбука поэзии» і «Азбука поэзии — 2». У 2002–2023 гадах уклаў і выдаў 24 нумары краязнаўчага альманаха «Лунінецкі сшытак» і 15 спецвыпускаў яго, да большасці з іх напісаў агляды краязнаўчай дзейнасці на Лунінеччыне. У 2017–2022 гадах уклаў 5 нумароў альманаха «Краязнаўчымі шляхамі Лунінеччыны» (выданне Лунінецкай цэнтральнай раённай бібліятэкі). Распрацаваў у 2006 годзе сумесна з настаўніцай Нінай Трэгубавай спецкурс «Лунінеччыназнаўства», які выкладаўся ў школах Лунінеччыны. У 2017 годзе распрацаваў «Літаратурную карту Лунінеччыны» як рэсурс раённай бібліятэкі. Па сцэнарыях В. Жылко зняты два відэафільмы пра Лунінец. Склаў і апублікаваў звыш 860 красвордаў і сканвордаў, выдаў на гэтую тэму зборнік «Крестословица» (Лунінец, 2002). Шмат гадоў праводзіў чэмпіянаты Лунінецкага раёна па вочным рашэнні красвордаў і чэмпіянаты раёна па інтэлектуальных гульнях. У час вучобы ў школе стаў чэмпіёнам Брэсцкай вобласці па шахматах у складзе каманды Лунінецкага раёна. Трохразовы чэмпіён Лунінецкага раёна і чатырохразовы чэмпіён Саюза беларускіх пісьменнікаў па шахматах. Працаваў шахматным трэнерам, кіраваў шахматным клубам пры ГДК. Арганізаваў і судзіў некалькі соцень шахматных спаборніцтваў — ад раённых да міжнародных. Прызёр каля 110 конкурсаў рашэння шахматных кампазіцый, удзельнік чэмпіянатаў Беларусі і міжнародных турніраў па рашэнні. Надрукаваў каля 220 шахматных задач у дзясятках газет і часопісаў СССР,

## Вандроўныя кропкі адліку

### Вось калі вам будзе 38…

Калі я напрыканцы 1970-х перабраўся ў Брэст, тут база масавага, народнага спорту была бадай што больш шырокай, чым цяпер, праз амаль чатыры дзесяцігоддзі. Хоць не было ні лядовага палаца, ні новых футбольных пляцовак са штучным пакрыццём, але наяўныя пляцоўкі, як, прыкладам, запаснное поле стадыёна «Будаўнік», былі агульнадаступнымі. У тым ліку і таму, што бясплатныя. Цяпер, калі адбылося масіўнае расслаенне народа, плата за магчымасць карыстацца нечым па факце працуе як інструмент адсячэння людзей з невысокімі даходамі. У лядовы ходзяць багатыя і іхнія дзеці. І на «Будаўнік» шлагбаум стаў закрыты многім. А бясплатную хакейную каробку на запасным полі стадыёна «Дынама» перасталі ставіць яшчэ задоўга да таго, як сам стадыён перайменавалі ў «Брэсцкі».

Між тым дзея, пра якую распавяду, адбывалася менавіта там. У 1980-я каробку ставілі і залівалі адразу, як пачыналіся маразы. Зімы тады былі не роўня цяперашнім, і доўгія тры месяцы можна было гуляць у хакей на свежым паветры і пры яркім натуральным святле. Проста райскія нейкія ўмовы! Імі мы, брэсцкія аматары, карысталіся напоўніцу. У суботу і нядзелю, само сабой, але і яшчэ пару разоў на будні, да заканчэння светлавога дня, сюды сыходзіліся мужчыны і «рубіліся» з вялікім азартам. Былі і слесары, і вайскоўцы, і міліцыянты, і настаўнікі. Будаўнікі былі, лекары. Нават друкар адзін быў, Валера.

Манера Валеравай гульні была меланхалічнай, ды яшчэ і фізуха падводзіла. Ён часта спазняўся ў перахопе, чэла абыгрывалі лягчэй, чым хацелася гульцам каманды, у якой яму выпадала гуляць. Магчыма, Валера быў падтручаны паліграфскай фарбай — тады друкарская тэхналогія ўжывала ацынкаваныя пласціны і фарбы з высокім утрыманнем таксінаў. Але нам глыбокія развагі былі чужыя! Прыйшоў, дык іграй. Ці — не прыходзь. Таму ў бок Валеры часта неслася: «Ну што ты паўзеш, як карова!!», «Ды не валаводзься ты, аддай шайбу адразу, а то зноў прывёз!», «Ты дабавіць хоць крыху можаш? Цябе ўжо школьнік урабіў» або нават «Валера, вызначся ўсё ж і скажы, за каго гуляеш!».

І аднаго разу Валера не вытрымаў і даў адказ. Агрызнуўся. «Вось будзе вам трыццаць восем гадоў, як мне, тады паглядзіце, як вы самі будзеце поўзаць, і ці будзеце».

Мы былі ў большасці сваёй, сапраўды, маладзейшыя за яго. Хто на дваццаць гадоў, хто на пяць або шэсць, як я — ужо не помню дакладна год, у які гэта адбывалася. Даўно ўжо перасягнуў я тую пастаўленую друкаром Валерам планку. І чым далей прасоўваюся ва ўзросце, тым больш ува мне весялосці, калі згадваю едкую, як думалася аўтару, рэпліку. Пры гэтым не толькі з уласнага эгаізму цешуся…

Не так даўно закончылі мы збірацца на футбол на паўвялікім полі каля адной са школ, дзе акрамя звыклых савецкіх яшчэ ям і трава маламальская ёсць, таму ў буцах прыходзілі наярваць фактычна ўсе, — каб не выпадаць у асадак. Дык

вось, прыходзіў з намі і сямідзесяціпяцігадовы адстаўнік Сямёнавіч. Сумленна адпрацоўваў ён функцыю ў абароне, але калі-нікалі выводзілі Сямёнавіча раз ці два на ўдарную пазіцыю і адпасоўвалі пад удар. Ніхто ў паддаўкі не гуляў, тым не менш здаралася, што глыбокі па гадах дзед забіваў рэальны гол, і не «пакацігарошкам», абы мяч перасёк лінію, а «пад бэльку», з шыкам і шумам.

Трыццаць восем дадаць трыццаць восем — гэта семдзесят шэсць. Бадай што не дацягнуў Сямёнавіч да двайной Валеравай нормы. Не памятаю, ці ён перастаў прыходзіць, ці перш тая «пуля» распалася. Асабліва сяброўскіх стасункаў у Сямёнавіча ні з кім не было. Яно і зразумела: зусім розныя пакаленні. Кажуць, дзесь на лецішчы ён жыў, саступіўшы кватэру дзецям. І нібыта выразалі яму апендыцыт. Але і таго ведама, што ёсць, для гэтай кропкі адліку больш чым даволі.

## Спартовыя кропкі адліку

### Кропка адліку 5. Неафіцыйны майстар

Гэтая кропка адліку стварылася без майго асабістага ўдзелу, але гэта не перашкодзіла ёй стаць маёй асабістай кропкай.

Пад час вучобы ў інстытуце хадзіў на секцыю настольнага тэніса. Нас хлапцоў шэсць з факультэта нямецкай мовы хадзіла. Два разы на тыдзень былі нашымі. Зрэдку выпадаў і трэці — калі ніхто не прыходзіў на заняткі «іспанцаў» у пятніцу.

Даваў нам дзяжурны лабарант сетку, ракеткі, шарыкі, і паўтары гадзіны мы на двух сталах шпокалі сабе ў пінг-понг на высадку. Так гэта нам падабалася, што некаторыя недзе дасталі сабе паўмяккія в’етнамскія ракеткі.

Іншым разам бывала, што ў паўпадвальнае памяшканне, дзе ставілі тэнісныя сталы, прыходзілі хлапец і дзяўчына, кандыдаты ў майстры спорту па настольным тэнісе. Яны былі не ў сініх «трэніках» з пузамі на каленях і стаптаных савецкіх кедах, як мы. Беленькія тэніскі, спартовыя шорты з акаймоўкай, яркія прыгожыя красоўкі ўражвалі. Але галоўнае, якія серыі яны выстрэльвалі! Маглі разоў дваццаць з максімальнай сілай рэзаць справа налева — яна, лупі́ць у адказ — ён, потым пераключаліся на другі бок — адно трэскат у тым склепе стаяў. А іншым разам прыходзіў крыху старэйшы за іх майстар спорту. Той не рэзаў, як ашалелы, а выкручваў-вымучваў шары, з нейкай падступнасцю, з адмысловым кректаннем нават — і тыя шары быццам бесава сіла насіла, так подла-коса, з такой ратацыяй адскоквалі яны ад стала пасля апрацоўкі тым майстрам.

Лішнім будзе казаць, што ракеткі ў іх былі о-го-го.

Але аднойчы ў бойкі гэты грукат і кректанне ля крайняга стала, — а «профі» заўсёды займалі дальні крайні стол, каб ніхто не блытаўся пад нагамі, — завітаў нейкі высокі хлапчына. Узяў у лабаранта звычайную жорсткую савецкую ракетку — фанера, з двух бакоў наклееныя тонкія гумовыя пракладкі з пупыркамі, — і па чарзе вынес спачатку кандыдата ў майстры, а потым і кандыдатку.

І майстру спорту, як ён ні закручваў і ні падрэзваў той памаранчавы прафесійны шарык, не ўдалося пазбегнуць паразы. Хлопец проста, як сякераю, з глухім непадпружыненым дапаўняльнай мяккай пракладкай стукам уганяў той шарык амаль з любой пазіцыі то ў адзін, то ў другі кут стала, а калі хітрыя прафесіяналы, здавалася, гатовыя былі адбіць яго і справа, і злева, магутна страляў па цэнтры ў падбрушша. Лікі былі, дарэчы, да непрыстойнага разгромныя: прафесіяналы набіралі два, ад сілы пяць ачкоў.

«Зрабіўшы» мясцовых грандаў, хлапчына паклаў сваю прасцяцкую, пацёртую ракетку на стол, прамовіў «Галоўнае: правільна біць па шарыку!»— і знік, як растварыўся ў пройме дзвярэй.

Мы даўно ўжо пакінулі свае перастукалкі і гапіліся на гэтую праяву. Пасля фіналу самы смелы з нас спытаў у лабаранта, а што гэта за чэмпіён. Няйначай майстар спорту?

«Ды не, — адказаў той. — Ён і не кандыдат нават. Проста добра гуляе».

*Светлай памяці Мікалая Мішчанчука (1939–2012)*

## Боль і радасць паэта

*(Мішчанчук, М. Струна надзеі : вершы, паэмы, пераклады / Мікола Мішчанчук. — Брэст : Альтэрнатыва, 2009. — 148 с.)*

У далёкім цяпер ужо 1988 годзе ў «Настаўніцкай газеце» мяне зацікавіў, узрушыў урывак з кнігі «Настаўніку пра настаўнікаў». «Пытанні сабе і іншым. Чаго б гэта ні каштавала. Не спісванне, не перапісванне, не на пяцьдзясят старонак, чужы, у спасылках і двукоссях тэкст, а на пяць, на тры — ды свой», — пачуццёва пісаў невядомы мне на той час Мікола Мішчанчук.

Падкупляла цеплыня, захопленасць, з якой аўтар гаварыў пра педагагаў-наватараў, паэтызуючы іх духоўны свет, ахвярнасць, любоў да дзяцей і прафесіі. Асабліва ўразілі ўспаміны пра першага настаўніка — франтавіка Аляксандра Аляксандравіча Севасцьянава. Гэта ён мог запрасіць першакласніка «на кансультацыю» ў невялікі халодны пакойчык у барачным будынку, чырванеў, нібы саромеючыся за вучняў, пасля чарговай іх вольнасці, ніколі не павышаў голасу, быў самым прыгожым, смелым і дужым. Настаўнік сам насіў дровы, паліў у печы, гатаваў абед. А сямігадовы госць ніяк не мог даўмець: як такое можа быць, ён жа *настаўнік*!

Вельмі хацелася быць падобным на таго пасляваеннага педагога-мужчыну, і яшчэ падумалася тады, што так захапляльна, з такою непадробнаю шчырасцю можа расказаць пра педагагічную прафесію толькі настаўнік-творца, магчыма нават — паэт. Прадчуванне не падманула: праз нейкі час у мяне была магчымасць пазнаёміцца з вершамі Міколы Мішчанчука, а значна пазней, калі Мікалай Іванавіч быў запрошаны падымаць узровень філалагічнай адукацыі ў толькі што перакваліфікаваны з педагагічнага інстытута Брэсцкі дзяржаўны ўніверсітэт, — і з самім аўтарам. Сталічны прафесар адразу зрабіў ураджанне чалавека самастойнага ў думках, неспакойнага ў творчым пошуку, а яшчэ адкрытага, добразычлівага, бескарыслівага ў высокім значэнні гэтага слова інтэлігента. Менавіта такім уяўляўся мне аўтар кнігі «Настаўніку пра настаўнікаў» і вершаваных зборнікаў «Вернасць» і «Трывожуся за белы свет».

І вось выйшла з друку новая кніга паэзіі цяпер ужо і майго, так шчасліва склалася, настаўніка, навуковага дарадцы. Ад часу выхаду апошняй прайшло амаль чвэрць стагоддзя. Мікалай Іванавіч за гэтыя гады абараніў доктарскую дысертацыю, атрымаў вучоную ступень прафесара, дапамог стаць на крыло двум дзясяткам маладых філолагаў-навукоўцаў, напісаў шмат кніжак для студэнтаў і настаўнікаў. Але ў душы яго заўсёды жыла высокая паэзія. Яе дыханне нельга не адчуць і ў акадэмічнай манаграфіі ў некалькі соцень старонак, і ў чытанцы для пачатковай школы, дзе аўтар, захоплены мілагучнасцю роднай мовы, прапануе вучням проста — без усялякіх дадатковых заданняў — адчуць задавальненне ад гучання спрадвечнабеларускіх слоў *знічка*, *верасы*, *Мілавіца*…

Галоўная якасць Міколы Мішчанчука, паэта і чалавека, — эмацыянальная і душэўная шчырасць. Найперш гэта адчуваецца ў вершах, прысвечаных маці — самаахвярнай беларускай жанчыне, якая захінула дзяцей ад бяды ў ваеннае і пасляваеннае (бацька загінуў на фронце) ліхалецце.

Вядомы паэт — шкада, забылася імя, — каб не схлусіць словам і пачуццём, перш чым напісаць першы вершаваны радок, каліграфічным почыркам выводзіў зверху: «Мілая мамачка!» Пад такім дэвізам, думаецца, пісаліся і старонкі гэтага зборніка. Паказальна, што «Струна надзеі» адкрываецца праніклівым, шчымлівым вершам «Пад маміным дрэвам прысяду». Свет без маці — «бераг, ад ракі адарваны». Сынава ці даччына здрада роднаму чалавеку, душэўная глухата дзяцей пераўтварае іх у жывых мерцвякоў:

Калі ж здрадзіў ласкавай матулі сваёй <…>
Згаснуць зоры твае і заплача твой ранак.

Узяты ў пачатку зборніка матыў гучыць і далей, пра што б ні гаварыў паэт. Нават нечаканая вершаваная рыфма спыніць, «як погляд мальвы з-за паркана, пасаджанай рукою *мамы*».

Боль страты самага дарагога на свеце чалавекам запамінальна перададзены ў скупых радках верша-развітання:

Мама пайшла ад нас —
Сцішылася ўраз
Трава ля пакінутай вёскі <…>
У кропцы змясціўся час.

У беларусаў, сведчаць мовазнаўцы, каля пяцідзесяці зваротаў да маці. У Міколы Мішчанчука, дарэчы, як і ў рэдактара ягонай першай кнігі народнага паэта Рыгора Барадуліна — на першым месцы *мама*. Так выгукнулася амаль што семдзясят гадоў таму ў далёкім Амурскім краі, так было заўсёды і так ёсць. Паэт шукае блізкія яму пачуцці ў рускай класіцы дзевятнаццатага і пачатку дваццатага стагоддзя. Як мала ў іх, геніяў, вершаў, прысвечаных маці! Выхаваныя ў большасці сваёй слугамі, хай і высокага рангу, — яны не адчулі па-сапраўднаму мацярынскага цяпла, а значыць, не змаглі перанесці яго на паперу. Таму гэткае блізкае аўтару Хадасевічава: «Мама! Малітва, каханне, годнасць і смерць — гэта ты!»

А памяць зноў і зноў вяртае паэта да вытокаў. Дзяцінства (паводле Валянціна Берастава) нікуды не знікла, а зрабілася духоўным стрыжнем дрэва жыцця, яго першым запаветным кольцам, сарцавінай. У Міколы Мішчанчука яна мацавалася бабулінай калыханкай на роднай мове ля далёкага Японскага мора, гартавалася цяжкімі ўрокамі, якія давала жыццё пасляваеннаму бязбацькавічу. Сарцавіна аказалася моцнай, надзейнай, трывалай… і ў той жа час ранімай, адкрытай, бо наступныя кругі гадавых кольцаў не прыглушылі яе дзіцячую чысціню, не пакрылі замшэлым лубам абыякавасці. І таму ёй, душы, трывожна, калі белыя чародкі хмарак над засмяглаю зямлёю Палесся разганяе «лязганне стальных драконаў», чуллівая, яна радуецца ад сузірання таго, як «алілуецца

прырода» за вокнамі цеснага вагона, як «світання светлая палоска ўплятаецца ў верхавіны дрэў» і «выбягае маліцца да ракі явар». Ёй дадзена бачыць, як «песня жаўрука, што нітка серабра, кладзецца на даланю зямлі».

А карані дрэва жыцця надзейна заглыбіліся ў родную зямлю. У новы зборнік паэзіі Міколы Мішчанчука ўвайшлі вершы, якімі ма́е поўнае права спавядацца роздумная сталасць. Трэба сказаць, што пражыта, асэнсавана, «пазнана лёсам» было нямала. Пайшлі з жыцця родныя людзі. Нават усемагутная любоў паэта — сына і бацькі — не змагла ўратаваць іх. З хваляваннем чытаў і перачытваў, пэўна, найбольш кранальныя ў зборніку радкі:

Сядзім, прыціхлыя,
Як птушкі
Пасля навальніцы.
Цяжка, напружана
Дыхаецца.

Гэта пасля развітання з *Будучыняй*… Але трэба жыць, трэба «плакаць па-даросламу», хоць так хочацца расплакацца, як у дзяцінстве, каб супакоілі і пашкадавалі. Мяне, чытача, суцяшае, што пачатковы дзеяслоў у гэтых перапоўненых жальбаю радках ужыты ў множным ліку. Разам і маўчаць лягчэй, дзелячы на дваіх невыносны для кожнага паасобку душэўны цяжар. «На беразе дабра, святла, пакут» спакойна з надзейнай спадарожніцай жыцця, «святою і сонечнаю Ладушкай» — Соф'яй Аляксандраўнай. Каханне дае сілы і з «перабітым вяслом весці лодку да берага надзеі і веры». А шлях гэты не заўсёды спакойны. Бывае, што крумкачы-пярэваратні ў салаўіным абліччы раняць сэрца руладамі, падобнымі да выбухаў шрапнелі. І трэба вытрымаць іх ядавітае цёхканне, гэтую вартую жалю радасць нямоглых і кволых душою, бо аднойчы выбраная жыццёвая пазіцыя абавязвае.

Радасць і боль… Гэтыя два словы прафесар Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі, чалавек, якога Мікалай Іванавіч лічыць адным са сваіх настаўнікаў у мастацкай творчасці (у адным шэрагу з Рыгорам Барадуліным, Міколам Аўрамчыкам, Уладзімірам Паўлавым і Ягорам Яўсеевым), нездарма паставіў побач. Любіць усіх, хто пакутуе ад душэўных ран, — гэтая спаконвечная наканаванасць сапраўднага паэта — выразна гучыць у новым зборніку Міколы Мішчанчука.

У сваёй творчасці Мікола Мішчанчук далёкі ад таго, каб паказваць жыццё ў ідэале: гэта было і аказалася нікому не патрэбным. Не віна аўтара, што ў новым ягоным зборніку боль стаў на першае месца. Пякучы, ён напятай струной гучыць найперш у паэме «Сачыненне пра дабро». У пару «дэфіцыту» дзяўчаткі-школьніцы, тыя, «каго, можа, і каханымі назавуць», збіваюць аднакласніцу за тое, што паабяцала і «не дастала» модныя красоўкі. Б'юць зацята, без літасці, па-мужчынску. «Што такое жорсткасць? — задае пытанне паэт у адным з лірыка-публіцыстычных маналогаў, з якіх складаецца твор, і дае адказ: — Гэта зара пачарнелая». Усё, і злое таксама, пачынаецца з дзяцінства — школы, сям'і, дарослых, якія марнуюць час у пошуку прывідных даброт жыцця. Як вынік з'яўляюцца яны, маладыя, з абмежаванымі духоўнымі запатрабаваннямі людзі, якім вядома адно толькі слова — «дай!».

Філасофія жыцця лірычнага героя Міколы Мішчанчука заключаецца ў тым, каб ісці да людзей «вучыцца, а не вучыць», каб «на апошнім міліметры» дапамагчы ўсім, хто варты радасці. Запаў у памяць алегарычны радок з адной танкі: «Спяць крылы душы яго [бору, сасонніку]». Адразу падумалася пра аўтара. Не, крылы душы яго не спяць. Яны ўзняты, шырока распраўлены, яны напружана вяслуюць, і пад іх засцярогай утульна маладым вучоным, якія толькі рыхтуюць сілы для самастойнага палёту і, што й казаць, нярэдка забываюць пасля ў мітуслівай плыні жыцця таго, хто дапамог (крэсліў, правіў і перапісваў) сцвердзіцца ў жыцці. Мудрыя Настаўнікі даруюць маладосці і не такое, не выносяць (паводле Фёдара Янкоўскага) «вечны прысуд на ганьбаванне таго, хто здрадзіў», і ўсё ж… Напэўна, нездарма прыйшла Міколу Іванавічу думка перакласці «На пасеў лесу» блізкага яму па духу Яўгенія Баратынскага:

Ляцеў душой да новых, маладых,
Любіў і песціў іх няважкі колас,
Я дні згубіў шуканнем сэрцаў іх,
Пачуццяў светлых падаваў ім голас.
Няма адказу!..

Спадзяюся, што пра пераклады Міколы Мішчанчука не адзін раз выкажуцца прафесійныя літаратурныя крытыкі і вучоныя-філолагі, бо ў такім аб'ёме вядомыя рускія паэты Яўгеній Баратынскі, Іван Бунін і Уладзіслаў Хадасевіч пададзены ці не ўпершыню. Боязь перастварэння на родную мову рускай паэтычнай спадчыны выразна адчуваецца ў асяродку айчынных перакладчыкаў, і многія выдатныя паэты, якім не пашчасціла трывала замацавацца ў школьных хрэстаматыях, губляюцца, застаюцца ў сваім часе і не могуць праз тоўшчу гадоў данесці голас да нашчадкаў. Між тым чытачу цікава ведаць, чым жылі, што не прымалі, якія духоўныя ідэалы адстойвалі гэтыя людзі, як цікава таксама разважаць-здагадвацца і пра тое, чаму перакладчык спыніўся на канкрэтным творы: ці то натрапіў на «свой», напісаны паўтара стагоддзя назад верш, ці то знайшоў адказ на пакутлівае пытанне, якое не давала спакою не адзін дзень і год, ці проста здзівіўся глыбіні аўтарскага вобраза… Хочацца спадзявацца, што зробленыя на высокім мастацкім узроўні пераклады Міколы Мішчанчука дапамогуць маладому чытачу адкрыць невядомыя яму імёны рускіх аўтараў і прыахвоцяць да чытання паэтычнай класікі.

* * *

Верылася, што гэты выпакутаваны ў нялёгкі, драматычны час зборнік акрыліць аўтара на новыя творчыя пошукі, а струна надзеі і найперш радасці будзе выразна і мажорна гучаць у яго наступных кнігах паэзіі і прозы, у падручніках і метадычных дапаможніках. Вельмі шкада, што так не атрымалася… Але ўсё тое, што паспеў стварыць аўтар, — важкі ўнёсак у скарбніцу роднай мовы.

*Мікола СЯНКЕВІЧ*



**Мікалай Мішчанчук**

Нарадзіўся 7 верасня 1939 года на прыіску Майскі ў Амурскай вобласці, хаця радзіма бацькоў — Міншчына. Скончыў Мінскі педінстытут (цяпер універсітэт імя М. Танка) у 1962 годзе, там жа і аспірантуру. Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт БелАН. З 1996 года працаваў ў Брэсцкім дзяржуніверсітэце імя А. С. Пушкіна. Аўтар і суаўтар шматлікіх манаграфій, артыкулаў, кніг і падручнікаў для вучняў, студэнтаў, настаўнікаў беларускай і рускай літаратуры. Выдаў зборнікі паэзіі «Вернасць» (1979), «Трывожуся за белы свет» (1984), «Струна надзеі» (2009). Мікалай Іванавіч памёр 5 кастрычніка 2012 года. Жыў у Брэсце.

## *ПЕРАКЛАДЫ З ПОЛЬСКАЙ МОВЫ*

*Ян Каспровіч*

### Куст дзікай ружы ў цёмных смярчынах

У скал завалах цёмнасмярчынскіх,
Дзе паўлінавокія дрэмлюць ставы,
Куст дзікай ружы ў чырвоных пырсках
Малюе след свой на чорных скалах.

Каля падножжа трава буяе,
А збоку — строма гары высокай,
І касадрэвіны ўсю навокал
Прастору голлем перавязалі.

Самотны, сумны, задумны нейкі,
Ён свае скроні туліць да сценкі,
Нібы страшыцца злавеснай буры.

Навокал ціша… Ліст не здрыгнецца.
А спарахнелая лімба ўецца,
Нібы бароніць куст ад віхуры.

*Браніслава Астроўска*

## Журавы

Над пожняй пустой і панылай,
Над пажухлай травой і над ярам
Адляталі кліны жураўліныя…

Доўга-доўга рассякалі бязмежжа
Пад аблокамі.
Ляцелі па шэрым небе,
Над голым полем і борам,
У пустцы безнадзейнай восеньскай,
Адляталі, не чуючы нікога, нічога…

Шнуры за шнурамі, шнуры за шнурамі,
Гэй, гэй,
Ляцелі над палямі,
Знікаючы,
Як сон… як сон…

Помню… жыццё маё прайшло гэтаксама,
Як тыя журавы, што ў імгле адлятаюць…

Як тыя журавы…

*Францішак Навіцкі*

## Елка

Лёс кідаў яе так бяздушна, сурова, пагардна
Сярод курганоў векавечных і горных разломаў,
Яна ж ажывала, адольвала боль перуновы,
Маланкі, што цэлілі ў грудзі і сэрца няшчадна.

Тытаны з гары на яе паглядалі з усмешкай,
Яна ж, немаўлятка, змагалася з смерцю нястомна
У змрочнай цясніне, было дзе няўтульна і цёмна,
Сваю бараніла цяжкую міжгорную сцежку.

Дарэмна халодныя скалы трымалі карэнне плячыма,
А тыя ўпіваліся ў грудзі іх жорстка-тугія —
Вада, як аркан, навісала з-пад неба нястрымна.

Той бой быў упарты, кароткі, і трэснулі скалы сівыя.
Закончана ўсё — аскаболкі нясуцца ў страмніну…
І над некропалем свету стагоддзі ізноўку застылі.

*Вацлаў Вольскі*

*** * ***

Імчымся ў шалёным віры на арбітах,
У космасе змрочным планет дамавіны,
Як марскіх крэйсераў сталёвыя спіны,
Падчас застываем на скалах гранітных.

Сфінкс з тварам застыгла-каменным ільвіным
Зялёныя пасмы кладзе на граніты
У думцы глыбокай аб часе забытым,
Вартуе жывых цел магілу штодня, штохвілінна.

Пад позіркам зорак блішчаць саркафагі чарноццем —
Выявы трагічных, панылых, як смерць, сілуэтаў,
А побач ляжаць прызабыта сшарэлыя косці.

*Багуслаў Адамовіч*

## Кузня

У бездані вечнай, дзе дым ліжа краты,
Ёсць кузня Хаоса… Тытаны пазменна
Працуюць, прыкутыя, дружна, заўзята —
З касмічнае глыбы куюць свет страшэнны.

У сполахах робяць нязгасных пажараў,
І глыба пад стук малатоў паддаецца,
Агністых вясёлак крывавяцца хмары —
Тут будзе зямлянам выкутае месца.

Гудзе горн, і Вечнасць змрок асвятляе.
Два волаты, кузня ды іскры — бясконца
Ляцяць у бязмежны прастор і згасаюць…
З тых іскраў адна — наша светлае Сонца.

*Светлай памяці Леаніда Філатава (1939–2023)*

## Выбягаю насустрач хараству

*(Філатаў, А. Страла жыцця : мініяцюры, апавяданні, народны гумар, аповесці, вершы / Аляксей Філатаў. — Брэст : АТТ «Брэсцкая друкарня», 2007. — 248 с.)*

Унутраны свет чалавека-творцы падобны (паводле Льва Выгоцкага) да станцыі, да якой вядуць пяць шляхоў і ад якой адыходзіць толькі адзін, і той пасля жорсткай барацьбы. Чатыры застаюцца на станцыі. Гэтае «чыгуначнае» параўнанне, на мой погляд, удала раскрывае сутнасць, вытокі творчасці аднаго са старэйшых пісьменнікаў Берасцейшчыны Аляксея Георгіевіча Філатава, чалавека, што (якая там «другая палова сёмага дзясятка»!) працуе і жыве напоўніцу, не захінаючыся ад спакусаў жыцця, не хаваючыся за ўзрост, калі трэба падаць руку дапамогі. Цягнік, якому ўдаецца ўсё ж вырвацца са станцыі, — гэта творчасць, кнігі, што нараджаюцца ў выніку глыбокага і болеснага роздуму над праявамі цяперашняга жыцця і дамешваюцца ўражаннямі ад пражытага, перажытага, прачытанага, «лёсам пазнанага». Усё гэта віхурыцца ў свядомасці, мучыць, не дае спакою творцу.

Дзявятую па ліку кнігу пісьменніка склалі мініяцюры, апавяданні, эсэ, незакончаная аповесць і вершы.

Лірычныя мініяцюры — здаўна ім аблюбаваная літаратурная дзялянка. Гэта толькі недасведчанаму ў творчай працы чалавеку можа здацца, што абразкі, мініяцюры, запісы, міні-эсэ — «для лянівага таленту». Тройчы «не»! Мініяцюра, перакананы сам аўтар, стаіць у адным шэрагу з прытчаю і «з’явілася найстаражытным жанрам на свядомай, можа, нават і непісьменнай яшчэ зямлі». Менавіта ў лірычных мініяцюрах найбольш выяўляецца талент Філатава-празаіка. У іх жа прасочваецца не раскрыты яшчэ ў поўнай меры ягоны патэнцыял паэта-лірыка.

На практычных занятках з будучымі настаўнікамі пачатковых класаў ужо колькі гадоў мне дапамагаюць буслы з філатаўскага «Вяртання». Па-першае, уражвае мова, мастацкая дэталь. Нельга не прызнаць, што гэтым прыёмам Філатаў-празаік валодае па-майстэрску. Прычым дэталь ягоная тым больш «б’е ў сук», чым карацейшы твор. Давайце прасочым, як ашчадна і ўдала адабраны аўтарам моўныя сродкі ў згаданай вышэй мініяцюры.

Бусел распушыў бараду, паклаў у яе доўгую чырвоную дзюбу… Яго суджаная… павольнымі ўзмахамі паўраспушчаных крылаў вытанцоўвае… свайму ўладару і абранніку першае на радзіме вітанне. Ён паглядзеў крыху раскосым мудрым чорным вокам на будучую гаспадыню ягонай буслянкі, паклаў на спіну галаву, раскрыў дзюбу, каб паведаміць на ўвесь абшар сваю радасць, а клёкату няма, як няма ў яе…

Паважаныя настаўнікі роднай мовы! Адкладзіце на час убок «акадэмічныя» зборнікі дыктовак (яны вам ужо надакучылі) і папрасіце вучняў запісаць некалькі сказаў з «Вяртання» (а то і ўвесь тэкст), паназірайце разам з імі за вобразаўтваральнай функцыяй дзеясловаў і прыметнікаў, спытайце сваіх выхаванцаў, чаму і пра што маўчаць буслы.

Пра мастацкае слова пісьменніка хочацца сказаць трохі шырэй. Уся кніга напісана дагледжанай літаратурнай мовай, разумна прыпраўленай асобнымі лексемамі, уласцівымі мясцовым гаворкам. Мова гэтая жывая, натуральная, не суконная, не штучная, не кніжная. Мне, чытачу, даспадобы і філатаўскае «прымастаколіўся», і «раскамарквацць», і «ўсенькі» — увесь чыста, да кроплі, да астатку. Навукоўцам-філолагам упору зацікавіцца фразеалагізмамі (не ўпэўнены, што ўсе яны зафіксаваны адпаведнымі слоўнікамі): «увесь час ім сабакі гаршкі білі» — браты варагавалі; «на адной чэрані босымі пупамі пякліся» — разам гадаваліся; «гаспадарку весці — не садном трэсці», «мондры, як Саламонавы порткі»; «сваёй лямішкі накалаці, потым чапялою грукаці» — пакінем без каментару.

Мова выцякае з глыбіняў сялянскага жыцця, яна сакавітая і трапная ў абмалёўцы вобраза, перасыпана народнымі выслоўямі, прымаўкамі, адточана карпатліваю працаю над словам.

Тэматычная палітра ўключаных у кнігу мініяцюр надзвычай разнастайная. «Чый ты будзеш», «Рукі з кішэняў!», «Перамога» — балючая памяць пра вайну, што апякла сваім вогненным крылом першыя гады жыцця будучага пісьменніка. Асабліва ўражвае (тыя самыя мурашкі па скуры) пачатак «Перамогі».

«У сорак пятым ранняй вясною на вачах галоднага, ледзь жывога натоўпу біў мяне, пяцігадовага, паскам па спіне ўласавец. Біў за тое, што я даеў пакінутую лагернай аўчаркаю кашу. Натоўп не бараніў мяне, зайздросціў, бо я крышку падмацаваўся…»

Ці патрэбна тут нешта гаварыць?.. Або яшчэ: сляпы стары сячэ дровы, тапарышчам адмерваючы даўжыню прутка («Чый ты будзеш?»); нямко гіне на вачах дзіцяці, бо не чуе, не можа зразумець нямецкае «Хэндэ хох!» і трымае рукі ў кішэнях кажуха («Рукі ў кішэнях»).

З уласцівым яму сарказмам і ў той жа час, так мне здаецца, са шкадобаю («эх, людзі, людзі!») піша Філатаў пра звычайную чалавечую дурноту, душэўную глухату: адстаўны кантужаны капітан, дырэктар школы, у адлігу прымушае ўвесь клас паўзці ад школы да клуні. І папаўзлі, а што было рабіць? («Рукі з кішэняў!»)

Мудра, з пачуццём замілавання гаворыць пісьменнік пра сваю любоў да прыроды. Глядзіш, здараецца, на тое, у што ператварае зямлю чалавек разумны, і, грэшным чынам, іншы раз хочацца далучыцца да думкі аднаго з філатаўскіх персанажаў — вясковага філосафа: «Зямля для раслін і жывёл Богам дадзена, а чалавека д’ябал на ёй пасяліў».

Яшчэ адна балючая тэма — лёс роднай мовы. І тут не ўстрымаюся ад цытаты: «Адразу насустрач яму (гаспадару, што зранку зайшоў у хлеў. — *М. С.*) свіснуў шпачок, мяўкнула, выгнула спінку котка, рохнулі свінні, фыркнуў, ба-

савіта заіржэў жарэбчык, мыкнула мызя, дзёрнуў пяюн, квокнулі куры, нават трус тэпнуў лапаю ў падлогу. Кожны павітаўся на дадзенай яму Богам мове. А гаспадар уздыхнуў…»

Наўмысна не будзем працягваць далей, чытач знойдзе. Ёсць ад чаго ўздыхнуць улюбёнаму ў роднае, дадзенае Богам слова гаспадару (чытай: пісьменніку). Трывога за лёс роднай мовы гучыць і ў іншых творах, што сабраны ў гэтай кнізе. Скажыце, калі ласка, як можна ставіцца да прыгожага і таленавітага хлопца па прозвішчу Чаромушкін, калі і «бацька ягоны, і дзед, і дзедаў дзед былі Баранамі»?.. Прысуд аўтара падобным «чаромушкіным» адзіны: баран ён і ёсць баран (тут ужо з маленькай літары).

Здзіўляе, наколькі моцна трымае аўтар у памяці (на якую, дарэчы, часта беспадстаўна скардзіцца) назовы роднага краю, як беражліва ставіцца да кожнага тапоніма, да кожнай мянушкі. Толькі падумаць: у адных Ляхаўцах каля дзвюх тысяч мянушак! А кожная ж не ўпала з неба, за кожнай свая, сумная або вясёлая гісторыя. І гавораць з чытачом са сваіх прызб, панадворкаў, свіранаў, «святліц» кемлівы, востры на язык дзядзька Капшук, дасціпны сваяк шолахаўскага дзеда Шчукара Глаўная Вешч, яшчэ тая — не кладзі пальца ў рот — бойкая Оплэўка.

Скразная тэма ўсёй творчасці Аляксея Філатава — любоў да роднага кутка, да ўсяго жывога на зямлі бацькоў, да роднага слова, любоў да жанчыны-маці і каханай жанчыны. Любоў, якую прынята называць каханнем, па-юначаму цнатлівая, шчырая, нават узнёслая. Пісьменнік не асуджае жанчыну, нават ва́ртую таго, бо ёсць найвышэйшы Суддзя («Зязюляняты»), схіляе сівую галаву перад жанчынаю-працаўніцаю («Злодзей», «Дзве сястры», «Святая грэшніца»). Асабіста ў мяне салёны камяк у горле, калі ў замалёўцы, прысвечанай Міхасю Рудкоўскаму, чытаю радкі пра тую адзіную для паэта Жанчыну, якая зрабіла яго шчаслівым (якой ён даў адчуць сябе шчаслівай) на працягу «двух гадоў, чатырох месяцаў і дваццаці чатырох дзён».

Ці вось пра сваё, інтымнае: «Цалюткі тыдзень Бог дараваў прачынацца пад песню грабянца ў золаце яе валасоў, маладых, расплеценых, раскатурханых нашым спапяляючым абоіх каханнем».

Прыгожа, чыста па-мужчынску. Не, нездарма жанчыны любяць сапраўдных паэтаў!

На адным дыханні чытаюцца кароткія згадкі пра сяброў-пісьменнікаў. Што зробіш, многім з іх мы аддаем даніну павагі вельмі позна, наіўна думаючы, што Яны заўсёды будуць побач, што наперадзе цэлае жыццё. Кароткія эсэ — шчымлівыя словы ў вянок памяці Міхася Рудкоўскага, Міколы Купрэева, Сцяпана Крываля, Васіля Гадулькі, Васіля Сахарчука, Аляксея Майсейчыка — нельга чытаць без душэўнага хвалявання. Яно і падумаць: усе згаданыя творцы — равеснікі аўтара, а то і маладзейшыя. На колькі самабытных талентаў пабяднела наша Берасцейская зямля толькі за апошнія паўтара дзясятка гадоў!

Знайшлося ў Аляксея Філатава добрае слова і пра тых, хто імкнецца данесці да «магчымага чытача» сваё слова ў няпросты для творчага чалавека час. «Пра чалавека трэба гаварыць, пакуль ён чуе», — кажуць у народзе. І мы чакаем ад

шаноўнага аўтара новых твораў згаданага жанру. Перакананы, што хваткая памяць пісьменніка ўтрымлівае матэрыялаў на ладны том.

Пра апавяданні пісьменніка ўжо неаднойчы ішла размова ў друку і на тэлебачанні. Многія з іх — «Стары», «Святая грэшніца», «Чый бэз?» — друкаваліся ў «Зары» яшчэ ў бытнасць маю старшынёй літаратурнага аб'яднання, і, паверце, ніводнае не заставалася без добразычлівага чытацкага водгуку. Што да апавяданняў «Чый бэз?», «Стары», — асабіста я настойліва рэкамендаваў бы складальнікам праграм па сучаснай беларускай літаратуры ўвесці іх у школьныя падручнікі.

А завяршыць развагі пра кнігу «Страла жыцця» хочацца словамі з аднайменнай лірычнай мініяцюры, у якой увесь Аляксей Філатаў. «Я выбягаю насустрач хараству. І зноў нацягваю, колькі здужаю, цеціву свайго падношанага сэрца. І хоць стыне ў ім кроў, атухае шал біцця — доўжыцца палёт стралы майго жыцця».

*Мікола СЯНКЕВІЧ*

## Апошні капшук

Неяк напрыканцы дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя ў кніжнай краме «Искра» на рагу вуліц Пушкінская і Карла Маркса трапіла на вочы кніжка прозы «Дарога» (палескія аповесці) берасцейскага аўтара Аляксея Філатава, якую я, не доўга думаючы, і набыў. Праз нядоўгі час пачуў ад знаёмага літаратара, што адбылася і прэзентацыя гэтай кніжкі на вуліцы Савецкай у знаёмым некалі памяшканні, дзе побач я працаваў раней…

Такім чынам, я быў ужо тады падрыхтаваны для знаёмства на пачатку новага стагоддзя і тысячагоддзя з вядомым берасцейскім празаікам Аляксеем Філатавым, якое і адбылося з цягам часу. Да таго ж даведаўся, што доўгі час Аляксей Георгіевіч і жыў непадалёк ад майго дома на Граеўцы ў Брэсце, калі працаваў на чыгунцы. А з часам літаратар і кватэру атрымаў на вуліцы Асіпенкі непадалёк ад маёй 16-й школы, дзе я правучыўся ўсе дзесяць гадоў. Такая вось атрымалася маленькая гісторыя майго знаёмства з Аляксеем Філатавым — чалавекам няпростага лёсу, цікавага, бурлівага жыцця…

Мне менавіта чамусьці хочацца называць яго мастаком, мастаком слова. Ён увогуле, як чалавек эмацыйны, неспакойны да рознабаковых праяў жыцця, уражвае кожны раз пры сустрэчы сваім здаровым зарадам той энергетыкі, якая трымае ў добрым працаздольным тонусе чалавека-творцу. Я бачу заўсёды пры сустрэчы шчырага, моцнага духам і целам чалавека — сапраўднага беларуса. Аляксей Філатаў падаецца мне тым згусткам энергіі, якая штодзённа выліваецца на паперу ў выглядзе запамінальных слоў, з якіх складаюцца адпаведныя цікавыя тэксты прозы, за якую мы паважаем і любім пісьменніка. Здаецца, што чалавек, які з самага маленства апынуўся ў невыносна цяжкім віры жыцця, страціў бацькоў, ішоў праз страшнае ваеннае і пасляваеннае ліхалецце, не змо-

жа ў сваім жыцці так моцна любіць тое самае жыццё, глядзець на яго вачыма з вясёлым жыццесцвярджальным агеньчыкам, які калі-нікалі ад успамінаў крыху цяжэе, гасне. Пісьменнік, нягледзячы ні на што, мае тыя моцныя жыццёвыя карані, якія жывяцца заўсёды народным непахісным духам, вераю ў лепшае будучае і цвёрдаю жыццёваю пазіцыяй…

Аповесці, апавяданні, лірычныя замалёўкі і гумарэскі Аляксея Георгіевіча кранаюць чытача сваёю каларытнаю моваю, жывапіснасцю, запамінальным сюжэтам… Проза літаратара захапляе своеасаблівасцю жыццёвых сітуацый, з густам паказаных Аляксеем Філатавым, які ў сваіх творах моцна трымаецца народнага жыцця людзей Палесся, не толькі берасцейскага, але і суседняга — валынскага. Ён выступае не проста як сведка апісаных падзей, але як іх удзельнік. Гэта адлюстроўваецца заўсёды і ў той народнай мове, якую Аляксей Георгіевіч удала выкарыстоўвае ў сваіх празаічных творах.

Арыгінальная манера пісьма, праўдзівасць апісання роднага краю, яго побыту, гаворкі надае творам пісьменніка непаўторны каларыт. Працуючы не так даўно над мастацкім афармленнем яго перадапошняй кніжкі «Страла жыцця» (2007), якая складаецца з мініяцюр, апавяданняў, гумарэсак, я вельмі ўважліва перачытваў усе тэксты, каб як мага мацней адчуць душу аўтара, яго літаратурны талент, яго адносіны да герояў сваіх твораў. І недарма гэтая кніжка была адзначана ў тым жа годзе літаратурна-мядовай прэміяй «Паўпуда мёду», якая ўручаецца па ініцыятыве ўпраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама пчаляром-паэтам з Пружанскага раёна Міколам Папекам. Асаблівую цікавасць у гэтай кніжцы выклікае раздзел «Не забуду вас, хлопцы», у якім шмат аповедаў пра сяброў-пісьменнікаў. Некаторых ужо няма ў жывых, але Аляксей Філатаў не забывае пра іх… Таму так пранікнёна і чула піша пра жабінкаўскіх паэтаў Васіля Гадульку, Васіля Сахарчука, якія заўчасна пайшлі з жыцця, пакінуўшы запамінальную паэтычную спадчыну. З асобай любоўю піша пра такіх літаратараў, як Васіль Жуковіч, Мікола Сянкевіч, Аляксей Бакуменка, Сцяпан Крываль…

Як адзначана, асноўнай дамінантай творчасці старэйшага пісьменніка Берасцейшчыны з’яўляецца любоў. Любоў да роднага краю, да жанчыны, маці, да дзяцей, увогуле да нашага навакольнага жыцця.

З цеплынёй і ўдзячнасцю Аляксей Філатаў успамінае літаратурныя «чацвяргі» — пасяджэнні літаратурнага аб’яднання пры абласной газеце «Заря» ў Брэсце, дзе вучыліся адзін у аднаго Мікола Засім, Уладзімір Калеснік, Міхась Рудкоўскі, Мікола Купрэеў (некалі сказаў у прыватнай размове Аляксею Філатаву: «Ты, Філатаў, не празаік! Ты — мастак, ты — паэт!»), Васіль Жуковіч, Іван Мельнічук, потым Мікола Пракаповіч, Алесь Каско і іншыя.

Ім было ўтульна знаходзіцца побач. Маладыя паважалі старэйшых, а старэйшыя па-бацькоўску ставіліся да маладзейшых. Было што паслухаць, на каго паглядзець. Што ні чалавек быў, то асоба.

Нарадзіўся Аляксей 13 мая 1939 года ў вёсцы Бабінічы Віцебскага раёна. Сям’я Філатавых прыехала на Берасцейшчыну пасля вераснёвых падзей

1939 года. Маці, Фядора Восіпаўна, пасля заканчэння Віцебскага педагагічнага інстытута працавала ў Брэсцкім педвучылішчы. Бацька, Георгій Фёдаравіч, атрымліваў вышэйшую адукацыю ў Маскве, адкуль і трапіў на фронт.

Аляксей з маці жылі ў Маларыце ў цёткі Марыі Восіпаўны, якая працавала завучам Маларыцкай сярэдняй школы № 1. У першыя ж гадзіны вайны Аляксей асірацеў: маці загінула ад першага нямецкага снарада, які разарваўся ля школы ў Маларыце. Хлопчык, паранены ў галаву, трапіў у мясцовы шпіталь, які ў хуткім часе захапілі немцы. Так для будучага пісьменніка пачалася вайна.

Усынавіў хлопчыка Аляксей Нічыпаравіч Афанасьеў — дырэктар Ляхавецкай школы. Шмат чаго давялося перажыць хлопчыку ў маленстве, у тым ліку фашысцкі канцлагер. Сям'ю Афанасьевых Аляксей Георгіевіч заўсёды ўспамінае з пяшчотай, бо найлепшыя чалавечыя якасці ў яго былі выхаваны там.

Ужо пасля школы Аляксей Філатаў скончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Вучыўся завочна на філалагічным факультэце Брэсцкага педагагічнага інстытута, які скончыў у 1971 годзе. У інстытуце завязалася шчырае сяброўства з Уладзімірам Калеснікам і Аляксеем Майсейчыкам.

Працаваў пісьменнік майстрам на чыгунцы, галоўным інжынерам у дарожным будаўніцтве, журналістам і настаўнікам — гэта дало багаты жыццёвы вопыт і матэрыялы для шматлікіх празаічных твораў, для будучых кніг. Да таго ж Аляксей Георгіевіч доўгі час працаваў выкладчыкам фізкультуры і трэнерам па лёгкай атлетыцы, сам быў спартсменам. Усё гэта надае яму моцы быць не толькі ў добрым фізічным стане, але і трымацца ў літаратуры на пэўным узроўні, выжываць у няпросты цяперашні час фінансавага крызісу: зарабляць крыху грошай да ўмоўнай пенсіі…

Аляксей Філатаў жыў у пасёлку Мухавец Брэсцкага раёна, дзе да выхаду на пенсію працаваў настаўнікам. Але пра родныя Ляхаўцы ў Маларыцкім раёне гаворыць, што «гэта была не проста вёска, а нейкі цуд: нешта першароднае і непаўторнае»… Менавіта таму галоўным аб'ектам творчасці празаіка сталі родныя мясціны, землякі-маларытчане. А кніжка «Ляхавецкая торба» (1992) зрабіла ляхаўчан падобнымі да сусветнавядомых габраўцаў. У сваіх творах, блізкіх да анекдотаў, пісьменнік натуральна выкарыстоўвае жывую гутарковую мову вяскоўцаў.

Першыя творы пісьменніка былі надрукаваны на старонках маларыцкай раённай газеты «Сельскае жыццё» ў 1958 годзе — апавяданне «Зышліся».

Кніга аповесцяў «Дарога» (1997) — удзячнае слова сапраўдным настаўнікам, якія сустракаліся пісьменніку на жыццёвым шляху, ім прысвечана гэта кніга.

Зборнік «Адарваць ад сэрца» (2000) уганараваны прэміяй «Берасцейская зорка — 2000». Ён прасякнуты шчымлівымі ўспамінамі пра родную і прыёмную маці, якім пісьменнік абавязаны многім. Увогуле ўся біяграфія Аляксея Філатава змешчана на старонках яго кніг.

Кніга «Жывая зямля» (2001) складаецца з лірычных мініяцюр і гумарыстычных апавяданняў, у якіх дасканала адлюстроўваецца жыццё роднага краю

і яго жыхароў. Пільная назіральнасць за чалавечым жыццём адлюстроўваецца ў падборцы больш багатых памерам і зместам апавяданняў гэтага зборніка.

За ўсе пяць грунтоўных кніжак прозы Аляксей Філатаў быў уганараваны ў 2007 годзе дыпломам імя Уладзіміра Андрэевіча Калесніка берасцейскай філіі СБП, які атрымаў з рук Ніны Мацяш, у той час старшыні літаратурнай філіі.

На пачатку 2013 года была выдадзена нарэшце доўгачаканая кніжка прозы Аляксея Георгіевіча «Жывому — жыць (Споведзь качагара)» у сталічным выдавецтве «Кнігазбор» (у бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка», выпуск 38). Гэтая кніга стала адзінаццатай па ліку ў творчым лёсе пісьменніка. Да таго ж яна рабілася і выдавалася да будучага 75-годдзя аўтара. Новая кніга — працяг папярэдніх. Яна пра Радзіму, маці, мову, каханне, пра складаны асабісты лёс і лёс пабрацімаў-творцаў, пра веру ў жыццё, як напісана ў анатацыі да гэтай кнігі.

Мы зноў сустрэліся ў прозе Аляксея Філатава з лірычнымі замалёўкамі родных мясцін, трагікамічнымі аповедамі землякоў. Мы зноў сустрэліся з сыноўняй любоўю да роднай зямлі, да людзей, якія жывуць побач, з іхнімі радасцямі і нягодамі… А пісьменнік падкрэслівае, што ўсё яшчэ не перастае здзіўляцца нараджэнню новага дня, бо гэты кожны новы дзень прыносіць асалоду назірання за жыццём, новыя творчыя набыткі…

*Лявон ВАЛАСЮК*



## Леанід Філатаў

Нарадзіўся 13 мая 1939 года ў вёсцы Бабінічы на Віцебшчыне, у хаце дзеда па маці Восіпа Бугаёва, а ўзгадаваўся ён на беларуска-ўкраінскім памежжы пад Брэстам. Маці, Фядора Восіпаўна, скончыла Віцебскі педагагічны інстытут і пасля 17 верасня была накіравана ў Заходнюю Беларусь выкладчыцай Брэсцкага педвучылішча. Сюды ж, у Заходнюю Беларусь, былі пераведзены яе сястра і брат. Малы Леанід Філатаў з двума сваімі старэйшымі братамі жыў у адной вялікай сям'і цёткі Марыі Восіпаўны Нікіценка ў заходнепалескім мястэчку Маларыта, дзе тая займала пасаду завуча мясцовай школы. Усіх малых у сям'і было пяцёра. Гадавала ўсіх дзяцей бабуля Наста Лапека-Бугаёва. Стрыечныя браты Філатава ўжо тады былі сіротамі: іх тата Антон загінуў на фінскай, а бацька малых Філатавых Георгій Фёдаравіч у хуткім часе таксама выжываў у цяжкіх баях пад Масквой у 1941-м. У першыя гадзіны вайны 22 чэрвеня 1941 года Леанід Філатаў застаўся сіратой: яго маці, якая прыехала ўвечары 21 чэрвеня ў Маларыту да сястры Марыі Нікіценка, каб забраць у трывожны час сям'ю з небяспечнага раёна, была забіта на ганку школы асколкамі адной з першых упаўшых авіябомбаў. Разам з маці загінуў і яго родны брат. Параненая бабуля, з выбітымі асколкамі вачыма, разам са скалечанымі дзецьмі апынулася ў захопленым немцамі мясцовым шпіталі. Трымаліся толькі тым, чаго не шкадавалі шчырыя маларыцкія людзі, якія клалі яйкі, бутэльку малака, бохан хлеба, кус сала малому Лёню Філатаву ў рукі (адзін ён здолеў хадзіць, паколькі паранены быў у галаву). Цётка Марыя пайшла ў савецкае падполле. У 1943 трапіла ў гестапа і пасля васьмі месяцаў катавання была расстраляна на допыце. Двухгадовага хлопчыка ўзялі ў сваю настаўніцкую сям'ю Аляксей і Ларыса Афанасьевы з вёскі Ляхаўцы. У вайну Леанід Філатаў зведаў яшчэ адно страшнае выпрабаванне лёсу: ён стаў непаўналетнім вязнем канцлагера Потшыкаў пад горадам Чанстахова ў Польшчы, куды трапіў у 1944-м разам з прыёмнымі бацькамі. Цудам змог выжыць у канцлагеры — яго жыццё, дзякуючы настойлівасці бацькоў, уратаваў нямецкі ваенны доктар. У пяць гадоў нацысцкі канцлагер навучыў хлопчыка нямецкай грамаце… У шасцігадовым узросце ў верасні 1945-га ён пайшоў у школу, дзе пакрысе пачаў асвойваць сваю родную беларускую мову. На працягу многіх гадоў аж да выхаду на пенсію працаваў настаўнікам у Мухавецкай сярэдняй школе. Пражыў багатае на падзеі і з'явы жыццё чыгуначніка, журналіста, настаўніка, спартсмена, трэнера, пісьменніка. Леанід Георгіевіч скончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Працаваў майстрам, галоўным інжынерам у дарожным будаўніцтве. Завочна займаўся ў Брэсцкім педінстытуце, які скончыў у 1971 годзе. Быў журналістам, настаўнікам. Жыў у пасёлку Мухавец пад Брэстам. Выдаў кнігі прозы «Ляхавецкая торба» (1992), «Дарога» (1997), «Жывая зямля» (2001), «Адарваць ад сэрца» (2004), «Страла жыцця» (2007). Адзін з аўтараў успамінаў былых вязняў фашызму ў зборніку «Асколкі болю» (1999). Узнагароджаны прэміямі «Берасцейская зорка» (2000), «Паўпуда мёду» (2007), прэміяй імя У. А. Калесніка (2008). Памёр 16 сакавіка 2023 года.

## Да «чацвярга»

*Да 35-годдзя Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў*

Родам з сяла, пуцеец па прафесіі, дарожны майстар па пасадзе, ад рэек і шпал, ад простых людзей, напаўрабочых, напаўсялян, у маладыя гады з маладымі натхненнямі, са страхам і надзеяй сорак гадоў таму пераступіў парог Берасцейскага, «Зароўскага» літаратурнага «чацвярга». Сустрэла гаманкая талака, пра якую лепш, чым «пяюн» роднае зямлі, мой равеснік Міхась Рудкоўскі, не скажаш.

Настрой, атмасфера, нават трапная міні-характарыстыка кожнага з «сяброў» — як на далоні. Не памятаю дакладна, калі Міхась пачытаў мне свой «Чацвер», а змест запомніўся. А як жа можна яго забыць, калі так шчыра, так светла, з такой шчаслівай усмешкаю адлюстраваў паэт тагачасную паэтычную сябрыну Берасцейшчыны, тое сутыкненне апаленага непасрэдна ў баях Айчыннай вайны літаратурнага бору і маладога, па якім таксама прайшлася вайна, палескага паэтычнага падлеску, які, дзякуючы менавіта «крыжаванню» літаратурных шпаг, вырасце ў дужую, як гаварыў Рудкоўскі, звонь-дуброву.

Гэта быў пачатак пачатку. Нам было хораша разам. Маладыя паважалі старэйшых, іхні ратны подзвіг, глядзелі на іх ва ўсе вочы, слухалі ва ўсе вушы. А было каго паслухаць, на каго паглядзець. Што ні чалавек, то асоба, у кожнага так шмат пражытага і адчутага ў перапоўненай душы, што маўчаць ён ужо не можа.

Сівы як лунь Фёдар Яўстафавіч Ляўчук (дзядзя Федзя), падпольшчык і партызан, менавіта з чалом думнага дзяка, мажны, груваскі сапун напачатку святога таінства, а напрыканцы азартна-лірычны, самаадданы смяюн з іскрыстымі вочкамі, што неўпрыкмет штурхаў моладзь пад сталом нагою, запрашаючы ў прыбудовачку (меў невялічкую пасаду пры газеце) раздзяліць з ім радасць душы…

Таксама да донца сівы мастацтвазнаўца, літаратурны і тэатральны крытык, скульптар Аркадзь Сурскі, эрудыт, тонкага стараінтэлігентнага аблічча і складу, паважна-раздумны філосаф. То горача-азартны, то задумёна-флегматычны паэт Мікалай Рыгоравіч Цялічка («класіцыст» Талчкін), на той час дырэктар Кобрынскай школы-інтэрната, якому найбольш зайздросцілі, бо меў чалавек уласную кніжку, ды і вершы ягоныя хапалі нас за душу. Уладзімір Іванавіч Стэльмашук, густачупрынны, выбрыты да сінявы, падцягнуты міліцэйскі капітан з лермантаўскімі вачыма і рыцарскага складу душою, адзіны мой паплечнік па жанры — празаік. Мікола Засім, менавіта «кулак, як жалеза, а грудзі шырокія, што печ».

Высокі, дужы, у нязменных карычневых паліто і капелюшы, з якім неяк па дарозе ў Кобрын ля кожнага магазінчыка, кожнае закусачнае давялося за ягоны кошт «прычасціцца». Нават ухвалу атрымаў: а неблагі партызан з цябе атрымаўся б.

І, безумоўна, бязмежных ведаў, таленту і душы чалавек — Уладзімір Андрэевіч Калеснік, якога так трапна назваў Міхась Плытагонам.

Хоць паэт іх і не ўспомніў, але хочацца назваць кадравых афіцэраў — Аляксея Піменавіча Бакуменку, паэта і мастака, цудоўнага апавядальніка, сына слаўнае Палтавы, палкоўніка Затульскага, начальніка вайсковых майстэрняў, у якіх ледзь-ледзь далі рады адрамантаваць маю паляўнічую рушніцу, журналістаў Віктара Сухарукава, Анатоля Гарая, Івана Мельнічука, пісьменніка Аляксандра Авечкіна, якія нязменна прысутнічалі на «нашых вечах», прымалі ўдзел у «нашых сечах».

Старэйшыя ўпотай зайздросцілі маладым, адчувалі, што з божым дарам уступілі хлопцы на літаратурны загон, чухалі патыліцы: інстытут — гэта не пяць класаў польскае школы і не паскораныя курсы малодшага афіцэрскага саставу.

Расшыфраваўшы імёны маладых, запрашаю сённяшняга чытача зазірнуць на тую далёкую, маладую нашу літаратурную кухню, якая засталася з намі і нашымі нашчадкамі дзякуючы слыннаму сыну Палесся паэту Міхасю Рудкоўскаму.

Да дна лірычны Жукіч — паэт Васіль Жуковіч, гумарыст Сцяпан Крывы — празаік Сцяпан Крываль, які ў той час пісаў вершы, Мікола верлібрыст — паэт Мікола Купрэеў, паэт дзіцячы Шэравоўк — я не ўпэўнены, але, здаецца, паэт Міхал Геллер. Рашучы Лёня Філатонаў — ваш пакорны служка…

## Праз позірк мастака

Зазімкавай поўначчу, каб даць адпачынак натомленым вачам, выключыў святло, падышоў да акна, адгарнуў штору — і зачаравана здзівіўся чорнаму небу, якое сеяла на сцішаную зямлю «зеленаколерны снег ад Леанід».

Нейкае містычна-магічнае пачуццё нарадзілася ў душы: сам Леанід, чытаю Леанідавы (Лявонавы) «Леаніды» і яшчэ раз упэўніваюся, што ёсць не толькі беларуская ўвогуле літаратура, а менавіта ўвабралася ў моц і нашае, паляшуцкае, берасцейска-валынскае прыгожае пісьмо.

Дзівую і радуюся своеасаблівасці мастацкага мыслення і прыродзе абагульнення адначасова мастаком і паэтам ад Бога Лявонам Валасюком. Лірыка-філасофскі тып мыслення гэтага каржакаватага, дужага і дужа ўраўнаважанага палешука з-пад Кобрына падкрэслівае нават назва першага раздзела кніжкі — «Філасофская прастора». Не думка, не лінія, не штрых, не сфера, а прастора, з якой своеасаблівы талент мастака праз лінію, штрых, сферу, струмень, адценне колеру, святло і цень люструе, стварае неабсяжнае жыццёвае багацце.

Паэтычныя мініяцюры двух апошніх зборнікаў «Леаніды» і «Чырвоная вежа» арыгінальна-суб’ектыўныя, абагулены лірычнаю тэмаю, прасякнуты светла-тужлівым пачуццём і шматфарбнасцю, як дні і ночы, вёсны і зімы, гады і імгненні зямнога жыцця.

Кніжкі гэтыя адмыслова адрэдагаваў чуйны да слова і радка, выключнай адказнасці і патрабавальнасці да сябе і творцы ўвогуле Алесь Каско. Які ва ўступным слове да «Леанідаў», як і Сяргей Грышкевіч у прадмове да «Чырво-

най вежы», далі сціплыя памерамі, але грунтоўныя зместам ацэнкі мастацкім і грамадскім вартасцям твораў. Адзначылі «адметны ўласны почырк радкоў… што ненавязліва напаўняюць і кранаюць душу… іскрынкамі памяці, знічкамі імгненняў быцця» (Алесь Каско)… «Вясёлкавы калейдаскоп мігатлівых агеньчыкаў. Яркіх успышак і пералiваў. І разам з тым дзіўная лёгкасць і разважлівасць, пульсацыя думкі, вобраза — жывога, імклівага, пераканаўчага…» (Сяргей Грышкевіч).

Пад сузор'ем Стральца
У хаце
На ўскрайку вёскі Пясценькі

У прыцемку
Снежаньскага ганку
Маці
Мне адчыніла сені…

Са шматлікіх паэтычных паперак-іскрынак, што ствараюць творчы набытак Лявона Валасюка, я прывёў гэтую мініяцюру, каб падкрэсліць матыў любові да Радзімы, які не пакідае ўстрывожаную душу паэта. Менавіта гэты матыў падкрэслівае спракавечную выснову: літаратура — праяўленне народнага духу. У адрозненне ад так званых «развітых літаратур свету», беларуская літаратура і асабліва літаратура Палесся нязменна былі люстэркам глыбока ўнутранага жыцця народа. Грамадства час ад часу мяняе сваё аблічча, ідэалы, набіраецца чужых, прыблудных памкненняў, гібее і ўваскрасае, пра што сведчыць і наша сучасная гісторыя. А народ вечны ў моцы духу свайго, калі ён не страчвае звычаяў, веры і мовы продкаў сваіх. Лявон Валасюк падкрэслівае сваю адказнасць за гэтую неўміручасць.

Крыж сумлення,
Адчаю і болю,
Крыж небяспекі, нуды
Чорна-шэрыя крылы
Расправіў над полем —
На ўскрайку бяды…

І тым большая заслуга паэта, што свае памкненні, жаданні і мары, не абыходзячы акалічнасцей рэальнага жыцця, ён даносіць да свайго ўдумлівага чытача наватарскімі паэтычнымі сродкамі, адметнаю вершабудовай сваёй «маладой ліры».

З кожным новым радком, вершам, кнігаю званчэюць матывы і мелодыі паэзіі Лявона Валасюка, усё выразней гучыць у іх водгалас спеву паляшуцкай душы.



## Алег Шыпаў (1954–2007)

Нарадзіўся 14 мая 1954 года ў горадзе Нагінск Маскоўскай вобласці. У 1980 годзе скончыў Усесаюзны завочны інстытут харчовай прамысловасці, рыбагаспадарчы факультэт, потым — Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве, семінар паэзіі (кіраўнік Ларыса Васільева). У 1987 годзе ў выдавецтве «Современник» выйшла кніга яго вершаў «Соперники». У 90-х гадах мінулага стагоддзя Алег Аляксандравіч працаваў журналістам у газеце «Брестский курьер». У пачатку 2000-х пераехаў у Маскву, дзе супрацоўнічаў у прадпрыемствах выдавецкага бізнесу. Але, на вялікі жаль, там яго жыццё перарвалася пры загадкавых абставінах… Вершы Алега Шыпава пранізаны тонкім лірызмам, пачуццёвай рэфлексіяй, схільнасцю да метафізічных прарываў скрозь цякучую тканіну быцця. І так шкада, што ён не дагаварыў усё сваё — існуючае і знойдзенае…

* * *

И солнце клонится к домам,
и день осенний на изломе,
как человек в дверном проёме —
уже не здесь, ещё не там.

Застыл на миг на полпути
и медлит, думая тревожно,
что здесь остаться невозможно,
и не решается уйти…

* * *

Боюсь не славы, не забвенья
и не болезни затяжной…
Есть пострашнее — ощущенье
разлада,
спор с самим собой.

Ведь нас не время убивает,
не старость, не враги, а тот,

кто в нас живёт и наблюдает,
а после предъявляет счёт.

* * *

Необъяснимое — прекрасно.
Мне странно думать и смешно,
что в мире изначально ясно
всё
    и давно предрешено.

Я постоянно удивляюсь
тебе
      и жизнь благодарю,
хоть не могу, как ни стараюсь,
понять, за что тебя люблю.

И эта ночь, что свечкой тает,
и та сгоревшая листва —
всё мне сейчас напоминает
о вечной тайне естества.

Но мне подумать страшно даже
и более всего боюсь,
что кто-то вдруг придёт и скажет:
— Я тайну разгадать берусь…

* * *

Сыграй мне, скрипач, не разлуку,
не грусть — что ты в силах сыграть,
а что суждено не по звуку —
по отзвуку предугадать.

Смычком пробегая по струнам,
ты выведи фразу одну,
о чем-то высоком и трудном,
чего я и сам не пойму.

И, может быть, от удивленья
часы на стене замолчат,
и в комнате вздрогнут растенья
и вдруг в унисон зазвучат.

А я, сжав до судорог руку,
щекой наклонившись к плечу,
поддавшись щемящему звуку,
и сам вместе с ней зазвучу.

…Сыграй мне ту жизнь, что промчалась,
как зыбкая тень в полусне,
где чёрное с белым смешалось,
и что ещё выпадет мне.

## Грань

Есть в творчестве счастливые минуты,
что стоят многих горестных часов.
Вдруг обострится зренье почему-то,
и кажется, что с мира снят покров.

И в черноте невзрачного растенья,
и в ржавчине пожухлого листа
мне видится сквозь пелену прозренья
неброская, простая красота.

Я открываю много старых истин,
и слышится мне музыка веков
и в шуме волн, и в лепетанье листьев,
и в грохоте бетонных городов.

И в памяти встают из тьмы и тлена
шеренги полустёршихся имён.
Я чувствую дыхание вселенной
и вижу связь распавшихся времён.

И кажется мне, что передо мною
земных явлений обнажилась суть…
Но я стою, сражённый немотою,
и не решаюсь дальше заглянуть.

## Отражение сирени

Небесной влагой невесомой
томится воздух, где в саду
стоят кусты сирени сонной,
как отражённые в пруду.

Переломи стеклянный полдень,
открыв окно, — и брызнет май,
как бисером, на подоконник
рассыпавшимся невзначай.

* * *

Мне всё равно, что я один
и никого не слышно в доме,
где комнаты в давнишней дрёме
и след тоски неизгладим.

И пусть ко мне никто давно
не ходит, не звонит, не пишет,
иные голоса я слышу,
иное зренье мне дано.

И хоть слыву я чудаком
и не стремлюсь на площадь — к людям,
но запросто заходят в дом,
кого уж нет и кто лишь будет.

* * *

Уже и рёв машин не слышен,
и замер вдалеке вокзал,
и ночь тепло и влажно дышит
над городом, но сон пропал.

И я, о смутном размышляя,
смотрю на площадь из окна,
где, тьму сияньем рассекая,
плывёт аквариум трамвая
и в глубине его чужая,
как на ладони, жизнь видна.

* * *

Мне восемь лет. Я счастлив, что проснулся
Едва, не знаю — нынче Новый год!
Как будто ангел крыльями коснулся
Моей щеки — я сладко потянулся —
Под ёлкою меня подарок ждёт.

Я верю, что-то важное случится
Со мной сегодня, я ведь ангелом храним.
И жизнь моя как чистая страница,
Как снег за окнами,
Что на асфальт ложится,
Где след судьбы пока неразличим…

* * *

Смешной цыплёнок — память о разлуке,
живой комок пушистого тепла…
Как пахли хлебом бабушкины руки,
где жизнь была прозрачна и светла!

И пусть уже я дома вечность не был,
чужбина всё… Но где б ни умирал,
в моих глазах то отразится небо,
которое я в детстве увидал.

# РЭХА ВЫЗВАЛЕННЯ



**У 2024 годзе Беларусь святкуе 80-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Другой сусветнай вайне. Тое вызваленне каштавала жыцця дзясяткам мільёнаў салдат і мірных жыхароў не толькі рэспублік былога СССР, але і ўсяго свету… Беларусь страціла кожнага трэцяга свайго жыхара.**

**Некаторыя пісьменнікі Берасцейшчыны таксама прайшлі вогненнымі вёрстамі мінулай вайны, а пасля Перамогі звярнуліся ў сваёй літаратурнай творчасці да жудасных падзей, якія апалілі іх душы і шынялі крылом ліхалецця.**

**Партызан Мікола Засім, франтавік Аляксей Бакуменка, падпольшчык-партызан Уладзімір Калеснік, франтавік-артылерыст Мікалай Цялічка пакінулі нам у спадчыну свае вершы і прозу пра тое супрацьстаянне, змаганне з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, вызваленне Беларусі ад фашысцкай навалы….**

## На доўгі век

*Міколу Засіму*

Ніводзін паэт у Беларусі не адлюстраваў партызанскай эпапеі ад яе пачатку да канца паводле ўласных непасрэдных уражанняў і перажыванняў, як гэта давялося зрабіць Міколу Засіму.

Партызанскія вершы Засіма праўдзівыя аж да наіўнасці. У яго сужываюцца баявы гімн, узнёслыя заклікі да змагання, клятва на вернасць радзіме і сябрам з эпітафіямі на магілы загінуўшых герояў і гратэскавымі карыкатурамі на фашысцкіх злачынцаў, здзеклівымі прыпеўкамі пра норавы ў варожым кодле.

Партызанскія вершы Міколы Засіма — гэта цэлы летапіс бяспрыкладнага ўсенароднага гераізму, помнік партызанам, якія здолелі заняць раённы цэнтр Косава і трымаць яго ледзь не месяц у сваіх руках, помнік тым ахвярным маці-патрыёткам, што насілі міны ў варожыя гарнізоны, абгарнуўшы дынаміт пялёнкамі ля ножак сваіх немаўлят, тым пасівелым бабулям, што кармілі, абшывалі і абмывалі, сцераглі сон незнаёмых лясных хлопцаў, — як сваіх родных сыноў і ўнукаў.

*Уладзімір КАЛЕСНІК*



## Мікола Засім

### * * *

Вайна, вайна, прыйшла ты нечакана,
І я ў тылу застаўся незнарок.
Няма цяжэй — ляжаць ў крывавых ранах,
Яшчэ цяжэй — туляцца хоць дзянёк.

Туляння дні — не дні, а проста годы,
І ночы доўгія, нібы вякі,
Адным жыву, што вецярок з Усходу
Абудзіць хутка пушчы, лазнякі.

І ачуняю я душой і целам,
Знайду старыя сцежкі у бары,
І па дымку ялінкаў абгарэлых
Знайду я партызанскія кастры.

Ульюся я з надзейным карабінам
Ў сям'ю братоў — адважных партызан,
Як чэсны воін у баі загіну,
Але — не адступлю назад.

*1941*

### Заклік

Кліча нас зямля святая,
Кліча родны наш прастор,
Клічуць нашы ураджаі
Помсціць немцу за тэрор.

Біць без літасці, без спуску
Прыблудзіўшых к нам пачвар,
На ўвесь свет каб беларускі
Наш праславіўся удар.

А кулак наш як жалеза,
Грудзь шырокая, што печ,
Дый пад бокам Белавежа —
Можна ўдарыць, можна ўцеч.

Так уцеч, каб снілась кату,
Што бяжыш ты ўслед за ім,
Каб ён сам падмазаў пяты,
Страхам выгнаны сваім.

А ачухаецца — зноўку
Наляцім з усіх бакоў
З мінай, з бомбаю, з вінтоўкай.
Смерць — за смерць, а кроў — за кроў!

*1941*

## 1941 год

Распухла зямліца
Ад людскіх магіл,
Сонцу дзівіцца
Праз дым няма сіл,
Енкі і стогны
Грымоты глушаць,
Рэкі людскою
Крывёю брыняць.
Ў ботах смяртэльных
З заходу на ўсход
Гітлер пякельны
Прынёс гэты год.

*1941*

## Думкі партызана

Скінула зямліца
Зімнія уборы.
Сэрца весяліцца,
Хоць навокал гора.

Ці пайду я полем,
Ці пайду я гаем,
След мой на прыволлі
Раса замывае.

Прыхіне, як брата,
Куст лазы на ўзлессі,
Лоб мой узмакрэўшы
Халадком папесціць.

Лес птушыным крыкам
Зрок мой насцярожыць,
Калі дзе засада
Ці канвой варожы.

О, мая зямліца,
Мой прастор шырокі,
Долю-ліхадзейку
Возьмем мы за бокі.

Бо мне ўсё гаворыць:
— Брат, мацуйся духам,
Чужаніца-вораг
Разляціцца пухам.

*1941*

****

Па балотнай твані
Позна уначы
Хлопцы йшлі з ламамі, —
За рамнём ключы.
Паміж Тэвелямі
І сялом Харкі
Пелі жураўлямі
Шпальныя гакі.
Рэйка паслухмяна
Адышла на крок, —
Наляцеў і гракнуў
Эшалон набок.
А назаўтра зноўку
(Ўсё ім ніпачым)
Хлопцы йшлі к чыгунцы, —
За рамнём ключы.

*1942, Дахваўскі лес*

## «И пусть не меркнет дружба фронтовая…»

*Алексею Бакуменко*

Палитра поэзии Алексея Бакуменко весьма широка, а тема войны находит в ней своё особое место. Многие стихи на военную тему посвящены Солдату — главному действующему лицу в армии, которого часто обходили и вниманием, и уважением. Юношей Алексей Пименович прошёл испытание Второй мировой войной, на которой потери исчислялись десятками миллионов человеческих жизней… Искусству мало просто правды о войне (хотя и такая ещё не вся сказана): ему нужна правда эстетически выверенная, правда образа. Война являлась поэту в разных образах, её ужас можно было увидеть через непридуманные детали. Алексей Бакуменко писал свои стихи о ратном подвиге солдат не во время войны, а уже в мирное время, когда приходили воспоминания о прожитом и пережитом.

*Анатоль ГАРАЙ*



## Аляксей Бакуменка

### В День Победы

Ах, как сирень в тот день цвела,
Как били в мае, в сорок пятом
Лиловые колокола —
Последний бой войне проклятой.
Сирень пыталась отвести
От нас и горести, и беды.
И всем казалось: так цвести
Она могла лишь в День Победы.
Склонялась низко до земли,
Дарила всем свои букеты…

А похоронки шли и шли
Не только в мае, но и летом.

## Ветерану

Пускай не кровоточат больше раны,
Но к непогоде так вдруг заболят,
Что кажется: на будущее планы
Летят к чертям, ты ничему не рад.
Жизнь волоском лежит на острой бритве,
Смерть торжествующе склонилась над тобой.
Но ты воюешь и в неравной битве
Ещё один выигрываешь бой.

## * * *

Всё правда, правда, да не вся.
Не всю её землёй зарыло.
Войны железная коса
Не всю скосила, словно жито.

Всю правду, правду до конца
Ещё война не огласила.
Легко ранимые сердца
Не всеми болями убила.

За невернувшихся солдат
Ещё не выплаканы слёзы.
И бьют по памяти в набат
Войною пахнущие грозы.

Ослепли окна старых хат,
Своих хозяев не дождавшись,
Им никогда уж не узнать
О судьбах без вести пропавших.

Ещё не найден каждый след
И не полны в архивах списки,
И на полях ещё не всем
Стоят по праву обелиски.

## Память

У чёрных труб на косогоре
Оживших яблонь белый цвет…
Забыть пора и боль, и горе
Уже давно минувших лет.

И я как будто забываю
Или забыть уже готов,
Но память нет-нет и взрывает
Цветенье белое садов.
И вижу я, как в поле зябко
Под чёрным снегом хлеб поник,
И слышу я сквозь нежность яблонь
В бессмертие идущий крик.
И вижу я, как звёзды гаснут
В кровавых сполохах зари,
В глазах, ещё живых и ясных,
Упрямство пламенем горит.
Отяжелевшее от пепла,
Спадает небо на траву,
Но из золы уходят стебли
И воскрешают синеву.

## Однополчане

На встречах ветеранов год от года
Редеет строй друзей-однополчан.
Одних за сердце держит непогода,
Другим не пересилить старых ран.

А третьи… Что ж, помянем их по-братски.
Немало нами прожито годов,
Любой из нас в плену судьбы солдатской
Был сотни раз уйти туда готов.

А сколько их, шагавших вместе с нами
До дня победы так и не дошли.
…Высокими шумящими лесами
Да травами просторы проросли.

Пускай и наши души прорастают
В берёзках белых, в зелени травы.
И пусть не меркнет дружба фронтовая —
Святой союз оставшихся в живых.

## З прадмовы «Помнік»
## да кнігі Уладзіміра Калесніка «Доўг памяці»

…Вучоба Уладзіміра Калесніка (пасля ўз'яднання Беларусі ў Навагрудку ў савецка-беларускім педвучылішчы) абарвалася вайной. Вяртанне ў родную вёску. Патаемнае, удвух з найбліжэйшым сябрам, збіранне зброі, шчодра пагублянай у хаатычным адступленні Чырвонай Арміі. Пажар, цяслярства з бацькам на свежым котлішчы іхняй хаты. Настаўнічае ў адной з пачатковых школаў, каб не схапілі ды не звезлі ў Нямеччыну. Арганізацыя падполля. Трагедыя з каханай і сябрам маленства. І выхад мясцовай моладзі ў партызаны.

Суровая рэальнасць начэй і дзён барацьбы. Інтэлігентны юнак быў спачатку радавым байцом, пасля адпаведнай падрыхтоўкі — мінёрам-падрыўніком, камандзірам узвода, начальнікам штаба атрада. У адной з сутычак — раненне, потым другое. Жахлівае выпрабаванне блакадай Налібоцкай пушчы пераважнымі сіламі рэгулярнага войска і паліцэйскага зброду…

І, разам з усім гэтым, свой, запаветны свет адоранай душы, захапленне красою роднай прыроды, мары і роздум пра будучыню, калі яна прыйдзе…

*Янка БРЫЛЬ, лістапад 2002 г.*



**Уладзімір Калеснік**

## З кнігі ўспамінаў «Доўг памяці»

* * *

…Мае партызанскія сябры шмат панапісвалі і нават панадрукоўвалі пра гэты рамантычны перыяд свайго жыцця, але рабілі гэта нібыта для таго, каб давесці тым, хто ўмее бачыць і памятаць, што ўспаміны пішуцца спачатку тымі, хто хоча падправіць праўду ў сваю карысць, а потым ужо прыходзіць чарга на тых, хто хоча пераказаць нашчадкам ды і самому сабе, хоча проста лепш усвядоміць праўду, каб яшчэ раз зрабіць з яе нейкі, напэўна ж, непрыемны вывад. Бо якой бы вялікай і велічнай ні была праўда, яна заўжды, на жаль, вучыць толькі сваімі памылкамі. Жыццё патрабуе ад людзей, якія сапраўды гатовы ўдзельнічаць у справе прагрэсу, не паўтараць памылак. І памыляюцца тыя, хто лічыць, быццам гісторыя патрабуе ад сваіх удзельнікаў паўтараць

подзвігі бацькоў. Подзвігі непаўторныя… Перад кожным пакаленнем гісторыя ставіць новыя, непаўторныя задачы.

* * *

Калі мы з Косцем прывезлі патроны, гранаты і зброю на зборны пункт пад Антанёва, група пад камандаваннем лейтэнанта Кайданава ўжо вярнулася з пагарэльскімі хлопцамі. Іх аказалася васьмёра: браты Іван і Аляксандр Мацко, аднафамільцы Аляксандр і Мікалай Бусько, Уладзімір Шудзейка, Анатоль Цобкала, Веня Царук і Міхаіл Сак. Атрымлівалася амаль пораўну з Сіняўскай Слабады і з Пагарэлак, але, нечакана, сіняўцы пераважылі. У поцемках раптам данесліся да нас знаёмыя дзявочыя галасы. Спачатку я падумаў, што гэта нашы дзяўчаты на чале з маёй дваюраднай сястрой, бойкай Тоняй Балабановіч, прыйшлі праводзіць нас і па-сяброўску развітацца пасля Клімавай фацэцыі, але аказалася, што дзяўчаты самі рашылі ісці ў партызаны. Ініцыятыву праявіла Тоня, за ёю пайшла сяброўка Вера Васілеўская, а яшчэ старэйшая за іх абедзвюх сталая дзяўчына Нюша Балабановіч. Тоня і Нюша мелі свае асабістыя матывы: аказваецца, яны падружылі з партызанамі з Чапаеўскага атрада: Тоня з разведчыкам Федзем Каваленкам, а Нюша з кулямётчыкам Сямёнам Якаўлевым.

Неспадзяванак выдаўся спачатку нашым хлопцам пікантным, потым клапатлівым: як-ніяк, на нас лажыўся дадатковы абавязак апекавацца, а мы і самі не чуліся пэўнымі ў новых нязвычных абставінах. Маральна рыхтаваліся мы ўвесь час на самае горшае, самае страшнае, а тут — на табе, дзяўчаты неслі ў лес, у баявы атрад ружовенькі сцяг кахання. Некаторым з нас выдавалася, што тут нешта не тое, нешта нават недарэчнае. Так што мы былі рады і не рады. Рады таму, што нас аказалася больш, чым пагарэльскіх хлопцаў — 11 на 8. Ды такая перавага, на жаль, задавальняла ўсяго звычайную амбіцыю, нельга было сказаць, чаго больш нам дастанецца ад усёй гэтай прыгоды: бяды ці карысці.

Я падумаў пра Зіну. Яна мелася быць першай жанчынай у нашым паўстанні, была б дзейснай падпольшчыцай. Зіна прынесла б свае запасы медыкаментаў, перавязачных матэрыялаў, магчыма, прывяла б у атрад групу Калюка. Яна была б не проста партызанкай, а медсястрой, а можа, і добрым палітработнікам з даўнім вопытам камсамольскай работы і вялікаю сілай чалавечага прыцяжэння. Як жорстка, як недарэчна-жахліва пакрыжаваўся наш план, такі ясны план баявога выступлення, як бязлітасна паблытала, паабрывала ніткі нашых намераў, надзей нейкая цёмная каварная сіла. О, каб удалося выйсці на волю Зіне і Лёву, я быў бы самым шчаслівым чалавекам у свеце! Я гатоў быў стаць калекам на ўсё жыццё або і загінуць, абы яны выйшлі жывымі… Я адчуваў усім нутром, што лёс іх трымаецца на валаску, што трэба ім дапамагчы, і не ведаў, чым дапамагчы і як гэта зрабіць, акрамя таго, што паставіць сябе ў роўную небяспеку і падтрымаць іх духоўна змаганнем.

* * *

На нарах у душнай партызанскай зямлянцы мне прыгадвалася даўняе сямейнае жыццё ў нашай утульнай, пахнучай смолкай хаце.

Зямля, хоць благая, «лес, балота ды пясок», як пісаў Якуб Колас, была асновай і апорай дабрабыту: сям'я не баялася ні голаду, ні холаду і раздзетай, разутай не збіралася хадзіць. Худа-блага, а хлеба на зіму нараблялі і сена каню ды карове перазімаваць нашыкоўвалі, саломы са стрэх скубці на прадвесні не даводзілася, каб хоць як дакарміць карову да свежай травы, ды кароў аслабелых падвязаць на вужышчы пад жываты да бэлек бацька не збіраўся, падсмейваўся з гультаяватых «зімагораў», што пакладаліся на авось ды нябось. А тым, у каго сапраўды была ўважлівая бяскорміца, бацька не адмаўляўся дапамагчы цапкамі сена ці дзяругай мякіны. Маці таксама мела сваіх жанчын, якім сімпатызавала і памагала рэзгінамі мурагу ці кошыкам бульбы, не пытаючыся ў бацькі, каб не дражніць яго гаспадарскага самалюбства.

Вопраткі таксама хапала, маці з сястрой Марусяй упраўляліся напрасці і наткаць за зіму і кужалю ўсім на бялізну, то на ручнікі ды настольнікі, посцілкі, і зрэб'я мужчынам на анучы, нават гуньку кабыле жанкі выткалі, прытым адмысловую, цёплую, з суконнай ніткай на вуток, бо ведалі, што ў бацькавых гарачых руках кабыле даводзілася ўпарыцца да мыла, а потым раптоўна астываць.

А яшчэ ж кожны год назбірвалася штук па дзесяць аўчын, якія бацька вазіў у Мір і здаваў на выраб татарыну: сабе — на чорны колер, а маці або Марусі — на чырвоны. Кожны год шылі з гэтых аўчын кажухі… бацька меў кажух святочны і пару рабочых, адзін падходжвацца ля дому, а другі — доўгі вазацкі, у якім ездзіў у лес, апранаючы на яго ў вялікія маразы яшчэ суконную бурку з башлыком. Пад канец зімы маці ткала сукно з дамашняй воўны, якую бацька вазіў валіць ажно ў Гарадзішча і прывозіў гатовы матэрыял сабе на плытніцкую куртку, на зімовыя порткі і на бурку.

Верш «Слуцкія ткачыхі» нагадвае мне пра святочны настрой у нашай хаце, калі маці з Марусяй, закончыўшы ткаць зрэбнае і кужэльнае палатно, браліся за самае цікавае — за «перабіранкі»…

## «Вырываў нас з строю бой…»

*Памяці паэта-франтавіка Мікалая Цялічкі*

У мінулым годзе напярэдадні Дня Перамогі пайшоў з жыцця Мікалай Рыгоравіч Цялічка, ветэран Вялікай Айчыннай вайны, цудоўны паэт і мудры суразмоўца.

Шматлікія гады яго жыцця былі звязаны з Брэстам, а ў апошнія часы ён жыў у дачкі ў Кіеве, але нязменна прыязджаў на Дзень Перамогі ў горад над Бугам. На гэты раз вялікую юбілейную дату мы адзначылі ўжо без яго жывой і добрай усмешкі, але з абавязковым успамінам пра яго — у прысутнасці душы, адлюстраванай у вершах.

Аўтар шматлікіх паэтычных кніжак, ён прайшоў па жыцці, як салдат з поўнай баявой выкладкай, — без скаргаў і нуды. І праўдзіва сказаў пра сваё пакаленне: «Мы яшчэ ўвасобімся ў апошнія ролі і з гонарам з гэтага свету сыдзем…» Франтавая загартоўка ў яго спалучалася з інтэлігентнасцю самай высокай пробы.

У панядзелак, 21 красавіка 2014 года, Мікалай Рыгоравіч Цялічка быў пахаваны на Гарнізонных могілках горада Брэста. Як ён сам прадказаў: «Откажет жизнь. Ей подведут итог в заоблачной коллегии незримой…»

Але няма сумневу ў тым, што ў той «коллегии незримой» будзе чутны пераможны салют 9 Мая і адчыняцца светлыя вароты для светлага чалавека.

*Л. В.*



**Мікалай Цялічка**

## Возле станции Дубица

Выйду к Бугу — и нервами
Я как будто в бою.
Вновь огонь сорок первого
Метит в юность мою,
Но, укрывшись за ветками,

Сам я с берега в ил
Пулей прошлого — меткою —
Оккупанта свалил.
Плёс под берегом нашим —
Вижу как наяву —
Вражьей кровью окрашен,
Потерял синеву.
Берег…
Что же он стонет?..
Срыл заставу фугас.
Взрыв ответный понтоны
Разметал и растряс.
По фашистам из ровиков
Залп — командою всей!
Память:
— Новиков! Новиков!
Где твой дуб, Алексей?
Кто за берег заступится?..
Отражает налёт
Возле станции Дубица
Из дупла пулемёт.
Слышу: Очередь! Очередь!
Как строка, коротка.
И от свастики клочья
И щепа от древка!
Слышу: длинная очередь
В зыбь с наплывшей бедой…
И понтоны их прочные
Захлебнулись водой.
Но ветвистую крепость
Засекают не вдруг.
В пулемётчика слепо
Бьют враги через Буг.
Он опора границы
На рассвете и днём.
Слышу: Бреста бойницы
Поддержали огнём.
Громом с неба — граната
В штурмовой батальон!..
И в руках у солдата
Пулемёт раскалён.
Слышу: Очередь! Очередь!
Получайте своё!..
На закате и ночью

Я услышу её.
Старый дуб непокорно
На родном берегу,
Опираясь на корни,
Встал навстречу врагу.

## Восьмое мая

Я видел сон. До фронта.
　　　　　　До призыва.
Цветёт хозяйский садик у окна.
В наряде белом вишня или слива
Стучит в окно:
«Закончилась война!»
Вчера солдат,
　　　　　　направленный комбатом,
Бежит в окоп, кричит:
«Конец войне!»
И пушка бьёт. За лесом.
　　　　　　Под закатом.
Но вещий сон не зря
　　　　　　приснился мне.
Я сам бегу посыльному
　　　　　　навстречу,
В объятья попадаю, как в тиски.
Восьмое мая — лучший
　　　　　　в жизни вечер.
Победа. Счастье.
　　　　　　Вишни лепестки.

* * *

Ныне гильзы и пули
Под слоем земли.
Робко, тихо косули
Вдоль Буга прошли.
В нём зарёю подкрашен
Речной водопой…
Только в памяти нашей
Тот подвиг, тот бой.

## Война на киноэкране

Всё та же прошлая война
Вновь обошла киноэкраны,
А мы давно уж ветераны,
Её солдаты, старина!
С артиллерийских
огневых
Теперь стрелял
артист Олялин,
Стрелял,
Как мы с тобой стреляли
Из наших пушек
полковых.
Как мы, болотною тропой
Ушёл от смерти
неминучей.
Ему помог «Мосфильм».
Нам — случай,
Сегодня названный
судьбой.

## Приснилось

Сон ужасный: бой рукопашный.
Боль заполнила мою ночь.
Госпитальный мой день вчерашний
Мне не может ничем помочь.

Он войдёт лишь туда, где пусто.
Не стремится в сны наперёд.
Не торопится, потому что
Наступает всему черёд.

Рухнут старых землянок нары,
И вчерашний мой день, лишь он
Отодвинет войны кошмары
И собою заполнит сон.

# ЮБІЛЯРЫ



*Да 70-годдзя Мікалая Аляксандрава*

## Стихотворения — с брестским адресом

…Когда-то, в 1978-м, Николай Александров окончил Литературный институт имени А. М. Горького. Автор поэтических книг «Кварта» (2002) и «Долгий путь в Китеж» (2009). И вот — новая встреча с поэтом Николаем Александровым и его книгой «Вечерняя пристань», вышедшей в Бресте в 2021 году (издательство «Альтернатива»).

Читаем в издательской аннотации: «В новую книгу литератора, журналиста и историка Николая Александрова “Вечерняя пристань” вошли стихи за почти полвека творческого пути. Их география обширна — от Бреста до Владивостока. Отдельные разделы книги посвящены его малой родине — Вологодчине, Дальнему Востоку, Москве, зарубежным впечатлениям. Читатели найдут здесь литературные реминисценции и музыкальные мотивы…»

Я люблю этот город осенний.
Он играет листвою, даря
перелётную боль потрясений
в мимолётном дыму октября.

Будто ноты соборного «Ныне
отпущаеши…» — птичья строка,
растворяясь в разбавленной сини,
устремляется под облака.

И, читая небесные своды,
ощущаешь душой между тем,
что дарованный посох свободы
ты уже не заменишь ничем.

Только жаль этот день, уходящий
С неизлитой печалью в глазах.
К симеоновским высям летящий
Голос в храме поёт «И воззвах…»

*(«Осенняя мелодия»)*

Первый раздел книги так и называется — «Притяженье Бреста». Поэт влюблён в город, ставший ему глубоко родным, близким, и эта любовь возвышает его как писателя и человека, как простого горожанина, формирует его вдохновенье. «Я люблю этот город до спазма в горле…» Прочитываю весь первый раздел книги, «брестский раздел», — и понимаю, что «поэтическая география» остаётся лишь символом, ярким художественным решением, а пишет Николай Александров о вечных, идущих из глубин души категориях. Пишет о красоте, любви, доброте, человечности… Стихотворения иногда напоминают птиц, летящих тебе навстречу, иногда превращаются в листья, падающие с деревьев… И ты даже не думаешь об их содержании, ты поддаёшься философско-праздничному настроению в осмыслении жизни. Думаешь и мечтаешь, фантазируешь и оглядываешься на свой пройденный путь, прочитав те или другие строки брестского поэта.

Ветром взвихренные листья
пролетают, словно лица,
и кленовый Моген-Довид
прилипает на асфальт.
Золотая небылица
довоенных лет всё длится,
дальним эхом время двоит.
Кто вы, листья? Как вас звать?

*(«Рапсодия старых улиц»)*

Настоящим открытием в «брестской части» книги представляются поэтические произведения, в которых автор «реконструирует» исторические события, рельефно показывает конкретных исторических личностей («Вечер в городском саду. 1913», «Тришинское кладбище»).

Встретимся в Брест-Литовске
В саду городском, где клёны
Роняют стрекозьи крылья
На клумбы петуний и роз.
Там бегает мальчик в матроске,
И метранпаж влюблённый
Арию Эскамильо
Насвистывает под нос.

*(«Вечер в городском саду. 1913»)*

Бресту, Брестчине всегда везло на поэтов. Брестский университет, брестская областная газета «Заря», Брестское областное телевидение, Пинск, Жабинка, Ганцевичи, Берёза, весь край — родина и дом поэтов. Евгения Янищиц, Алесь Каско, Нина Матяш, Михась Рудковский, Анатоль Шушко, Микола Купреев, Геннадий Праневич… И я назвал только ушедших. Назвал далеко не всех. И Бресту везло на встречи с русскими поэтами. Полесскими стёжками

прошли Александр Грибоедов, Константин Рылеев, Пётр Вяземский, Николай Гумилёв, Александр Блок, Михаил Светлов, Евгений Долматовский, Михаил Луконин… Это Луконину принадлежат строки: «Я на окраине страны — / и нет войны. / Я Брест перехожу один / крест-накрест. / Кленовые там облетают листья, / стоят треножники геодезистов, / и горизонт уже закатист…».

Стёжки Бреста, Брестчины всей своей исторической силой сопряжены с творческими исканиями, творческими дорогами и Николая Александрова. Поэтому его стихотворениям о городе над Бугом доверяешь. Поэтому его, автора книги «Вечерняя пристань», брестские стихотворения — «Чувств и мыслей притяженье…»

*Кирилл ЛАДУТЬКО*



## Мікалай Аляксандраў

Паэт, журналіст і гісторык нарадзіўся 4 студзеня 1954 года ў сяле Мегра Белазерскага раёна Валагодскай вобласці Расіі ў сям'і сельскіх служачых. Вучыўся на журфаку ва Уладзівастоку, затым у маскоўскім Літаратурным інстытуце імя А. М. Горкага на аддзяленні паэзіі (семінар С. В. Смірнова), які скончыў у 1978 годзе. Працаваў літсупрацоўнікам у аддзеле паэзіі часопіса «Наш современник» (Масква), а з 1980 года — загадчыкам аддзела культуры брэсцкай абласной газеты «Заря». У 1990 годзе стварыў недзяржаўную газету «Брестский курьер», якой кіраваў да снежня 2017 года. Цяпер — рэдактар сайта «Брестский курьер». Аўтар паэтычных кніг «Кварта» (2002), «Далёкий путь в Китеж» (2009) і «Вечерняя пристань» (2021), публікацый у зборніку «Триединство. Стихотворения поэтов Белгорода, Бреста и Харькова», у анталогіі «Поэзия русского слова», альманаху «Истоки», часопісах «Наш современник», «Молодая гвардия», «Лад», «Дальний Восток», «Литературная Армения» і інш. Укладальнік гісторыка-біяграфічнай энцыклапедыі «Фамильное древо Бреста». Жыве ў Брэсце.

* * *

Воспоминаний брагу пригубив
И вслушавшись в очнувшиеся корни,
Спешу в свой сельский мир, в свой детский миф —
Озёрный, озорной, просторный.

Там окнами мерцает старый дом,
Бежит на взгорок стежка луговая
И блещет солнце золотым лещом,
За окоём лазурный уплывая.

Там банный дым и вересковый мёд,
В черёмуховом облаке ограда,
Там на рогах качает небосвод
Бредущее к дворам коровье стадо.

Той памяти не зарасти быльём,
Пока в тебе живут родные лица,
И время у виска гудит шмелём,
Гудит шмелём — и вечер длится, длится…

## 1916 год

На театре военных действий — без перемен.
О грядущем прорыве пока что ни слуху ни духу.
В полевом лазарете томится поручик Эрн,
Уцелевшей рукою сгоняя настырную муху.

Как там матушка в Питере, братец Алёша и та
Сероглазая фея, прелестница и хохотушка?
За окном багрянеет огнём горизонта черта
И откуда-то слышно, как годы считает кукушка.

Не сбивайся, кукуй, вон уж сколько друзей полегло
В ненасытную землю, наполненную под завязку,
А Харонова лодка плывёт, и курлычет весло,
И слепая карга продолжает железную пляску.

Вот бы снова в Мариинку, где на театре другом
Так нешуточны страсти под взрывами аплодисментов,
И восторга румянец горит на лице дорогом
В окруженье лорнетов блистающих и позументов.

За окном посвежело, усыпала травы роса.
Месяц острым серпом зацепил придорожный орешник.
И плывут над землёю, плывут и плывут голоса
То ли птиц, то ли ангелов, то ли сивилл безутешных…

## Сыну

В обвале тишины,
Слезу смахнув с лица,
Досматриваю сны
Блокадника-отца.

Вплывая в зыбь времён,
Сквозь водоросли лет
Отыскивает сон
Избу, что строил дед.

А там — прабабок хор
И прадедов артель
Струятся в чуткий створ
С заиленных земель.

Озёрная родня
По духу и крови,
Держи, держи меня
На помочах любви!..

## В усадьбе Шахматово

Посеял у флигеля мальвы.
*Из дневника Александра Блока*

Холодные дни миновали.
Широкий раскинулся свет.
Посеял у флигеля мальвы
Задумчивый русский поэт.

Свежо зеленеют берёзы
Под венецианским стеклом,
И близятся майские грозы,
Немым помавая крылом.

Барашки гуляют по небу
В просторе седой синевы.
Что нужно душе на потребу,
Вдали от столичной молвы?

Вон чашка янтарного чая
Дымится в саду на столе,
И можно, рассветы встречая,
Жить долго на вечной земле.

Но в сердце стучится недаром
Бедою грозящий раздор
И бредит войной и пожаром
На тёмных задворках костёр…

## Музею «Усадьба Немцевичей» в д. Скоки Брестского района

Покуда метельные строки
Выводит на стёклах зима,
Поедем, друзья мои, в Скоки,
В минувших веков закрома.

Там чинно выходят из Леты
И время ведут под уздцы
Вельможи, скитальцы, поэты,
Семейных преданий творцы.

Лети, календарь юлианский,
Снегами шурши и листвой,
К наследью Урсыновых странствий
Седою склонясь головой.

Звени, поднебесная месса,
Пока в единенье времён
Мелодиею полонеза
Наш дружеский круг осенён!..

* * *

В бессонницах крутиться и не знать,
Куда нас понесёт поток событий
И чья рука закидывает снасть,
Сработанную из суровых нитей.

А ты, моё ночное ремесло,
Куда ведёшь, не испытуя броду,
Выравнивая кормчее весло
И воспевая тайную свободу?..

*Да 55-годдзя Святланы Варонік*

## Паміж мной і табой — Божанька…

Мае пад крыжамі пагоркі
Найвялікшыя на зямлі…

Брэст. Белаазёрск. Камянец. Белая Вежа… Косава…

Спачатку ў маім жыцці быў Уладзімір Андрэевіч Калеснік, ён называў мае звычайныя кніжачкі вершаў *малітоўнічкамі*, *кантычкамі*. Я была такой спакойнай у той час, што не пацікавілася, ці толькі мае зборнічкі ён так называе, ці, можа, усе, што малыя памерам… Усё, што ён мне сказаў, само сабой засела ў памяці і не згубілася…

Амаль адначасна ў маё жыццё ўкацілася на калясцы Ніна Мацяш. Яна называла мяне *сястрыцай.* Яе гаючае слоўца *гарнуся* было лекавым і дапамагала пераносіць самыя цяжкія выпрабаванні, *гарнулася* я да яе.

Марыя Новік паўстала за каляскай Ніны, як анёл-ахоўнік. А Святлана Варонік… Нават цяжка прыгадаць, калі гэты прамень засвяціў разам з сонейкам, з Калеснікам, з Нінай, Марыяй ды Галінай Скарынай, якая найчасцей дапамагала Ніне, бо жыла недалёка ад яе ў Белаазёрску.

Святлана кажа, што мае вершы даюць ёй натхненне. Я ведаю па сабе: ёсць добрыя паэты, якіх чытаеш — і нічога ў душы не здрыганецца, не адгукнецца, а ёсць такія, ад якіх мурашкі па скуры і сэрца заходзіцца… Чытанне вершаў — гэта індывідуальны, нават інтымны працэс… Святлана выбрала мяне як слухачку, каб перадаць глыток ветру і каб вецер вярнуўся віртуальна, — мы размаўляем па мабільніках, а бачымся рэдка… На мой дзень нараджэння яна прыслала свой першы томік вершаў «Маміна дрэва». Я пачала чытаць, і адразу мне стала добра, бо:

Цвіце мая доля.
У садзе — бела.
Успамінае мяне маленькаю
Маміна дрэва.

Маміна дрэва ў яе вершы прарастае галінамі, карэннем, лісцейкам, пасынкамі, парасткамі ў садзе, які цвіце вобразамі-слязінамі, пачуццямі:

Удзячная Богу…
Глядзіш на мяне…
Мама… Бацька… Гена…
Цётачка… Мне…
Вас так не стае…
Пачынаюць сады цвісці…
Як без вас мне туды ўвайсці…

Спачатку «Маміна дрэва» было ў два разы таўсцейшае, паціху яго «абстругалі», скарацілі ў выдавецтве, знялі маё ўступнае слова. Аўтарка вельмі

перажывала, але я пераканала яе, што трэба прыняць гэтае рашэнне выдавецтва. Я ўспомніла, як мяне аднойчы Іван Антонавіч Брыль супакоіў: «Не перажывай, там яшчэ шмат добрых вершаў засталося!»

У кніжачцы на 96 старонках змешчана 236 кароткіх вершаў, вершасказаў. Можа падацца, што вершы просценькія, бо кароткія, як «*глыток ветру*», калі пагартаць павярхоўна. Але:

Сны завяршаюць яўнае.
Крочу ў глыбінях свету.
Дарэмна са мною букецік
кветак пасохлых…

Я пераставіла б словы апошняга радка дзеля рыфмы, але Святлане гэта не трэба. Гэты верш аб жыцці ці паміранні? Аб несмяротнасці, аб чалавечай бясконцасці ў агульнай людской повязі. Аб бессэнсоўнасці рытуальных дробязяў з сухімі кветкамі…

Празрыстых версэтаў з адной метафарай у кнізе шмат. Напрыклад:

Вялікі валун прысеў на ўзлеску
адпачыць, ды так і не здолеў,
зачараваны бярозкай,
што прыпынілася побач,
пайсці далей…

Святлана глыбока нырцуе ў слоўнай плыні, і цяжка разабрацца, чытаючы, ці правільна ты яе ўспрымаеш. Яе зварот да *цябе* — вельмі канкрэтны і неакрэслены, і трэба думаць асцярожна, бо мы прывыклі, што *ты* — гэта *ён*, а ў Святланы *ён* (*хлопец, мужчына*) не той, хто засланяе ўвесь прыгожы свет, у якім ёсць Бог. Ты — гэта і душа Мамы Броні, заўсёды жывая на небе, і блізкія людзі — сястра, сябра і сяброўка, чытачы і сад, і кожнае дрэва, кожны лісток. Яна адушаўляе прыроду, нібы святы Францішак з Асізі, ды неяк гэта ўяўляе па-свойму, можа, па-язычніцку. У паэзіі Святланы Варонік усё мае душу — і хмарка, і кропля, і трава:

Вялікая чорная хмара паўзе ў мой бок…
Я шкадую яе і дапамагаю выплакацца.

І я, чытачка, ведаю, што яна і да мяне гэтак звяртаецца:

Не сціхай, мой дождж агністы…
Дажджынкай кожнай люблю Цябе…

Спакойна разумею, што я жывая, але памру, як Мама Броня:

і няхай паміж пальцаў-штыкецін
трава прарастае.

І страшнае імгненне робіцца не страшным, людскім:

Гліняны свет
Абпалены на сонцы.
Ідуць дажджы.
Расце ў збанках трава.

Ёсць паэты, якія надта пакутуюць, складаючы вершы, прыдумваюць нечаканыя метафары, каб чытач памучыўся, чытаючы, каб усе ахнулі, каб інакш, як ва ўсіх, мудра і мудрагелiста выходзіла. А ў Святланы проста:

У хаце мама чужая сваё чужанё абнімае.

Святлана складала вершы, калі была Мама Броня жывой, але калі Мама памерла, ранняе сіроцтва Святланы надало яе вершаскладанню адценні смутку і безвыходнасці. Нічым не замяніць Маміну адсутнасць. Але можна запоўніць пустую прастору невідочнымі словамі, нібы маўклівымі анёламі. Святлана Варонік ператварыла вершаскладанне ў светлую радасць, яна натуе вершы, калі яны прыходзяць, яна імі смяецца, плача і другім аддае, як фанцікі, як цацкі, як ягадкі і цукеркі, як усмешку прывітання. У Святланы ўсе вершы — экспромты.

Перажываюць стагоддзі,
што мы замкаў жывых не бачылі.
А я веру ў разбіты глечык.

Святланіны вершы прывесці ў лагічны парадак цяжка, як немагчыма ператварыць у агарод рамонкавы, незабудкавы луг, гэтыя вершы — пратэст супраць закасцянелай бюракратычнай формы, якая пранікла нават у паэзію.

У Святланіных вершах блытаюцца стылі, яна прыдумляе літаратурныя прымітывізмы-сацрэалізмы. Святланіны вершы — крыху знакі. Святлана ўмее адчуваць знакі. Яна тэлефануе і кажа:

— Як мы начавалі ў Ніны, мы спалі на адным ложку і надта перад сном смяяліся.

Я не магу ўявіць, як можна ўлегчыся на Нінін ложак утраіх, калі хворая Ніна спіць толькі на спінцы і не варочаецца

На Каляды Святлана кажа:

— Прыехалі да Ніны, у яе на магілачцы зацвілі браткі.

І ў кніжачцы Святланы чытаем версэт:

І смяяўся ён з нашых слёз,
І не ведаў, чаму кветкі
Так называюцца — браткі.

Паехала Святлана па пуцёўцы Саюза беларускіх пісьменнікаў на Готланд, у горад Вісбю, недалёка ад цёплага Гальфстрыма. Заляцела туды, у першыя дні пачала сумаваць па сябрах. Яна прысылала мне SMS без слоў. Я не ведала, што за мае словы будзе плаціць сама Святлана, якая цяпер за мяжой, таму спытала: «Света, дзе ты?» Яна адказала вершам:

На Готландзе, пані Данута…
Льняное мора, цяпло сінечы,
Вада кужэльная атуляе плечы…
У цеплыню чужога краю
Свой беларускі боль хаваю…
14 ліпеня

Я ёй напісала: «Света, не верыцца нават, што гэта прыслала ты мне, нібы з таго свету».

Святлана мне:

Святліста-прасвятлісты дзень
Мой сум падсветлены прадзе.
Мой чарапічны гмах плыве
за неспазнанаю тугою.
Так добра ў доміку мне быць —
У тым, страха што з чарапіц…

Так мы перапісваліся… Нарэшце я ёй напісала крыху правакацыйна:

Светка, ты цяпер шведка,
Прыгожых вобразаў сведка!

Святлана прыслала вершык на развітанне з морам і вярнулася ў Брэст:

Па-змоўніцку яхты плывуць у мора.
Мне ветразяў іх не злічыць.
Промнем прасветлым, промнем чырвоным
Сонца цалуе іх.

Там, каля мора, Святлана падлячыла звярэджаныя рукі. Вярнуўшыся, яна паўгадзіны іграла мне на акардэоне новыя мелодыі, яны вырываліся з яе паэтычнай душы разам з вершамі.

У пакінутым доме — на страсе —
Растуць дрэвы.
Нада мной — карані. Барані…
Безнадзейная крона…
Барані ўсіх-мяне, Мама Броня.

*Данута БІЧЭЛЬ*



## Святлана Варонік

Нарадзілася 12 чэрвеня 1969 года ў вёсцы Кастровічы Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт Брэсцкага педінстытута. З 1991 года працавала выкладчыцай беларускай літаратуры на кафедры беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта, з 2006 па 2015 год — загадчыцай Адукацыйна-асветнага цэнтра імя У. Калесніка. Аўтарка навуковых і навукова-папулярных артыкулаў. Вершы друкаваліся ў абласным і рэспубліканскім друку: часопісах «Бярозка», «Крыніца», «Полымя», «Маладосць», «Дзеяслоў», «Наша вера», «Тэрмапілы», у зборніках «Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны», «З прыродай зліўшыся душой», «Радаводнае дрэва Прыпяці», «Белавежская пушча ў духоўнай і культурнай спадчыне беларусаў», у альманаху «Жырандоля», інш. Перакладае з польскай, украінскай моў: «Акафіст да Маці Божай Нястомнай Дапамогі» — пераклад (у суаўтарстве) з украінскай мовы (2000); «Жывая пушча: дапаможнік для заняткаў экалагічнай адукацыяй у нацыянальным парку “Белавежская пушча”» — пераклад з польскай мовы (2002); «Культурная спадчына рэгіёну Белавежскай пушчы: вынікі польска-беларускіх інвентарызацыйных семінараў» (2003); «Набажэнствы ў гонар мучанікаў Падляшскіх» — пераклад (у суаўтарстве) з украінскай і польскай моў (2008). Аўтарка паэтычных зборнікаў «Маміна дрэва» (2015), «Пацеркі даверу» (2019). Жыве ў Брэсце.

## *ВЫШЫВАЮ ВЯСНУ*

* * *

У дажджу майго  
ёсць імя…  
Мама…

* * *

У белым покрыве сяла…  
Любоў мая  
табой цвіла…

* * *

Адхварэлі
заўчасна
журбою…
Адхварэлі
заўчасна
тугою…
Не табою
цяпер
сумую…
Вышываю
на вуснах
вясну я.

* * *

Адкрыццёваю
сталася фортка…
Прытуліла
ў сябе птушаня…
І — частуюцца вершам…

* * *

У гэтым
паболеным свеце
нехта крывавіць
сваю душу…
Снег знаходзіць
свой колер…

* * *

Журба заўчасна зажурылася…
Душа твая
з маёй
змірылася…

* * *

Божа паслаў мне
столькі добрых людзей…
І забраў…
колькі…
Божа…
Светлыня пераможа…
Да зламаных тулюся надзей…
Абнадзей
іх
маёю
Вернасцю…

* * *

Мне
захацелася
маўчаць…
Каб ты не чула…
Маўчаць-маўчаць-маўчаць…
А ты —
пачула…

* * *

Усмуткаваліся…
А з нябёс
Словы Вашыя
мне заўсміхаліся…
З нябёс
Вы адгукаліся…

* * *

У цябе мне
надзвычай добра…
Музыка дрэў…
Графіка радасці…
Гаршчок,
што паспеў
трэснуць…

Трымае мае карані…
Расці…
Усміхнулася сонца…

* * *

На тонкія галіны
дрэваў небных
злятаюцца сінічкі
гаманіць…
Звініць мне іх
гаворка…
…Стала горка…
Сінічкаю стамілася пабыць?

* * *

Мамінай душой,
маміным голасам,
Словам…
Маміным маўчаннем…
З кожным з нас так
размаўляе Божанька…

*Да 70-годдзя Аляксея Ганчука*

## Паэтычныя берагі Аляксея Ганчука

*(Ганчук, А. Берагі : вершы / Аляксей Ганчук. — 2019. — 44 с.)*

Памятаецца, пяць гадоў таму ў чарговы дзень нараджэння Аляксея Ганчука я павіншаваў шасцідзесяцігадовага юбіляра вершам, які пачынаўся словамі: «Не напісаў пакуль раманаў, затое ма́е “Белы ганак”». Тая першая, даволі-такі запозненая кніжка была прыхільна сустрэта чытачамі і крытыкамі, адкрыла аўтару шлях у творчы саюз. І вось цяпер чарговая новая — «Берагі». Сэнс назвы аўтар гранічна сцісла патлумачыў у аднайменным вершы:

Два словы: любоў і каханне.
Радзіма і любай дыханне.
Два словы — як два берагі.
А колькі пяшчоты, тугі!

Лічу справядлівым, што названы вышэй твор не стаў эпіграфам, адступіў у сярэдзіну, бо тэматычная палітра паэтычнага зборніка, нягледзячы на яго невялікі аб’ём, значна шырэйшая.

Лірычны герой кнігі — прывязаны да родных каранёў чалавек сталага веку, які па-дзіцячы пільна ўглядаецца ў свет прыроды і людзей, імкнецца зразумець яго і зафіксаваць на паперы і ў памяці фотакамеры. Прыкмеціў, што ў апошнія гады Аляксей Ганчук усё часцей здымае восень. Розную: ад першага жураўлінага кліна і да апошняга вохкага ліста, каторы (як на застаўцы да другога раздзела гэтага зборніка) прыстаў да мокрай аконнай шыбы. Прыкладам удалага паэтычнага партрэта спадарыні-Восені можна лічыць арыгінальны верш-загадку:

Агністых цярпець не магу,
З адценнямі рыжых — тым болей.
А ўсё-ткі адну берагу,
Люблю апантана, да болю.

Да рахманай пані можна прыходзіць без папярэджання ў любую пару, у любое надвор’е і ў любым настроі. Калі трэба, восень заўсёды суцешыць, адвядзе благія намеры. Яна, мудрая, настройвае на няспешны роздум, выклікае настальгічныя ўспаміны і глыбокія развагі. Пошум кранутых пазалотаю кронаў супыняе на шляху «безгаловага бегу з небыцця транзітам у нябыт». Такім чынам, прырода і чалавек у Аляксея Ганчука цесна паяднаны. Нават тужлівы голас самотнай птушкі дапамагае заглыбіцца ў сябе.

Як добра, што кнігаўка плача.
Сябе не пачуў бы іначай.

Не ўсё задавальняе лірычнага героя ў гэтым свеце. «Хто вам сказаў, што жывём без вайны?!» — звяртаецца ён з рытарычным пытаннем да сучаснікаў.

Па ягоным перакананні, вайна не можа лічыцца закончанай, пакуль дыхае Чарнобыль, большае свежых магіл на Палессі, дзяцей у прытулках і «хворых на дух», калі, урэшце, вакол нас «большае пагонаў».

Бераг Кахання ў зборніку Аляксея Ганчука — асаблівы. Гэтае высакароднае пачуццё для яго героя трывалае, на ўсё жыццё — «было коліcь першым, а стала апошнім». Жывы, пакутлівы ўспамін пра «заўчарашнія вочы» нельга перамагчы, засіліць.

Эх, звязаў бы душу спакваля —
Не знайшлося калючага дроту, —

гэта не што іншае, як прызнанне бездапаможнасці перад Яго Вялікасцю.

Не выключана, пры няўважлівым, паспешным чытанні таму-сяму вершы Аляксея Ганчука могуць падацца настальгічнымі песнямі жальбы. Наконт гэтага хачу запярэчыць. Мінорныя інтанацыі ў іх, трэба згадзіцца, пераважаюць. Што зробіш, калі з гадамі для кожнага з нас усё больш «ярчэе і звужаецца мяжа паміж таемнай вечнасцю і марай». І ўсё ж у аўтара гэта не слёзнае шкадаванне аб пражытых гадах і няспраўджаных надзеях, а жаданне падзяліцца з чытачом тым, што непакоіць сумленне, вярэдзіць душу, прымушае хвалявацца за лёс дзяцей і ўнукаў.

Аляксей Ганчук заўсёды ў дарозе: на рэдакцыйнай машыне абласной газеты (працяглы час мы разам працавалі ў беларускамоўнай «Народнай трыбуне»), на ровары, а то і пешшу. І нязменна з улюбёным «Фіксам», які дапамагае яму ўвекавечваць «подыхі часу». Хачу пажадаць, каб дарога фотамайстра і паэта была доўгай і шчодрай на творчыя адкрыцці.

*Мікола СЯНКЕВІЧ*



## Аляксей Ганчук

Нарадзіўся 17 студзеня 1954 года ў вёсцы Навасёлкі Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў Тэвельскую пачатковую школу, затым працягнуў вучобу ў Стрыгаўскай сярэдняй школе, якая знаходзілася ў сямі кіламетрах ад дома. Служыў у арміі ў Мінску, падчас службы скончыў школу ваенных карэспандэнтаў пры Доме афіцэраў. Пасля дэмабілізацыі ўладкаваўся фатографам у камбінат бытавога абслугоўвання ў Жабінцы, куды на той час пераехалі бацькі. У 1982–1991 гадах Аляксей Ганчук займаў пасаду карэспандэнта жабінкаўскай раённай газеты «Сельская праўда». Прыняў удзел у рэспубліканскім семінары маладых пісьменнікаў у Каралішчавічах у 1984 годзе. У 1990 годзе скончыў кінафотафакультэт Маскоўскага завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў. Працаваў фотакарэспандэнтам маларыцкай райгазеты «Голас часу», абласной газеты «Народная трыбуна», абласной газеты «Брэсцкі веснік», фатографам, карэспандэнтам і фотакарэспандэнтам рэгіянальных газет, загадчыкам гаспадаркі Жабінкаўскай дзіцячай школы мастацтваў. Друкаваўся ў зборніках «Дзядзінец. Паэзія Берасцейшчыны» і «Берасцейскія карані», альманаху «Дзень паэзіі», часопісе «Першацвет», штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», раённай, абласной і рэспубліканскай перыёдыцы. У 2008 годзе дэбютаваў у літаратурным альманаху Брэстчыны «Жырандоля». Паэзіяй захапіўся ў школе, першы свой верш надрукаваў у 1975 годзе ў дывізіённай газеце падчас вайсковай службы. Працуючы ў жабінкаўскай райгазеце, пачаў пісаць вершы на роднай мове. Першая самастойная кніга аўтара «Белы ганак» убачыла свет у 2010 годзе. Назва зборніка сімвалізуе шчырасць, чысціню пачуццяў, вернасць роднаму кутку, даверлівасць да суразмоўніка-чытача. У 2019 годзе выйшаў другі зборнік «Берагі», дзе сціплы і нешматслоўны па натуры паэт дзеліцца з чытачамі тым балючым, што непакоіць сумленне, вярэдзіць душу, прымушае хвалявацца за лёс дзяцей і ўнукаў. З юных гадоў акрамя вершаў захапляўся фатаграфіяй, першыя навыкі па якой даў яму мясцовы фатограф-аматар. Пасля дзевяці класаў яны з братам Дзмітрыем уладкаваліся ў ПМК грузчыкамі. Атрымаўшы першы ў жыцці заробак, хлопец купіў фотаапарат «Змена»… З тых часоў, як паляўнічы, Аляксей Іванавіч цікуе і ў пошуках добрага сюжэту гатовы падняцца досвіткам, адправіцца на «фотапаляванне» пешшу або на ровары. Ён з’яўляецца аўтарам шматлікіх персанальных фотавыстаў, удзельнікам і дыпламантам абласных і рэспубліканскіх фотаконкурсаў, лепшым фотакарэспандэнтам Брэсцкай вобласці за 2013 і 2015 гады. Удзельнічаючы ў 1996 годзе ў рэспубліканскім фотаконкурсе «Факт і вобраз-96», аб’яўленым газетай «Рэспубліка», Аляксей Ганчук стаў яго прызёрам. У 2013 годзе — пераможца рэспубліканскага творчага конкурсу «Моцная сям’я — моцная дзяржава» ў намінацыі «Лепшыя фотаматэрыялы ў друкаваных рэгіянальных СМІ». У 2017 годзе — уладальнік першага месца ў рэспубліканскім фотаконкурсе «Мая родная Беларусь з акна цягніка», прысвечаным 155-годдзю айчыннай чыгункі, у намінацыі «Беларуская чыгунка. З XIX веку — у век XXI» з работай «У век хуткасцяў». У 2019 годзе здымак Аляксея Іванавіча «У чаканні аўталаўкі» заняў першае месца ў намінацыі «Землякі» ў рэспубліканскім фотаконкурсе «Мой родны кут». У лютым — сакавіку 2014 года ў фае Жабінкаўскага гарадскога Дома культуры праходзіла фотавыстава фотакарэспандэнта «Народнай трыбуны» Аляксея Ганчука, у работах якога адлюстраваны прыгажосць прыроды і сучаснікі самых розных узростаў. У лютым 2019 года ў Жабінкаўскім ГДК адбылася выстава фотаработ

«Фарбы і імгненні» і прэзентацыя зборніка вершаў «Берагі» фотамайстра і паэта Аляксея Ганчука. Па словах берасцейскага паэта і вядучага праграмы на тэлебачанні «Край» Міколы Пракаповіча, які прысутнічаў на мерапрыемстве: «Трэба мець душу творчую, паэтычную, таму і паэзія, і фотамастацтва Ганчука — гэта адно цэлае: паэзія ў фотаздымках, паэзія ў лірычных радках». Паэт-фатограф, паэтычная натура, ён па-свойму цікава ўзбагачае беларускую паэзію ўласным разуменнем і асэнсаваннем жыцця, вершаваным выказваннем думак. На пранікнёныя радкі, як і на «фотаімгненні», яго натхняюць беларуская прырода і някідкая прыгажосць землякоў. Жыве ў Жабінцы.

*** * ***

Досвітак нявыспелым віном
Выбухнуў з-пад сіняй аблачыны.
У птушыны песенны вянок
Перазвон уплецены шпачыны.

Прага непаўторна палюбіць
Кожнай жылкай веснія імгненні
І душу да краю наталіць
Пахам новых фарбаў і адценняў.

Воддаль ад хлусні і мітусні
Замак збудаваць крылатай веры
І на ўсе адведзеныя дні
Ключ надзеі Госпаду даверыць.

*** * ***

Як мошкі, пазлятаемся да хлеба
І хвалім, ганьбім гэты час.
Няма калі ў зажуранае неба
Зірнуць, якое моліцца за нас.

Дзесь там за намі сочаць: от жа людцы,
Як можна жыць нагамі дагары, —
Падковы гнуць, смяротным боем б’юцца,
Ажно зямля-пакутніца гарыць.

Мільёны ж — абыякавых, маўклівых,
Адзінкі йдуць за іх на эшафот.
…Скажыце, людзі, хто між вас шчаслівы?
Не чую: ціша дрэмле ля варот.

## Маленькая радзіма

Прыязджаю сюды, як у храм да прычасця,
Як у родную хату, якое няма.
Тут гаючыя лекі вяскоўцаў прымаў.
Толькі шчасця ніякага, толькі няшчасце.

Памалюся і крочу старэнькім гасцінцам,
А па целе дрыготкі, пякучы мароз.
Азірнуся… Прамоклая вёска наскрозь
Адпускае і плача ў жалобнай хусцінцы.

*** * ***

Нічым нікога ўжо не здзівіш сёння.
І словы трацяць сілу і вагу.
Да бліжняга, чужынца, родных гоняў
Адно сказаць з гарчынкаю магу:
Адзін не любіць сонечныя промні,
Другі з ільдзіны высеча агонь.
Дай хлеба аднаму — навек запомніць,
Даруй жыццё другому — лясне ў скронь.

*** * ***

Хацелася рамантыкі, кахання.
Гудзела цела часта ад касы.
Пытаў сябе ў юначыя світанні:
Калі настануць лепшыя часы?

Раслі ідэі, сейбіты, паэты.
І чуліся здалёку галасы:
Для тых, хто бараніў старонку гэту,
Ніяк не прыйдуць лепшыя часы.

У новым дні дарма шукаю смаку:
Вось снег упаў ужо на валасы.
Віюцца думкі восеньскай вужакай:
Няўжо мінулі добрыя часы?

* * *

Ля суседчынага стога
Мы сустрэліся ізноў.
Успамінаў вельмі многа
Гаманлівых і без слоў.

Праляцеў наш век імклівы,
Пасівелі валасы,
Кожны верыў, што шчаслівым
Дасягне сваёй красы.

Мары дзіўных адгалоскаў
Збеглі, зніклі, адплылі.
Ды прайшла мяжа-палоска —
Жаль, наіўнымі былі.

* * *

Стамлёны прысеў, дзе з прыскокам хадзіў.
З бярозай сваёй пачынаю гаворку.
З бярозай, якую на рыжым пагорку
На радасць, на долю ля школы садзіў.

Цяпло надвячорка ўспаміны нясе
З маленькіх двароў, прапацелых вячэрай…
Тут тысячы вёрст пехатою адмераў,
А сёння ў адну пазбіраліся ўсе.



## Уладзімір Глазаў

Нарадзіўся 22 красавіка 1974 года ў Брэсце. У 1991 годзе скончыў школу і паступіў у Брэсцкі дзяржпедінстытут на філалагічны факультэт, які праз год кінуў, усвядоміўшы, што «паэзія і філалогія несумяшчальныя». Перыядычна публікуецца з 1992 года. Выдаў дзве кнігі паэзіі: «Время собственное» (2013) і «Брестский мир» (2021). Разам з С. Прылуцкім і Д. Гронскім з’яўляецца заснавальнікам літаратурнага інтэрнэт-часопіса «ЛітРАЖ». Працаваў журналістам у газеце «Брестский курьер». Жыве ў Брэсце.

### * * *

Слова и воздух — вот все чудеса
с рожденья явлены мне были.
У паники нормальные глаза —
зелёно-серо-голубые.
У паники обычные черты,
походка, жесты, складки кожи.
Вот только воздух выкачан, и ты
ни слова вымолвить не можешь.
Так утром кофе пьёшь и пирамид
в твоём окне открыт горчайший вид,
висят сады Семирамиды.
В прекрасном прошлом воздух не занять.
У будущего слово не отнять.
А в настоящем все убиты.

### * * *

Бессонница-сиделка
склонилась надо мной.
Протягивает дольки,
окутанные тьмой:
то фиги, то каштели,
то с грозди виноград.
Подаст глоток Кастальи…
— Ну что, дружочек, рад?

Подтянет вверх подушки.
Салфеткой пот со лба.
— Какие передачки
прислала нам судьба? —
мурлычет. И пакетом
на тумбочке шуршит.
И каждый шорх раскатом
по комнате дрожит.
Ах, всё это не важно.
Оставь, сестра, пакет.
Дождливо или вьюжно,
закат или рассвет —
до ваших календарных
мне дела нет причуд.
Всё с каждым годом дурно
повсюду — там и тут.
Какой у вас там месяц —
трёхзначное число?
Горелый запах мяса
с чего там разнесло?
Бессонница-сиделка,
бессменная моя!
Я вижу только дольки
и части бытия,
отрывки, строчки, ноты,
что не дают уснуть.
Из выреза халата
твоя смуглеет грудь.

## Глухое спасибо

Раньше были так смены ночные прекрасней дневных —
холодней, голодней, безнадёжней, тревожней, —
что лишил я на годы себя вековых трудовых
уложений народных. Жил сбоку и возле,
а то вовсе напротив потоку и солнцу трусил,
от свободы своей задыхаясь и пряча
в чёрной клетке грудной хороводы далёких светил —
то ли нищему милостыня, то ли сдача
с их молчания — света крупицы, как крошки махры,
старый лагерник этой одной из Вселенных.
И моё им глухое «спасибо», что тем помогли
не делить понедельники от воскресений.

* * *

Жара и скука. Лень и похоть.
«Стакан воды и томик Блока
со льдом, естественно, бармен…»
Взгляд падает, как будто в пропасть —
в окно, на стены… Плохо, плохо
от видов за окном и стен.
Что толку с этим всем бороться?
Пей из ближайшего болотца.
Лоб томом Блока охлади.
То и спасает от бесчинства —
тебя с барменом триединство
с неясным ликом впереди.

## Очевидный выбор

Один Диоген всегда ходил с фонарём под глазом.
Чёрт знает в чём, в хламиде, в полотняной гнили.
По улицам шлялся, рынкам, к людям в дома залазил.
Кого он искал — те с толком и с чувством били.
Другой Диоген — тот вечно голый валялся в бочке.
Чёрт знает чем занимался, бухал с рассольцем.
Со дна своего, как хотел, ставил на небе точки.
И никакая тварь не заслоняла Солнце.

## Песенка

Дешёвый организм
не дюж, недолговечен.
С утра ещё так-сяк,
бесчинствует под вечер
молекул несознательный
невидимый народ.
Броженье по цепочке,
скандал внутри ячейки —
на ужин продразвёрстка
в режиме чрезвычайки
закручивают винтик
на автоподзавод.
Так снова ты в строю —
рентабелен, валентен,

в шеренге рядовых
расхожих реагентов.
Хромаешь, пусть не в ногу, но
подтянут, жилист, храбр!
Готовый к катаклизмам —
планета перегрета…
Программа вдруг зависла…
Персоною нон-грата
летишь в открытый космос —
лунатик, светозавр…

* * *

Хоть бы на день, на сутки
разминуться с тобой,
жизнь моя, незабудка
в мураве луговой.
Отмахнуться бы шуткой.
Разойтись с матерком.
Мне налево как будто,
а тебе прямиком —
в гипермаркет недальний
за игристым вином.
Чтоб мне было печальней
и прекрасней притом
одному в целом мире,
пусть он — пекло и ад.
Отпусти на четыре!
Всё равно, где снаряд
разорвётся! И вспышка,
лёгкий всполох огня,
станет лучшей отвычкой
тебя — от меня.

* * *

Этот ли, тот ли
свет наяву?
Глянь-ка в бинокль —
так я живу —
шторы на окнах,
кружится шмель.

Видишь в бинокль?
То-то! В прицел —
лучше. Отбросив
зло и добро.
Я — и Иосиф,
и братья его…
Чем современней,
тем, суть, древней.
Цены для мены
те ж средь людей —
овны и злато,
благость жены.
Тем же богаты.
Тем же бедны.
Аки Иаков
с посохом — в путь.
Мир одинаков.
Равно где гнуть
спину — в пустыне,
в комнате. Ад
всюду отныне.
Кто тебе брат?
Дядя? Племянник?
Кто вхож к отцу?
Зрячего манит
зависть к слепцу.

## Дань

Ещё ты говоришь:
то мямлишь, то щебечешь.
То среди ночи вдруг
округу разрываешь петухом.
Но соловьиной трели
давно уже в себе не слышишь.
Как, впрочем, мир вокруг себя.
Ты лишь читаешь по губам
его неверные приметы:
вот солнечные отблески на шлемах и щитах…
вот лунная дорожка в клетке ученической тетради…
вот девушка, что омывает стопы
универсального солдата
собственною кровью…

Лишённый слуха, ты сполна
дань заплатил за свет,
накопленный в своём подвале,
на чёрные оставшиеся дни…

* * *

С годами теряешь близких.
Приобретаешь дальних.
Играешь по переписке —
смутных фигур печальных,
живых ещё, отмечаешь
лайком ходы раздумий.
Рожденья дни отмечаешь
в скайпе, телеге, зуме.
Так долго живёшь при свете
электрической речи —
в любом из тысячелетий
можешь назначить встречу.

* * *

Не открывай глаза.
Там, за их темнотой,
слишком много света
для комического персонажа
в эпизодической роли
длиною, может быть,
чуть более полувека
без единой реплики,
без единого жеста.
Слишком много света,
чтоб обозначить
твоё присутствие в нём.
Не открывай глаза.
Там, за их темнотой,
грохот и лязг добычи
руды, способной убить тебя.
Но говорят: защитить.
Что не убивает, повторяют,
делает тебя сильнее.
И не говорят: зависимей.

Слишком много урана,
слишком много морфина
для присутствия среди них
живых элементарных частиц.
Не открывай глаза.
В этой их темноте
каждый твой вдох и выдох
ярче света снаружи,
и шевеление губ
отчётливей лязга и грохота.
Не открывай глаза.
Продержись, сколько можешь,
до темноты снаружи,
до тишины снаружи,
до последней ласки
лопаты гробовщика.

## Ещё по чуть-чуть

1

Ещё хлебнуть настойки горькой
с самим собой во тьме ночной
и сдать Петру за барной стойкой
просроченный мой проездной,
хоть было выпито немало
с друзьями, недругами, всяк,
кто нараспашку, с кем попало,
враздрызг и наперекосяк.
Пётр усмехнётся в бородищу,
подаст стакан: «Оплачен счёт.
Тебе давно пора, дружище…»
Толкнув со звоном кулачищем,
свернёт за угол в барбершоп.

2

Ещё хлебнуть холодный воздух,
халвой крошащийся в руках
над сумеречной гладью водной.
Припомнить привкус на губах
подсолнечный, солоноватый,
такой чужой, потом родной.
В любви мы равно виноваты.

Моя вина всегда со мной.
Не хмурься, жалобщик, зануда!
Ты счастлив был, и поделом
брести вдоль берега, покуда
ты не узришь явленье чуда…
Хотя бы девушку с веслом…



## Іван Мельнічук

Нарадзіўся 15 верасня 1939 года ў сяле Носава, што на Люблінагчыне (Польшча). Пасля дзесяцігодкі працаваў падлікоўцам-учотчыкам Брэсцкай МТС. У 1957 годзе паступіў у Брэсцкі педінстытут, з чацвёртага курса якога быў запрошаны ў брэсцкую раённую газету «Заря над Бугом». Служыў у войску. Працаваў уласным карэспандэнтам «Чырвонай змены» па Брэсцкай вобласці, потым — лектарам, памочнікам першага сакратара абкама партыі, у савецкіх органах вобласці. Выдаў кнігі для дзяцей «Кто разбудил солнце» (1982), «Сами диво сотворим» (1990), «Добрый лучик» (1997), «Как муравьишка Ишка себя наказал» (2003), «Сказки — добрые подсказки» (2008). У 2008 годзе Іван Міхайлавіч выдаў кнігі вершаў «Хлеб насущный», «Гасцінец» (вершы, байкі, гумарэскі), а ў 2023-м — «З рога ўсяго многа» (вясёлыя дзіцячыя вершы, апавяданні, казкі, смяшынкі, мініяцюры). Лаўрэат абласной літаратурнай Мядовай прэміі за 2008 год. Жыве ў Брэсце.

## Замалёўкі

### Неспадзяванае прадстаўленне

Тым цёплым і дажджлівым летам гарбузы раслі як на дражджах. Адзін да восені вымахаў з галаву сланову. Грышка адразу прыкінуў, што страшыдла з яго атрымаецца адмысловае, як ён казаў — «супер».

З сябрам Сцёпкам яны прывалаклі цяжэнную «бомбу» пад паветку, доўга шчыравалі — выразалі шчыліны для вачэй, носа, рота. Потым выбралі семкі, замацавалі пластылінам свечку.

Грышка задаволена пасміхаўся: «Нагонім страху акцёрам, што апоўначы з клуба будуць вяртацца».

Трэба сказаць, што тым вечарам напружана працавала «вясковае радыё». Бабка Фядора, даведаўшыся, што конюх Мірон на падпітку перакуліўся ў сіласную яму ля фермы, кінулася разносіць па знаёмых «аператыўную інфармацыю». Ад Марыны да Кацярыны, ад Ліды да Сцепаніды, ад Тамары да Варвары…

Яна, мусіць, і далей марочыла б бабскія галовы, каб не ўспомніла пра карову і парасят. Тут і дала языку спакой — павярнула дахаты. Ледзь Фядора збочыла з дарогі, як раптоўна тармазнула: перад ёю, шырока разявіўшы вогненную пашчу, зеўраючы зубамі і вачыма, вырасла жудаснае страшыдла.

— Згінь, згінь, нячыстая сіла! Маці Божая, Царыца Нябесная, ратуй, літасцівая!

Не паспела разносчыца навін ачомацца, як пачуліся галасы, з клуба высыпала моладзь, і хутка людзі пацяшаліся з дзіўнага страшыдла.

А «Фядорына радыё» з таго дня, як толькі сцямнее, адразу стала адключацца.

### Вось дык хованкі

Быццам на крылах, ляціць Петрык на сваім веліку па выкручастай палявой сцяжынцы, спяшаецца ў бліжэйшы лясок у «разведку»: чуў ад суседзяў, грыбы пасля дажджу высыпалі. Звіняць весела колы, жаваранак у небе заліваецца, валошкі, нібы сігнальныя агеньчыкі, побач мільгаюць.

Але раптам ногі самі цісануць на тармазы: наперадзе, за некалькі крокаў ад яго, на дарожку высыпалі з-пад куста залацістыя маленькія птушаняты.

«Курапатачкі!» — здагадаўся хлапчук. Ён саскочыў з веласіпеда, падбег да высокай травы, куды сыпанула тая малеча. Вачам не паверыў: няма птушанят. Быццам і не мітусіліся толькі што каля сцежкі.

Прысеў, траўку разгарнуў. Дзіва дзіўнае: уверх галоўкай нерухома стаіць маленькі, з дзіцячы кулачок, пушысцік. Толькі вочкі пацеркамі свецяцца. Побач яшчэ адзін ні жывы ні мёртвы замаскіраваўся, воддаль — трэці…

— Дык вось як вы ўмееце ў хованкі гуляць! Малайцы! — ацаніў хлапчук умельства птушанят.

«Чвір-р-р, чвір-р-р», — падала голас, паклікала з бліжняга пасеву збажыны маці-курапатка.

— Да мамкі, да мамкі ляціце, — даў параду Петрык. — Толькі каршуну на вочы не трапляйце: з тым разбойнікам у хованкі не згуляеш!

### «Дзякуй Богу»

— Бабуля, чаму ты раз-пораз паўтараеш «дзякуй Богу»? — пытае ў старой Марынка. — Дожджык пройдзе, бульба ўродзіць, пенсію дадуць, я «дзясятку» прынясу — зноў і зноў паўтараеш тыя словы і Бога славіш.

— Дык гэта зразумела: Бог дае людзям і цяпло, і святло, і вадзічку гаючую, і ўсе даброты свае. Нават тое ж паветра чыстае, без якога і людзі, і ўсё жывое хвіліны не праіснавалі б.

— А ў садку нам казалі, што ўсё на свеце ад сонца.

— А хіба само сонца — гэта не дар Божы? Толькі дзякуючы вышэйшым сілам сонечныя промні з немаведама якой вышыні пранікаюць праз халаднюшчае неба і прыносяць нам і святло, і цяпло, і ўсё, што патрэбна для жыцця на Зямлі.

— А скажы, бабуля, чаму сам Бог хаваецца, мы яго не бачым?

— Дык мы многа чаго не ведаем і не бачым: і ветру, і цяпла, і марозу, і грому, і вірусаў розных. Галоўнае, што людзі пра Яго ведаюць і многія вякі ў розных краінах, на розных мовах прыносяць Богу сваю бязмежную ўдзячнасць за ўсё. Вось так, мая даражэнькая.



## Валянціна Осіпава

Нарадзілася 22 кастрычніка 1959 года ў вёсцы Абакумы Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла Пінскі тэхнікум мясной і малочнай прамысловасці (1978), Магілёўскі тэхналагічны інстытут (1984). Працавала на розных пасадах у ААТ «Бярозаўскі сыраробны камбінат» (1991–2014). Вершы друкаваліся ў часопісах і газетах «Дзеяслоў», «Верасень», «Тэрмапілы», «Гаспадыня», «Культура», «Народная газета», «Літаратурная Беларусь», «Рэспубліка», «Заря», «Маяк, «Роднае слова», у літаратурным альманаху «Жырандоля» і іншых выданнях. Піша на рускай і беларускай мовах. Аўтарка чатырох паэтычных зборнікаў: «Навстречу разлукам» (2000), «Разноголосица души» (2004), «Блики» (2006), «Бумажный змей» (2013). Лаўрэат літаратурнага конкурсу, прысвечанага 60-годдзю Брэсцкай вобласці (1999). Пераможца рэспубліканскага конкурсу, абвешчанага газетай «Жаночы калейдаскоп» (2002). Жыве ў Бярозе.

### Пра ідэю

Фізіка-хімічную характарыстыку ідэі
даць складана — яна нематэрыяльная.
Метад адмаўлення,
які выкарыстоўваюць тэолагі,
у гэтым выпадку не спрацуе.
Пойдзем іншым шляхам,
каб даследаваць атрыбуты ідэі.
Ідэі не маюць вагі,
але, нягледзячы на сваю бязважкасць,
ім нельга адмовіць у важкасці ўплыву.
У адрозненне ад ісціны,
яны не маюць смаку,
але пасля многіх увасобленых ідэй
чалавецтву даводзіцца горка каяцца.
Ідэі не валодаюць механічнымі ўласцівасцямі,
і тым не менш і для іх характэрна канструктыўная
трываласць:
ідэі цэментуюць супольнасці,
з іх будуецца каркас тэорый,

версій,
канцэпцый…
Ідэі закладваюць падмурак
законаў,
указаў,
пастаноў…
Ідэі не маюць фізічных габарытаў,
але бываюць высокія, узнёслыя і прыземленыя,
дробныя і худыя…
Як і навіны — дрэнныя і добрыя.
Як жанчыны — падспудныя,
ашаламляльныя, спакуслівыя…
Як мужчыны —
амбіцыйныя,
грунтоўныя,
завіральныя…
Ідэі — выдасканаленыя маніпулятары.
Яны памыкаюць грамадскай думкай,
зрадняюць і раз’ядноўваюць,
сеюць варожасць сярод сяброў,
вядуць брата на брата
і робяць кроўных ворагаў пабрацімамі…
Ідэі — магутныя.
Яны спараджаюць імперыі і перакульваюць троны,
сціраюць з твару зямлі велізарныя дзяржавы
і ўкараняюцца ў геном…
Улічваючы гендарную прыналежнасць,
з ідэямі патрэбна паводзіць сябе асцярожна і далікатна:
яны не ўзброеныя, але пры гэтым бываюць
вельмі небяспечнымі, асабліва ў той момант,
калі ім пераходзяць дарогу суперніцы.
Ідэі не маюць сэрца,
але валодаюць дваістасцю характару:
гуманным і ўзвышаным уласцівы
і фанатызм,
і жорсткасць,
і бязлітаснасць…
Белыя і пухнатыя служаць шчытом, штыком
ці шырмай для брудных спраў.
Даволі вядомы ідэолаг перавагі
адной нацыі над іншай на практыцы пацвердзіў,
як эфемерныя задумкі філосафаў
з лёгкасцю могуць напампаваць мышцы
ў студэнцкіх аўдыторыях і піўных,

каб потым паходнямі азараць вуліцы
і апекаваць крэматорыі,
а ў той час у «чырвонай» частцы свету
іншыя праваднікі высокіх ідэй з непадробным
энтузіязмам мільёнамі чалавечых жыццяў брукавалі
шлях у лагернае пекла.
Ідэі — геніяльныя рэжысёры:
яны ліха кіруюць масоўкай, якая фанатычна
выконвае іхнія прыхамаці:
Галгофы і вогнішчы інквізіцыі,
крыжовыя паходы і джыхады,
ГУЛАГі і Асвенцімы,
«чырвоныя кхмеры» і…
Ідэі бясполыя,
але ўвесь час адточваюць механізм размнажэння.
Ашаламляльнага прарыву
яны дасягнулі менавіта ў апошнія гады.
Спараджэнні ідэй шматлікія і грандыёзныя:
велічныя храмы і хмарачосы,
аэрапланы і атамныя крэйсеры,
санэты і санаты,
штучны інтэлект
і штучныя выспы…
Ідэі непрадказальныя, як заўтрашні дзень:
камусьці разам з яблыкам звальваюцца на галаву,
у кагосьці плёск вады параджае бляск думкі,
а некаторым шчаслівчыкам
папросту з’яўляюцца ў снах.
Нягледзячы на цьмянасць паходжання, ідэі ўспадкоўваюць
характэрныя бацькоўскія рысы:
розум і вар’яцтва,
смеласць і рызыку,
прагматызм і гуманнасць…
Паспрабуем наблізіцца да радаводу ідэй.
Прасцей за ўсё прыпісаць бацькоўства зямлянам.
Але некаторыя вучоныя мужы намякаюць,
быццам чалавек усяго толькі медыум, праваднік ідэй
(гл.: Буда, Платон, Тэсла і інш.).
У легкадумных паэтаў у гэтым пытанні таксама
разброд і хістанні:
адным сп’яна мрояцца Музы,
іншыя на поўным сур’ёзе
сцвярджаюць, што гапліком натхнення
выцягваюць ідэі з прасторы,

а некаторыя святататцы, быццам бы
узяўшы дурны прыклад з Гермеса,
крадуць свяшчэнныя радкі
у самога Апалона.
Безумоўна,
дзякуючы Google можна падрабязна даследаваць
любую версію.
Гэта значна прасцей,
чым блукаць у трох соснах
філасофскіх нетраў.
Прэпараванне ідэй: цыталагічны аналіз,
патэрны мыслення,
дослед на таксічнасць —
усярэдненай большасці здаецца
пустой забавай мысляроў.
А тым часам безаблічныя сутнасці
з пераменным поспехам цягнуць па бруку вякоў
грузны воз цывілізацыі ў не вядомым нікому напрамку.

## Пра культуралогію

Змяніўся
культ працы
й высокай культуры
культмасавым
апашленнем:
вядуць
паслядоўнікаў
гуру гламуру
наўпрост
да эры
Выраджэння.

## Пра марксізм-ленінізм

Нас за сабой вёў
прывід камунізму —
з энтузіязмам крочылі
ў агульны рай.
Цяпер
пад здзеклівы смяшок цынізму
брыдзем,

як зомбі,
у нязнаны край.

## Пра практыцызм

Прагу нажывы
выбралі пастырам,
каб выйсце знайсці
ў лабірынце рэальнасці.

Самі сябе
прывабілі ў пастку
блукання ў поцемках
рацыянальнасці.

## Пра пафігізм

Першакласная праграма —
наша смехапанарама!

З самай раніцы да ночы
мы да колікаў рагочам,
са спагадай да заганаў,
пашлякоў ды хуліганаў.

Што маральныя асновы
заняпалі — нам не нова!

Быт убогі?
Крах культуры?

Не бяры ў мазгі!
Пакурым…

Выміраннем нас лякаюць,
мор маралі прадракаюць?

Мы на гэтыя пасажы
гучным рогатам адкажам.

Ачмуральная праграма —
наша смехапанарама!

## Пра двайныя стандарты

Кодэкс
роўнасці,
братэрства,
свабоды
дапускае
перакос
падыходу:
як для страўніка —
прысмакі на ўсе густы:
марцыпаны,
і бананы,
і лангусты…
А апальнай
духоўнай
прасторы —
усё больш мярзот
з экранаў Пандоры.

*Да 60-годдзя Ігара Сідарука*

## Пачытаем разам

*(Сідарук, І. Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука / Ігар Сідарук. — Брэст : Талер, 1994)*

Знаёмства з кнігаю заўсёды пачынаеш з вокладкі. Чым страшыць сярдзіты дзядзька ў вышыванцы? Мабыць, пра нешта жудаснае расказвае? Бач ты, як тузануўся малы. «Ой, баюся!» — прыкрываецца рукамі. Дзяўчынка наогул зарумзала. Што здарылася, адкуль такі перапалох? Прачытаем разам:

«Захацелася аднаму хлопчыку папаліць тытуню. Ён залез у дзедаву кішэню, дастаў пачак дужа шыкоўных цыгарэтаў “Мальбара” і выкраў адтуль аж сем штук. А вечарам, калі хлопчык ляжаў абкураны ў гародзе за пуняю, раптам узнялася навальніца, жагнула маланка і апякла пякельным агнём хлопчыку рукі.

Так ён быў пакараны за тое, што без дазволу залез у дзедаву кішэню…»

Злачынства і пакаранне за яго — асноўная схема сюжэта большасці з прапанаваных гісторый. Сястра кінула малодшага браціка аднаго ля крамы — за тое яе заклалі ў ламбард; вялікі хлопчык забраў у малога ровар пакатацца — бацька пацярпелага засмаліў крыўдзіцеля ў бочку і закінуў бочку ў далёкае мора; дзяўчынка ўкусіла маму за шчаку — на месцы зубоў сталі расці страшныя іклы, якія нават знакаміты прафесар Гук-Свісцячы не змог спілаваць бензапілою «Дружба»; сястра перашкаджала брату глядзець мульцікі — і тэлевізар прыліп да языка.

Раней падобнага чытаць не даводзілася. Кніга зацікавіла, як і ўсё новае.

Заўважаў не раз, што чым лепш пазнаеш дзяцей, тым больш скептычна пачынаеш ставіцца да саладжавых гісторый, у якіх аўтары прымушаюць сваіх «прылізаных» герояў жыць, ні на крок не адыходзячы ад правілаў для вучняў. Нібыта і зусім прапалі — перавыхаваліся, ці што? — коласаўскія Савосі-распуснікі. Сумна без іх. А між тым адмоўны тып, выведзены сапраўдным майстрам, ніколі не будзе прыкладам для пераймання і настаўніку зробіць яшчэ якую паслугу…

Закарцела вызначыць для сябе жанр «Павучальных гісторый…», што аказалася не так проста. Яшчэ раз перачытаў самыя «страшныя» з іх. Успомнілася, як у дзяцінстве, надвячоркам, адганяючыся ад камароў, слухалі, затаіўшы дыханне: «Бацькі пайшлі ў госці. Дзеці засталіся адны. Па радыё перадалі: зачыніце дзверы на замок, да вас едзе чорная рука. Дзеці не паверылі…» І палатнелі ў канцы, калі апавядальнік надрыўна ўсклікваў: «Аддай маё сэрца!»

Дзіўна, але ў чалавека здавён жыве патрэба трагічнага і як эстэтычная катэгорыя, і як своеасаблівая форма трэнінгу псіхікі. Мо ад таго, што трагічнае ўласціва самому жыццю. Страх (няхай і не ўсякі) можа выклікаць станоўчыя эмоцыі, якія стымулююць псіхічную дзейнасць. Трэніроўка псіхікі — дзейсная заслона ў стрэсавых становішчах, на якія так багата наша жыццё. У першыя гады жыцця страшылка выконвае яшчэ і ратавальную функцыю (не заглядвай

у студню — Вадзянік уцягне). Прычына стварэння ўзораў падобнага жанру (да ўласна страшылак можна дадаць яшчэ «садысцкія» вершы, «чорны гумар» і інш.) — у патрэбе трагічнага суперажывання, пераадолення страху. Раней гэтыя запатрабаванні задавальняліся казкамі і легендамі, у якіх дзейнічалі крыважэрныя Цмокі, Кікімары, Змеі Гарынычы. Час ідзе, і нават у сярэдняй групе дзіцячага садка мала-памалу перастаюць верыць у тую ж «традыцыйную» Бабу Ягу. А вольнае месца доўга пуставаць не можа. Таму і з’явіліся «чорныя шторы», «чырвоныя боты», «прарочае радыё», а пасля і «робаты-забойцы».

Думаю, што многія з гісторый дзядзечкі Сіда Рука можна лічыць страшылкамі хоць бы на той падставе, што ка́ра ў іх ніколькі не адпавядае здзейсненай правіннасці. Больш за тое, усе героі безыменныя, учынкі не матывуюцца, характары не раскрываюцца. Іншыя гісторыі я класіфікаваў бы чыста ўмоўна як міні-казкі, гумарыстычныя і фантастычныя апавяданні.

Кожная з павучальных гісторый заканчваецца мараллю. Аўтар з самымі найлепшымі намерамі імкнецца да таго, каб страшылкі былі не толькі псіхалагічным трэнінгам, але — у першую чаргу — працавалі на выхаванне маральных якасцей («прывязвае мараль»). Для прыкладу: «Ніколі не дражніце хатніх жывёлаў, дзеці!», «Ніколі не бойцеся хадзіць у лякарню!» і г. д. Калі зусім шчыра, выглядае гэта крыху надакучліва.

У «Павучальных гісторыях…» многа гумару. Па добраму хочацца ўсміхнуцца, чытаючы, як бацькі не пазналі сваіх мурзатых дзяцей і адправілі іх бандэролямі ў Афрыку. Хоць, можа, было б спакайней, калі б дзеці «перафарбаваліся», ловячы рыбу ў лужыне, а не раскладваючы пад ложкам вогнішча.

Як на мой погляд, аўтару якраз больш за ўсё і ўдаліся гісторыі без агню (у прамым сэнсе), з добрым гумарам («Сапсаваны ліфт», «Тыдзень», «Дзяўчынка ў сейфе»).

Кніга выйшла, яе купляюць. Прагледзеўшы нязвыклыя для яго малюнкі (а іх жа можна яшчэ і расфарбаваць), які маленькі чытач або слухач не ўпросіць маму набыць кнігу?!

Кнігу чытаюць. Чым меншыя дзеці, па маіх назіраннях, тым больш уважліва слухаюць і нават просяць перачытаць. Каб жа прыемнае заўсёды было яшчэ і карысным!.. Зрабіць яго такім — цяжкі клопат і дзіцячых пісьменнікаў, і настаўнікаў…

А на ўрок да сваіх трэцякласнікаў «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука» захаплю абавязкова. Разам і пачытаем. Не ўсё, вядома.

*Мікола СЯНКЕВІЧ*

## Ігар Сідарук

Нарадзіўся 23 ліпеня 1964 года ў горадзе Кобрыне Брэсцкай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт БДУ. Паэт, празаік, драматург, фатограф. Аўтар кніг «Чарнабел», «Моўкнасць», «Павучальныя гісторыі дзядзечкі Сіда Рука», «Квадратная варона», «Непазбежны лістапад» і інш. Жыве ў Кобрыне.

### Ліфт

У гэты ліфт заўсёды набівалася процьма народу. Але сёння тут была ўсяго адна жанчына. І чамусьці стаяла да мяне спінай. Што зусім не перашкодзіла ацаніць яе, што называецца, па заслугах.

Акуратны, крыху мускулісты зад. Доўгія, пругкія ногі. Цёмныя, ледзь падвітыя валасы. Роўная напятая спіна. Прыгожая шыя, не кароткая і не доўгая — проста ідэальная, на мой густ. А вось спаднічка даволі-такі кароткая… І — мая вечная мужчынская слабасць! — чорныя панчошкі. Яны цесна абхопліваюць ногі, выныраючы з-пад спаднічкі літаральна некалькімі міліметрамі.

І як жа яна падобная на рэдактарку часопіса, у якім я працаваў адказным сакратаром год дванаццаць таму!.. Чакай, як яе звалі? Наталля Міронаўна, здаецца. Узяць мяне на працу ў часопіс настойліва параіў мой сябар Сяржук Бардыка. Як аказалася, яшчэ й сваяк Наталлі Міронаўны. І — з першага дня мы пачалі сімпатызаваць адно аднаму. (Не з Бардыкам, вядома, а з рэдактаркай). Але, але… О, гэтыя «але», якія заваблiваюць нас у няспраўджанае, нерэалізаванае. У тыя шанцы, што калісьці раскрываліся перад намі!..

…Перада мною ўжо не спіна хвалюючай незнаёміцы, а будынак у ціхім, зарослым ясенямі завулку. Рыпучая лесвіца на другі паверх. Пахне старой паперай і крыху мышамі… І я, маладзенькі супрацоўнік, які бегам падымаецца па сходах, баючыся спазніцца. І…

Нашы кабінеты — насупраць, але ты ніколі не заходзіш да мяне. Не пытаеш пра якую драбязу, выпадкова кранаючыся маёй рукі кончыкамі прахалодных пальцаў, не кідаеш на мяне мімалётны і такі шматабяцальны пагляд…

Не застаешся на хвілінку ў фатэлі насупраць, ненаўмысна-прадумана закінуўшы нага на нагу так, каб я мог міжволі заўважыць эратычны ўзор гумкі тваіх панчошак. І не ўсміхаешся задаволена, заўважыўшы мой погляд, і тое, як зглытваю камяк, які невядома адкуль бярэцца ў горле. Не падыходзіш бліжэй, не трэплеш мае валасы і не кідаеш красамоўны позірк на ключ, які тырчыць у замку…

Не, гэта я часцей бываю ў тваім кабінеце. Па выкліку і ўласных патрэбах. І тады, абмяркоўваючы рознае рэдакцыйнае, мы ўсміхаемся, перакідваемся прыемнымі, банальнымі выразамі, дзяжурнымі кампліментамі. Ніхто не шукае

нейкіх схаваных намёкаў у вачах, ніхто не збіраецца пераступаць мяжу дазволенага… (Божа, ці так мне толькі здавалася?!)

І — разыходзімся. Вяртаемся да сваіх рабочых спраў, паперак і тэлефонаў. Хоць раз-пораз я лаўлю сябе на думцы, што мару пра цябе і шкадую, што ты ніколі не дазваляеш сабе крыху большага…

На хвіліну адарваўшыся ад маніtoраў, мы, кожны на сваім месцы, распалена глядзім у вокны і міжволі сціскаем калені. Чакаючы, хто ўсё-такі першым зазірне ў кабінет. Каб вырашыць ужо зусім не рабочае пытанне…

І тут жанчына павярнулася.

— Вам на якім выходзіць?

А я — на імгненне зажмурваюся. Бо не даю веры сваім вачам.

— Наталля Міронаўна?.. Як… Вы?.. Тут.. Вой, прабачце, добры дзень!

— І табе добры дзень, Раман Віктаравіч. Хоць можам і без афіцыёзу. Даўно ж знаёмыя, — усміхаецца яна. — А мы цяпер тут працуем. Наша рэдакцыя. Тры гады як пераехалі. На трынаццатым паверсе месцімся. А во і мой.

Ліфт спыняецца. Яшчэ секунда, другая — і Наталля назаўсёды знікне ў гэтых бясконцых калідорах. Яна такая ж прыгожая. Не, яшчэ прыгажэйшая!

— А вы… ты… па-ранейшаму ў выдавецкай справе?

— Так, — дзверы ліфта едуць ушыркі. — Табе вышэй?

— Ну… Я…

Нечакана яна кладзе руку на маю, лёгка сціскае:

— Калі не спяшаешся, запрашаю ў нашы новыя апартаменты. Пакажу рэдакцыю, мой новы кабінет… Добрай бразільскай кавай пачастую. Пайшлі!

І, не даючы мне ані мігу на роздумы, весела ды рашуча цягне за сабой.

Ліфтавыя дзверы з ціхім рыпам зачыняюцца за нашымі спінамі.

Рэдакцыя займае некалькі стандартных памяшканняў, злучаных у адно вялікае-доўгае. Сталы, камп'ютары, шырокія вокны ды вузкія праходы. Нічога асаблівага. Хіба выразнай жывапіснай плямай карціна моднага мастака Х. — на супрацьлеглай ад увахода сцяне. Старэнькая рэдакцыя ў далёкім ціхмяным завулку ўсё ж была нашмат утульнейшая — міжволі падумаў я.

— Вось і мой кабінет, заходзь, — Наталля расчыняе перада мной дзверы ў пакой глыбей па калідоры. Я заходжу. І чую, як за мной ледзь чутна шчоўкае замок…

— Шыкоўна! — толькі й магу вымавіць я, аглядваючы прасторны кабінет. Усё тут з густам, усё да месца.

— Сядай, не стой. Канапа шырокая… для гасцей, — шматзначна вымаўляе яна, усміхаючыся. А можа, мне толькі так падаецца.

Я саджуся на канапу. А дакладней, патанаю ў ёй. Адразу ўключаецца ціхая, прыемная музыка. Кававарка напаўняе пакой дзіўным кававым водарам. Наталля, скончыўшы з ёй чараваць, працягвае мне філіжанку, садзіцца побач.

— Каб кава выйшла сапраўднай кавай, люблю гатаваць яе сама, сакратарцы не давяраю. Хіба калі трэба хутка і не самым лепшым гасцям.

— Выходзіць, я патрапляю ў катэгорыю гасцей лепшых? — я разварочваюся да Наталлі. О, як жа блізка яна да мяне, як блізка!

— Найлепшых! — пранізлівы пагляд проста ў вочы, вытанчаныя каленкі, напаўадкрытыя вусны…

— Гонар! Мо мне цяпер яе й не піць, а з сабой забраць?

— Як хочаш, — у вачах Наталлі мільгаюць агеньчыкі-чартаўшчынкі. — Віктар, магу спытацца?..

— Пра што заўгодна. Любое пытанне.

— Тады, яшчэ ў старой рэдакцыі… Ты сапраўды моцна запаў на мяне ці гэта было так, мімалётнае захапленне?

Бадай, нечага падобнага я чакаў. І ўсё ж пытанне Наталі гучыць крыху знянацку.

— Я… — мне нічога не застаецца, як зрабіць вялікі глыток гарачай кавы.

Яна працягвае руку, ставіць філіжанку на шкляны столік побач.

— Адказвай! — усё тая ж гарэзнасць у голасе; плячук, выпінаючы спакушальным краем з белай шырокай блузкі, ужо кранаецца майго.

— Наталля Міро… Мілая Наталі! Ты ж усё бачыла! Навошта ўспамінаць! Успамінаць тое, што магло б і…

— І што магло б? Што? — яна зноў усміхаецца, толькі гэтым разам іначай… яна кладзе свае тонкія пальчыкі мне на загрывак і лашчыць яго, перабірае валасы, праводзіць пазгонцем па шыі, падбіраецца да верхняга гузіка кашулі, нетаропка расшпільваючы…

Нетаропка? Нетаропка хіба разыходзіцца пара па шкляной паверхні стала, на якім стаіць маленькая парцалянавая філіжанка. Мы зрываем адзенне адно з аднога, як ірве бязлітасны агонь сухія кветкі на сонцы, скідваем абутак, як адбіваюць гарачыя вуглі безабаронныя рукі, пазбаўляемся бялізны, як пазбаўляецца жаўнер смертазабойчай міны ў акопе, адкідваючы яе прэч!..

І мне аніякай справы, ці бачыла падобнае гэтая шырокая канапа калі-небудзь яшчэ. Ці шмат у той, хто цяпер пада мной, усё ў тых жа карункавых чорных панчошках, кранууцца якіх я так адчайна марыў у свой час, такіх жа «найлепшых гасцей». І ці ўвойдзе зараз хоць хто-небудзь сюды і пабачыць, як здзяйсняецца ў рэшце рэшт няспраўджанае, недасягальнае, назаўжды забароненае маім няўрымслівым уяўленнем!..

— Наталля, ты тут? — пачуўся раптам за дзвярыма мужчынскі голас. — Што там у цябе адбываецца?

О, так! Што адбывалася ў кабінеце — маглі пачуць многія. Як ні імкнуліся мы прыцішыць стогны, рухі, страсныя ўздыхі… — думаю, яны дасягалі нават самых далёкіх куткоў калідора. Не дамагала нават ізаляцыя шыкоўнага рэдактарскага памяшкання. А калі нават дапамагала, дык існую падаплёку нашай «сяброўскай сустрэчы» магло расчуць чуйнае вуха, калі яго наблізіць да абшыўкі надзейных, як скала, дзвярэй.

— Мой муж! — падхопліваецца з канапы Наталля. Зграбае вопхапак адзенне, тарапліва апранаецца. — Давай, хутка! — паказвае паглядам на маё.

— І што цяпер? — гэтак жа таропка апранюся і я.

— Што цяпер, што цяпер… Бяда цяпер! — не знаходзіць слоў Наталля, блытаючыся ў бялізне, гузічках, рукавах.

— Давай, адчыняй! Што марудзіш? — між тым голас за дзвярыма не абяцае нічога добрага. — Ты там не адна? Я ж чую!

— Чакай, Сярожанька, я зараз! — нарэшце азываецца Наталі да мужа. Ды, так-сяк папраўляючы адзенне, памыкаецца да дзвярэй.

І адразу ў пакой урываецца Сярожанька. Такі добры дзяцюк метры два росту. З кулачыдламі, што твае гіры. Акінуўшы змрочным паглядам кабінет, ён усё разумее…

— Так, не адна. Госць у мяне. Былы супрацоўнік… — толькі й паспявае прамовіць Наталі.

— Бачу, які ў цябе госць! Што, кавай цябе пачаставала? — гэта ён ужо да мяне. — Уласнага прыгатавання? І як, гарачая? Смачная? Яшчэ хочаш? Яшчэ?!.

Сярожанька не марудзіць. З кожным «яшчэ» ягоныя сталёвыя кулакі наносяць удары такой сакрушальнай сілы, што мяне кідае па пакоі, нібы дзіцячы мячык. Гарачая крывавая юшка бяжыць па твары. Пыркі ляцяць на сцены, падлогу, на канапу, якая толькі што зазнала зусім іншую гарачыню.

— Сярожа! Перастань! Спыніся! — я паспяваю яшчэ прачытаць сапраўднае жахоцце ў вачах Наталлі, як зноў трэскаюся галавой аб сценку.

— Я перастану! Я спынюся! Калі й яго, і цябе пазабіваю на фіг!

Ух ты ж!.. Балюча! А-а! Як так можна бязлітасна біць?!

Штосьці мне падказвае, што раз'юшаны Наталлін муж і не збіраецца спыняцца. Пакуль насамрэч не дасягне свайго. А значыць, трэба неяк выбірацца з гэтай калатнечы.

Мая стратэгія простая, як паверхня шклянога століка, які толькі што разляцеўся ў друз ад чарговага майго падзення. З кожным ударам — як мага бліжэй адлятаць да дзвярэй. А там — як мага хутчэй па калідоры (ох, спадзяюся, такі знайду сілы на апошні выратавальны рывок!..) і дабегчы-ўскочыць у ліфт. А далей… А далей ужо як будзе.

— А!.. Хо!.. Гр-хр-хе! — толькі хрыплю-хекаю я, знаходзячы такія-сякія высілкі, каб не зляцець канчальна ў «космас». Ад малатнечы Сярожанькі. Ад ягонай крывавай расправы. З пракляццямі ды мацюганамі.

— Гр-хр-хе-кхе! — густы барвовы камяк з горла ляціць некуды ў столь.

Але! Мая стратэгія працуе. Вось яшчэ адзін удар. Яшчэ адзін выспятак!.. Дзверы! А родненькія ж вы мае!..

— Стой, казёл! Даганаю ж усё роўна! Заб'ю!

Здаецца, я чую за спінай гулкі тупат раз'юшанага Сяргея. Здаецца, Наталі па-ранейшаму крычыць яму нешта ўслед. Няважна!.. Пракляты калідор! Што ты аніяк не заканчваешся! Я падслізгваюся, падаю, але хутка падымаюся і — о, шчасце! — у гэты міг перада мною расчыняюцца ліфтавыя дзверы. Дзіўна, ліфт пусты, абсалютна. Але разважаць пра гэтыя спрыяльна-шчаслівыя абставіны няма часу. Я ныраю ў ліфт, націскаю на лічбу свайго паверха.

Ліфт апускаецца, а я ўсё аніяк не магу аддыхацца.

Калі ліфт спыняецца, я гляджу ў люстэрка, што месціцца на бакавіне кабіны. І не даю веры вачам. Акуратная, чыстая кашуля. Свежы бадзёры твар. Без аніводнага крывападцёка. Жывыя, усмешлівыя вочы. У якіх адбіваецца святло ліфтавых лямпачак. І яшчэ штосьці мігатлівае ды зменлівае — але я аніяк не магу даўмецца, што канкрэтна…

«Блін, што гэта было?! — свідруе мозг дурная думка. — І ці было ўвогуле? Мо пакуль ехаў у гэтым дзіўнотным ліфце, на нейкі час страціў прытомнасць? І ўсё гэта — толькі гарачачнае маё ўяўленне?!.»

Я выходжу з ліфта. Ды, утаропіўшыся ў прастору, пасоўваюся да выхаду. Каб глынуць свежага паветра. Хоць бы адзін глыток. Які мне цяпер патрэбны болей за ўсё астатняе.

…Але ж давядзецца вярнуцца. Бо тая справа, дзеля якой я прыехаў сюды, пакуль так і не вырашаная. Толькі не сёння, не сёння. На сёння, бадай, мне справаў хапіла. З лішкам.

…І вось, праз тыдзень, я зноў перад гэтым высачэзным гмахам са шкла і бетону. Зноў шырокія сходы, розныя шыльды, круцёлка на ўваходзе. І — ліфт. Той самы. Толькі гэтым разам мне трэба зусім іншы паверх. Шаснаццаты. Там, дзе месціцца рыэлтарская фірма «Альтэрнатыва». Яны даўно падшукалі мне новае жытло, і агент абяцаў яго паказаць.

Я націскаю кнопку з лічбай «16». Дзверы расчыняюцца і… Я з палёгкай выдыхаю. Бо ў кабіне — няма нікога.

Што ж, паехалі. Цікава, што мне тыя рыэлтары падшукалі? Эх, якой бы ні была іхняя прапанова — яна аніяк не закіне мяне ў цудоўны гарадок Р. у маленькай еўрапейскай краіне.

А было ж, было! Збіраўся, вывучаў, маляваў планы. Што знайду ўтульную кватэрку на ўскрайку, буду пісаць, а ў вольны час — да стомы гуляць старажытнымі вузкімі вулкамі. Мо і ажанюся там… з шыкоўнай іншаземнай жыхарачкай. І будзе ў нас надзейная еўрапейская сям'я, навюткае аўто, надзейны рахунак у банку. Але галоўнае — у мяне будзе сам гарадок Р.! З ягонай пакручастай, легендарнай гісторыяй, адметнымі людзьмі, непаўторнымі краявідамі. Гарадок маёй мары, гарадок маіх летуценняў!..

Не пераехаў. Скамячыў планы. Так і застаўся ў гэтым насупленым, раўнадушым, сырым і шэра-бетонным М.

Ліфт спыняецца. «Шаснаццаты паверх», — абвяшчае прыемным жаночым голасам дынамік. «То й дзякаваць!» — адказваю ўслых, пакідаючы ў ліфце ўспаміны, што накацілі так нечакана.

— Добры дзень, Раман Віктаравіч! — падымаецца з-за стала маладзенькая супрацоўніца «Альтэрнатывы». — А мы вас яшчэ на тым тыдні чакалі!

— Прабачце, вымушаныя абставіны. …Крысціна, — прачытваю імя дзяўчыны на фірмовым бэйджыку.

— Так, Крысціна. Ваш непасрэдны агент.

Яна працягвае мне акуратную далоньку з бездакорным манікюрам. Лёгка паціскаю яе:

— Спадзяюся, за гэты час нічога не змянілася?

— Што вы, што вы! Усё ў парадку. Кватэрка чакае, усё на месцы, — усміхаецца мой непасрэдны агент Крысціна напрацаванай усмешкай. — Тут блізка. Толькі завулак перайсці. Спачатку кавы-гарбаты ці адразу пойдзем глядзець?

— Адразу, — я міжволі ўспамінаю, чым скончылася частаванне кавай мінулым разам у гэтым будынку. І хоць сітуацыя іншая — бадай, прысмак можа быць зусім не такім, як хацелася б…

Крысціна накідвае кароткую куртачку. Папраўляе перад люстэркам і без таго акуратную фрызуру.

— Тады хадземце! Не, не сюды! — спыняе яна мяне, калі бачыць, як я накіроўваюся да ліфтавай пляцоўкі. — У іншы бок. Там грузавы. Але нам зручней і бліжэй будзе.

…Мы выходзім на вуліцу. Як тут ціха! Нібы й не ў мегаполісе з ягонымі тлумам, гукамі, мітуснёй. Цікава, чаму я ніколі не зазіраў сюды?

— Мы прыйшлі! — радасна абвяшчае Крысціна, калі мы пераходзім кароткі завулак. — Вось і ваш дом!

— Мой?..

— Ваш, ваш! — усміхаецца яна. — Праўда, на дзве кватэры. Але суседзі ціхія. І вечна ў камандзіроўках.

— У якіх камандзіроўках? — чамусьці машынальна пытаюся.

— У замежных, — неяк неакрэслена ўзмахвае далонькай Крысціна. — Заходзьце ж! Спадзяюся, вам тут спадабаецца.

Мы ўваходзім у левую палову дома. Я аглядаюся.

А што, даволі ніштаватая кватэрка. Светлыя, зграбненькія пакойчыкі. Няхай і невялікія, затое з шырокімі вокнамі. І ўся неабходная мэбля ёсць.

— А можна, я нейкі час тут пабуду? — пытаюся ў Крысціны. — Пасяджу, атмасферу адчую…

— Вядома, можна! — Крысціна кладзе на маленькую палічку ля ўвахода ключы. — Потым толькі замкніце тут. І вяртайцеся, калі ласка, да нас у офіс. Калі ўсё задаволіць, будзем тады афармляць, так?

— Так, — я не хачу разбураць ейных спадзяванняў. Дый мне і праўда тут падабаецца.

Нейкую хвілю я сяджу на маленькай канапе. А што, хоць маленькая, затое зручная. Калі раскласці, можна і добра выспацца. Але гэты пакой не для пісання. Канапа міжволі будзе прыцягваць. Я заходжу ў іншы пакой. Ён хоць і меншы, затое ёсць стол. Прычым дубовы, можа, нават антыкварны. А што яшчэ трэба для літаратара?.. Пішы, сачыняй, ствараай вобразы! Выдатна.

Я падыходжу да акна. І… не даю веры вачам. Цераз дарогу — шэраг крамак, кавярняў, разнастайных вітрынаў. І кожная з іх — вылучаецца шыльдай/надпісам на замежнай мове. Мне хапае імгнення, каб зразумець, на мове якой краіны. Так, той самай, куды я марыў калісьці з’ехаць. Вось па ходніку ідзе кампанія маладзёнаў, нешта горача абмяркоўваюць. Я хутка расчыняю фортку, каб пачуць галасы. Няма сумненняў: гэта …ская мова! І гэта ж не сон, усё адбываецца наяве.

Я кідаюся ў вітальню, на хаду апранаюся.

Вуліцу запаланяе ўсё болей людзей. Яны вітаюць адзін аднаго, раз-пораз ускідваюць у паветра кулакі, нешта выкрыкваюць. Мае пазнанні ў …скай мове так і засталіся на сціплым узроўні, аднак ўсё ж разумею, што ў тых выкрыках узгадваецца воля, краіна, народ. Ого! Ці не шэсце якое тут будзе? Сапраўды, купкі людзей шырэюць. Яны шыхтуюцца, над галовамі з'яўляюцца расцяжкі, сцягі…

Ужо і я сам крочу ў шчыльным шэрагу вялікай калоны. Бачу, што з бакавых вуліц падцягваюцца такія ж шматлюдныя людскія ручаі. Настрой ва ўсіх узнёслы, бадзёры. Дзьме рэзкі вецер, неба расквечваецца палотнішчамі.

Вось наперадзе і шырокі пляц. Відаць, там будзе мітынг. Раптам першыя шэрагі спыняюцца. Рэзкія, гарлавыя крыкі ляцяць у паветра. Што там наперадзе, не дужа разабраць…

Затое чуваць — добра, аж занадта. І гэты гук — рокат магутных рухавікоў, ляскат цяжкіх гусеніцаў па асфальце, іх скрыгат на развbabротах. Танкі!

А яшчэ — зацятая лаянка ў «мацюгальнікі», якая на любой мове гучыць аднолькава.

Між тым рокат усё бліжэй; здаецца, што яшчэ міг — і ты сам апынешся пад гэтым металічным смяротным скрыгатам.

— Што стаіш, бяжы! — крычыць нехта побач ды цягне мяне за рукаў.

Толькі позна. Я не паспяваю нават павярнуцца.

Край танкавай брані чапляе мяне, я губляю раўнавагу, падаю. Як няўдала, як недарэчна! Сто тысяч тон (так мне тады здавалася) махіны расціскаюць правую руку ў друз. Нават косткі ператвараюцца ў дробнае, нікчэмнае крышыва. Якім цудам я не правальваюся ў болевы шок — не ведаю. Але крычу так, што нічога й нікога болей не чую вакол сябе.

Трэба адсюль выбірацца. Неяк выбірацца. Адпаўзці ад натоўпу, ад танкаў, ад пляцу. Во, ужо добра. Як можа быць «добра» ў маім становішчы. Рукі ў мяне болей не будзе, ясна. Але гэта потым… Галоўнае цяпер — як мага далей… адсюль. Вось, нейкі дом… Пад'езд. Абы не было кодавага замка, дамафона… Блін, ёсць! Я ў адчаі левай рукой тузаю ручку дзвярэй і — о, цуд! Дамафон зламаны! Хутчэй у пад'езд, неяк пераадолець стандартных дзевяць сходаў, ліфт…

Адчуваю, што ўжо не дайду. Што бразнуся проста тут на брудную пляцоўку, з якой мне ніколі не падняцца… Яшчэ крок, яшчэ… Ну, Ромка, давай! У вачах цярусіць шэры калючы снег, цела нясцерпна джаляць раз'юшаныя, вялізныя пчолы… Я з'язджаю па сцяне.

І ўсё-такі, здаецца, я паспеў. Націснуць. На «выклік». Бо ліфтавыя дзверы перада мной, ужо ляжачым, расчыняюцца. З апошніх сілаў, пакідаючы густы крывавы след, я запаўзаю ў ліфт.

І… і нібы правальваюся зусім у іншае вымярэнне. Нібы хтосьці нябачны зараджае ў кінапраектар зусім іншую стужку. Мая правая рука — на месцы. Цэлая. Ні на адзенні, ні побач — ані кроплі крыві. І з бакавога люстэрка — глядзіць на мяне хоць і добра ашаломханы, але дагледжаны і чысценькі твар. З люстэрка, якое я адразу пазнаю.

Гэта быў той самы ліфт. З якога пачынаўся мой аповед.

…Наступным днём, ужо ў сябе дома (да рыэлтарскай канторы «Альтэрнатыва» з яе «ўтульнымі» прапановамі я болей не падыду ні на кіламетр) я раскрываю ноўт. Ды набіраю назву новага аповеда — «Ліфт».

Калі я даходжу да гэтага месца, мяне раптам ахінае пранізлівая відавочная здагадка. Якая ляжыць на паверхні. І якую не заўважыць немагчыма.

Але тое трэба яшчэ праверыць. Каб пераканацца. Канчаткова і назаўсёды.

Я пачынаю адшукваць у памяці які-небудзь яскравы эпізод са свайго жыцця. Які мог бы, мог бы, але!.. А было ж усяго. І ў маладосці, і пазней, калі скроні мае ўжо праснежыла. Дарэчы, што там у маладосці? На мяжы, скажам, трыццаткі. Да адурэння не люблю гэты зашмальцаваны выраз, але тое былі «ліхія 90-я». Праўда, іхнюю «ліхасць» не сказаць каб паспытаў аж занадта, але іншым разам кранала. Скажам, калі ледзь не ўсе кінуліся купляць і перапрадаваць неіснуючыя МАЗы, саставы з бензінам, партыі «сціралак» ды пыласмокаў, сухагрузы з вугалем, алюміній, памперсы, распушчальную каву etc. за такія ж неіснуючыя грошы. Каюся, нешта такое спрабаваў правярнуць і я. Не атрымалася ані разу.

І тады на мяне выйшаў нейкі Валодзя. Ну як выйшаў — сядзелі з сябрукамі ў кавярні, гаманілі аб розным. Пра тыя ж памперсы ды сухагрузы — таксама. І тут да нас падселі двое: адзін знаёмы, другога я бачыў упершыню. Галавасты, мажны, не вельмі ахайна паголены. Пачуўшы нашу размову, адразу ўлез:

— Хлопцы, кіньце вашы памперсы, ёсць іншая тэма! — загаварыў рыпучым голасам, нахабным і катэгарычным. — Можна купіць некалькі кілаграмаў паладыю. І добра наварыць. Ведаю тых, хто можа прадаць і хто можа купіць. Але тут трэба грошы. Вялікія.

— Ну і якія? — запытаў нехта з нас.

— Семдзесят тысяч даляраў, — безапеляцыйна заявіў Валодзя (яго ўжо прадставіў агульны знаёмы, што прыйшоў з ім).

— Ого! Адкуль узяцца такім?

— І праўда. Тут і дзвюх сотняў, бывае, няма.

— Прадавай сам свой паладый! — загаманілі хлопцы з крывымі ўсмешкамі.

А я… змаўчаў. Можа, таму, што міжволі паддаўся ўплыву гэтага чалавека. А можа, прага вялікіх грошай напружыла мозг, які пачаў перабіраць варыянты…

— Дык што? Мо ўсё ж хто ўпішацца? У мяне пад трыццаць знойдзецца. Яшчэ прыблізна столькі ж трэба, — сярод усіх субяседнікаў ён абраў чамусьці мяне. Цікава. Ён што, адчуваў, пра што я думаю? Ці валодаў здольнасцю імгненна вылічваць людзей? — Хлопцы, усё проста! Калі сваіх грошай няма, то можна пазычыць. А мы, як толькі справу правернем, адразу й разлічымся. Тавар надзейны, пакупнік таксама!

— Я магу тут запытацца ў аднаго чалавека, — я не вытрымаў, паддаўся. — Але невядома, ці пазычыць. Дый грошы такія!.. А як не атрымаецца? Я за ўсё жыццё такую пазыку не аддам.

— Ды ну, што ты! Усё атрымаецца! — напіраў гэты Валодзя. — Канкрэтная здзелка! Гарантыя!

— Твая гарантыя? А як што, ты і аддаваць будзеш? — ужо крыва пасміхнуўся я.

— Аддам, аддам! Атрымаю разлік і адразу аддам! — у ягоных словах гучала ўсё тая ж нахабная ўпэўненасць.

— Ладна, як перагавару — паведамлю, як і што.

Праз дзень ці два з «адным чалавекам» я сустрэўся. І грошы ён мне не пазычыў. Сказаў, што такой «дурной сумы» ў яго няма і блізка. Я папрасіў менш… Не даў таксама. Валодзя ж яшчэ некалькі разоў мне тэлефанаваў. Настойваў, напіраў, ледзь не пагражаў. Маўляў, пашукай яшчэ, пазыч у іншых, укладзі, колькі ёсць, свае. Ад апошняга мяне ўтрымала жонка (тады яшчэ быў жанаты…), празнаўшы пра «паладыевую» аферу. Ледзь не выгнала з хаты. Так і сказала: «Або я, або гэты цямніла і падманшчык Валодзя!».

Болей я на тэлефаванні «цямнілы і падманшчыка» не адказваў.

Так, стоп. Не тут гэта ўсё трэба. А ў ліфце. Дый самому цікава. Спадзаюся, болей такіх жахотаў, як мінулым разам, ужо не будзе. Хоць хто яго ведае!..

Вось зноў і ён — высачэзны гмах са шкла і бетону. Зноў шырокія сходы, розныя шыльды, круцёлка на ўваходзе. І — ліфт. Націскаю на выклік. Адчуваю, як расплаўляецца сэрца. Дзверы расчыняюцца, я ўваходжу ў кабіну.

Сёння я тут не адзін. У ліфце двое мужчынаў. Падцягнутыя, суворыя. Акуратныя аднолькавыя касцюмы. Да бляску наваксаваныя туфлі. Таксама аднолькавыя. І твары нечым падобныя.

Можа, я разгледзеў бы ў мужчынах і тое, што іх адрознівае, толькі ў наступны міг яны чэпка бяруць мяне пад рукі.

— Калі ласка, ціха. Не парушайце агульнага спакою, Раман Віктаравіч. І не рабіце лішніх рухаў.

— І не збіраюся, — гэтак жа ціха адказваю. Ну во, пачынаецца. Такі й праўда: ліфт гэты — не проста тэхнічная прылада для апускання і падымання людзей на розныя паверхі. — Вы хто?

— Мы — тыя, хто мусілі зацікавіцца вашым новым аповедам!

— Якім… аповедам?

— Не ўключайце дурня, шаноўны. Тым, які вы нядаўна пачалі пісаць. Самым апошнім!

— І што ў ім… такога?

Невядомыя памаўчалі. Потым той, што з левага ад мяне боку, прадоўжыў:

— У вашым аповедзе «Ліфт» могуць утрымлівацца звесткі, якія парушаюць асновы дзяржаўнай пабудовы і грамадскіх стасункаў!

А той, што справа, дадаў:

— Таму мы зараз даедзем да сямнаццатага паверха…

— Тут няма сямнаццатага паверха! — міжволі вырываецца ў мяне.

— Не перабівайце, Раман Віктаравіч! Ёсць. Ужо ёсць. …Выйдзем з ліфта і завітаем у кабінет нумар трыста трынаццаць.

— Навошта? — усё гэта мне вельмі не падабаецца. Унутры забарухаліся самыя нядобрыя прадчуванні.

— Пагутарыць. Папярэдзіць. Абмеркаваць ваш новы аповед.

Ліфт зрушыўся. Рукі незнаёмцаў у аднолькавых касцюмах па-ранейшаму чэпка трымаюць мяне пад пахі. Мой рот запаланяе нядобрая горыч…

Бо калі з кабінета нумар трыста трынаццаць мне сёння наканавана выйсці — дык толькі ў адным напрамку…

І тут мне ў голаў прыходзіць нечаканая думка.

Ліфт! Калі ён стаў прычынай усіх гэтых мітрэнгаў, дык у ім усё павінна й…

Я міжволі ўсміхаюся. Незнаёмцы ў цывільным гэтага не заўважаюць. А калі ліфт спыняецца на сямнаццатым паверсе (няўжо ён і праўда існуе?!), я, стараючыся не выдаць хвалявання, прашу:

— А можна спусціцца на некалькі паверхаў уніз, а потым зноў узняцца?

— Навошта? — ужо дзівіцца той, што справа.

— Ну… дазвольце мне апошняе жаданне. Перад гутаркай.

— Не! — рашуча адказвае праваручны. — Нічога такога!..

— Калі ласка. Усяго некалькі лішніх секундаў, — я вырашаю не здавацца. — А потым я адкажу на ўсе вашы пытанні. Нават болей.

Аднолькавыя крыху памаўчалі. Нарэшце леваручны хітае галавой:

— Ладна. Няхай праедзе. Усё роўна нікуды адсюль…

О, так! Нікуды адсюль ужо не падзенуся! Як вы, рабяткі!

— Які паверх націснуць?

— Можна дванаццаты?

— Дванаццаты занадта! Чатырнаццаты! — і леваручны цісне чырвоную кнопку.

Ліфт ціха загудзеў, пачаў апускацца. А я… Я імгненна пераношуся ў далёкае сваё дзяцінства. У маленькі ўтульны дворык з пясочніцай і лавачкай побач. Са старэнькім цацачным самазвалам, якім мы з малодшым братам Сярожкам пералапачвалі той пясок да адуры. Што зробіш, беднаватыя бацькі не маглі песціць нас новымі цацкамі. (Ліфт спыняецца; чатырнаццаты паверх. Ох, як жа мала часу!..) А ў той дзень у двары надарылася праўдзівае дзіва. Ужо сапраўдная машына заехала ў двор, і некалькі дарослых мужчынаў пачалі згружаць нейкае драўлянае збудаванне. Убачыўшы з акна ўсю гэтую дзею, мы з Сярожкам выскачылі на вуліцу. (Леваручны яшчэ раз націскае на пімпачку. Ліфт едзе ўверх. Ну што ж, самы час!..) Ракета! У нашым двары будзе ракета! З ілюмінатарам, сходамі, горкай, каб коўзацца ўніз! О, гэта вам не старэнькі самазвал з вечна адлятаючым колам! (Ліфт тузаецца ды рушыць хутчэй. Аднолькавыя, пакуль яшчэ нічога не разумеючы, пераглядваюцца ды мацней сціскаюць мае рукі.) Мы стаім з Сержыкам у двары і чамусьці адначасна рагочам. Гэта быў адзін з самых шчаслівых момантаў незабыўнай дзіцячай пары, паверце! І тут той далёкі маленькі Раманчык падумаў: а што калі гэтая драўляная свежапафарбаваная ракета тут — зусім не для коўзання?! Што, калі?!.. (Ліфт ужо не

паўзе, не едзе — ён літаральна ляціць! Аднолькавыя нешта гарлаюць, але я іх не чую. Паколькі ўвесь там — у сваім маленькім утульным дворыку.) …У яе забрацца, закрыць надзейна ўваход, прыпасці да ілюмінатара, павярнуць ключ, зрушыць касаргі, націснуць пімпачку і!.. (Ліфт набірае шалёную хуткасць. Аднолькавыя адпускаюць мяне, заціскаюць вушы. Адзін з іх малоціць па ўсіх кнопках запар, толькі дзе там!..)

О, так! Ужо даўно сямнаццаты паверх пад намі. Як недзе там, унізе, — і сам высачэзны гмах са шкла і бетону, і купкі зялёных дрэў, і шнурочкі праспектаў ды вуліц, і маленечкія, бы мурашы, людзі. Вось ужо іх зусім не відаць.

А я — я рагачу! Нібы ў той дзень, калі рагаталі з брацікам ля ракеты. Я падскокваю ад задавальнення, я кручу з пальцаў самыя розныя знакі ды фігі, ляпаю сябе па азадку. (У задняй кішэні — нататнік, не забыць потым усё гэта занатаваць!..)

Аднолькавыя, ссунуўшыся на падлогу ліфта, вырачылі на мяне звар'яцелыя вочы і амаль не дыхаюць.

Усё запаланяюць сонечныя промні, узвывы шчаслівага ветра, пярэстыя бела-празрыстыя аблокі. Мы ляцім, ляцім!

І чым гэта скончыцца, я пакуль не ведаю.

*Да 80-годдзя Марыі Якімук*

## Тропинки поэтической души
## Из заметок о новой книге прозы и стихов Марии Якимук

*(Якимук (Гарах), М. Тернистые тропы судьбы : проза и стихи / Мария Якимук. — Брест : Альтернатива, 2022. — 120 с.)*

«С чего начинается Родина?» Этот риторический вопрос из одноимённой популярной песни задаёт себе, пожалуй, каждый из нас, а ответ оказывается, по сути, схожим. «С картинки в родном букваре»… «С хороших и верных товарищей, живущих в соседнем дворе»… «С той песни, что пела нам мать»…

Для Марии Якимук, в девичестве Гарах, уроженки деревушки Липинки, расположенной на лесистых песчаных взгорках почти впритык к железнодорожной ветке Брест — Влодава, с одной стороны, а с другой — к пойме пограничного Западного Буга, родина начинается с той узенькой тропинки в ржаном поле, изображённой на обложке её новой книги…

Перед читателем предстают истории прибужских семей, переживших фашистскую оккупацию, вывезенных на принудительные работы в Германию, судьбы фронтовиков и партизан, защищавших Беларусь от фашистского нашествия. Здесь нет, как говорится, плакатных героев и эпохальных свершений, зато представлены бесхитростные истории, солдатские и людские судьбы, чьим мужеством и стойкостью, трудолюбием и жертвенностью складывались кирпичики Великой Победы, кто поднимал страну из руин, возрождал и возделывал землю, строил новую жизнь.

Среди персонажей статей, к примеру, защитник Брестского вокзала, милиционер, а затем партизан отряда имени Чернака, воин Красной армии, Михаил Емельянович Козловский, умерший от ран, полученных при освобождении Варшавы в январе 1945 года и похороненный в одной из польских деревень. А также его жена Анастасия Максимовна, поднявшая самостоятельно двух дочерей, которые до сих пор живут в родительской деревне Ковердяки.

А вот статья о подвиге пограничника ефрейтора Александра Завидова, геройски погибшего в 1945 году при прорыве банды нарушителей Государственной границы БССР. Ныне пограничная застава близ деревни Липинки носит имя Александра Завидова.

Далее вы прочтете очерк и узнаете о судьбе и достижениях прославленной доярки бывшего колхоза имени Жданова Брестского района Лидии Ивановне Осиюк, Герое Социалистического Труда, чьими натруженными руками закладывалась животноводческая слава Прибужья.

Далее… А впрочем, не стоит перечислять всех героев и персонажей рассказов, статей, эссе, поэтических сюжетов и миниатюр, включённых автором в новый сборник. На то она и книга, чтобы её перелистывать, читать, вдумываться в смыслы, переживать содержание и делать выводы.

Выбор героев повествований совсем не случаен. Мария Якимук предпочитает рассказывать о своих земляках, о тех людях, кто когда-то был и есть рядом, кого хорошо знает, понимает и помнит, кто родственен ей по месту жительства, родной земле, географии судьбы, мировоззрению и духу. Реперные точки творческих изысканий автора легко прослеживаются по географическим координатам её собственной биографии, трудовому пути, также представленных в новой книге.

Первое стихотворение. Первая книга. Нынче в творческом багаже — семь сборников поэзии и прозы, а также песен. Записан диск с песнями в её исполнении и в исполнении хора «Сузорье» Ковердякского СДК на стихи Марии Якимук…

Я не буду акцентировать внимание на цикле так называемых датских стихосложений, т. е. приуроченных к различным памятным датам и юбилеям, а также на частушках и куплетах, включённых автором в новую книгу. Рассуждать об их художественно-литературных особенностях непродуктивно. Не те цели и задачи.

Настоящей «изюминкой» сборника Марии Семёновны Якимук считаю подборку «Алфавит» на русском и белорусском языках. В детской литературе получил довольно широкое распространение так называемый стихотворный алфавит. Это когда на каждую букву алфавита пишется строфа, которая помогает в запоминании конкретной буквы. Используется такой алфавит в обучении детишек буквам и словам родного языка.

В нашем случае автор пошла по другому пути: на каждую букву алфавита, белорусского и русского, она создала стихотворное эссе, зарисовку, миниатюру. Это поэтические «образки», например, про **В**ёску, **Г**рыбы, **Д**ождь, **Р**ечку и т. д. Это яркие картинки о родине, о родной природе, о животных, о любви и верности, о добре и зле.

И всё это проникновенно и одновременно просто, всё это по-народному доходчиво, откровенно и образно. Литературно грамотно и поэтично.

*Александр ВОЛКОВИЧ*




## Марыя Якімук

Нарадзілася 2 студзеня 1944 года ў вёсцы Ліпінкі Брэсцкага раёна. Скончыла Брэсцкі педагагічны інстытут, працавала настаўніцай пачатковых класаў у Кавярдзяцкай школе-садзе больш за трыццаць гадоў. Друкавалася ў раённай і абласной перыёдыцы, у выданнях «Жырандоля», «Акно», «Гоман», калектыўных зборніках «Дазволь прычасціцца», «ЛітАўра» і іншых. Марыя Сямёнаўна мае сем зборнікаў паэзіі, прозы, песень, кожны з якіх уключае творы на рускай і беларускай мовах: «Весны чудесные напевы» (2001), «Реальности и мечты» (2003), «Рассыпая любви слова» (2007), «Аккорды светлого дня» (2011), «Так распорядилась судьба» (2012), «Струны сердца: песни» (2015), «Паветра маёй радзімы» (2019), «Тернистые тропы судьбы» (2022). Жыве ў вёсцы Кавярдзякі Брэсцкага раёна.

## Браты

*Апавяданне*

Перадваенная беларуская вёсачка жыла сваім жыццём. Сялянскія хаты зацерушыў пульхны снег, які ў гэтым годзе быў асабліва навальны. Вёсачка стаяла ў зацішку каля лесу, які як бы заснуў, ахутаны снегам. Сама вёсачка была невялічкая, двароў так на сорак. І называлася яна неяк весела: Гаваруха.

Гаварухінцы былі дружныя, вясёлыя. Любілі святы, а калі ў вёсцы было вяселле альбо хрысціны, то гуляла ўся вёска. Накрывалі сталы на падворку, неслі ўсё, хто што меў. Песні і музыка гучалі аж да ранку. Гулялі разам і старыя, і малыя. Вясковыя песні любілі ўсе і ўмелі іх спяваць. Працавалі хоць і цяжка, але дружна. Завіхаліся з ранку да вечара, але ніколі ніхто не скардзіўся на сваё жыццё. Дзеці дапамагалі бацькам па гаспадарцы, даглядалі жыўнасць, няньчылі малодшых брацікаў і сястрычак.

* * *

Сям'я Рыгора жыла дружна. Маладзенькая сінявокая жанчына клапацілася каля печы. Ёй дапамагалі сыны: старэйшаму было дзевяць, сярэдняму — сем, а малодшаму — шэсць.

Сваю будучую жонку Рыгор пакахаў адразу, як толькі ўбачыў. Галя была невысокага росту, з сінімі, як неба, вачыма і светла-русай касой. Лёс Галі спачатку склаўся неяк няўдачна. Выскачыла замуж, калі не было яшчэ нават сямнаццаці гадоў. Хлопец быў прыезджы. Высокі, прыгожы. Прыехаў на заробкі. Акруціў, як кажуць, маладзенькую дзяўчыну. Калі Галя нарадзіла, хлопец паехаў наведаць сваіх бацькоў, абяцаў вярнуцца, але не вярнуўся, хоць напісаў ліст, каб яна ехала да яго з дзіцём. Бацькі яе не пусцілі, сказалі, што калі кахае, то прыедзе, а калі не, то дапамогуць ёй выгадаваць сына.

Час ішоў, а хлопец не вяртаўся і болей не пісаў. Галя плакала, перажывала, чакала яго, а потым звыклася са сваім лёсам.

Прайшоў яшчэ адзін год, а ён так і не з’явіўся.

Аднойчы Галя пайшла да студні па ваду і амаль што не сутыкнулася з хлопцам. Той так і застыў перад ёю, не адрываючыся, глядзеў на яе.

— Прабачце, калі ласка, дазвольце дапамагчы вам, — сказаў хлопец, забраў вёдры і панёс іх.

Так яны дайшлі да Галінага дома. Пазнаёміліся. Хлопца звалі Рыгор.

Потым ён, як бы незнарок, то там, то там сустракаў яе. А калі хлопец пасватаўся да яе, то Галя згадзілася. Сына яе ён адразу прызнаў. А калі з’явіліся свае дзеці, то ніколі не казаў, што гэта не яго сын.

Ранкам запрагаў Рыгор каня, уся сям’я ўладкоўвалася на фурманку і ехала ў поле. Трэба было ўзараць зямлю. Старэйшы сын Фёдар паводзіў каня, часам бацька дазваляў яму араць, тлумачыў, як трэба трымаць плуг, каб роўненька араў зямельку, як павінен ісці конь, каб не было агрэхаў. Потым садзілі бульбу таксама пад плуг. Маці тлумачыла:

— Бульбіну лажыце на сярэдзіне скібы і праз крок, каб не загусціць яе.

Хлопчыкі старанна выконвалі маміны парады.

Вучыў Рыгор сыноў і сеяць:

— Набярыце жменю зерня, рассыпце з сілаю справа налева, а потым зрабіце два крокі і зноў рассыпце зярняты.

Але давяраў сеяць пакуль што толькі старэйшаму. Для селяніна вясна — гэта пара працы і будучы ўраджай. Калісьці дзяды казалі, што трэба не прапусціць той час, калі паспее зямля, тады і ўраджай будзе добры.

Калі зямля злепіцца ў грудку, а кінеш зверху ўніз, і яна рассыплецца ўся, тады зямля і паспела — сей.

З сынамі ён глядзеў на ўзаранае і засеянае поле з задавальненнем і радасцю.

Зямля цвіла, і здавалася, што нішто не парушыць гэты спакой і хараство. Вясна непрыкметна перайшла ў лета. Пачаўся сенакос. Калісьці Рыгор з бацькам хадзіў касіць. Уставалі вельмі рана, яшчэ і сонейка не было відаць. Бацька заўсёды гаварыў, што з расою лепей да травы прыстае каса.

Вучыў і ён сваіх хлопцаў касіць:

— Пятку касы прыціскайце да зямлі, а востры канец прыпаднімайце, а то ўтыркнецца ў зямлю і можа зламацца. З касою трэба абыходзіцца вельмі асцярожна, каб не параніцца, бо яна вельмі вострая.

Больш-менш атрымлівалася толькі ў Фёдара, а малыя абавязкова заганялі касу ў зямлю. На што бацька сынам казаў;

— Нічога, падрасці яшчэ трошкі трэба, і ўсё атрымаецца.

Але на луг у час касавіцы браў іх рэдка.

— Лепш ідзіце вудзіць рыбу, — гаварыў ён сынам.

Хлопцаў маці будзіла на досвітку. Яны з вудамі і вядром беглі на рэчку. Над рэчкаю і лугам клубіўся туман. Па траве, басанож па расе, хлопцы спяшаліся, каб паспець налавіць рыбы на юшку або жарніцу. Апускалі ногі ў ваду. Яна яшчэ не паспела астыць ад цёплага дня і ахутвала ногі прыемнай цеплынёй.

Хараша спявалі птушкі. А калі сонейка пачало паднімацца, асляпляючы вочы сваім святлом, хлопцы беглі дадому. Хуценька снедалі і ішлі з матуляй на луг разбіваць пакосы. Яны любілі сенажаць. Калі пакосы былі разбіты, яны лажыліся на траву і адпачывалі, чакалі, калі падсохне сена, а потым трэба было яго перавярнуць на другі бок, падварушыць. Яны ўдыхалі водар лугавых траў і слухалі песні птушак, гудзенне пчолак і чмялёў. Ад гэтага паху ў хлопцаў кружылася галава, і здавалася, што лепшага куточка зямлі няма на ўсім свеце.

* * *

Звестка аб тым, што пачалася вайна, застала Рыгора на лузе. Ён з сынамі паехаў па сена. Да іх прыбегла маці. Яна загаласіла:

— Вайна! Вайна! Гітлер напаў!

Калі яны пад’ехалі да вёскі, там стаялі лямант і плач. Галя зноў загаласіла…

Рыгор суцяшаў яе.

На наступны дзень яго і іншых мужчын забралі на вайну. Бацька абняў жонку і сыноў і сказаў;

— Дзеці, дапамагайце маме. Фёдар, ты старэйшы і застаешся за мяне. Я спадзяюся на цябе.

Ён адвярнуўся, стрымліваючы слёзы.

А вайна набліжалася вельмі хутка. Ужо чутны былі яе выбухі. Маці завешвала ўвечары вокны, каб не было відаць святла лямпы.

* * *

На досвітку хтосьці пастукаўся ў дзверы. Калі іх адчынілі, то ўбачылі бацьку. Ён быў мокры і брудны, забінтаваная рука была падвязана.

Сілы пакінулі яго. Ён ледзьве не паваліўся, але маці падхапіла яго, дапамагла ўвайсці і пасадзіла на лаўку. Дапамагла скінуць ваенную адзежу і хуценька засунула яе ў печ, а потым запаліла яе.

— Піць, піць, — прасіў ён.

Фёдар падаў бацьку вады. Той агоўтаўся. Расказаў, як яго паранілі. Ён ляжаў у шпіталі. Калі нямецкія самалёты пачалі бамбіць шпіталь, то — хто мог з параненых — пачалі ўцякаць. Набліжаліся нямецкія танкі.

— Я пабег у лес да нашай вёскі. Бег усю ноч. Не памятаю, як дабраўся дахаты, — сказаў ён.

На наступную раніцу ў вёсцы былі ўжо немцы. Яны сагналі ўсіх жыхароў да крамы і прачыталі нямецкі ўказ. Дзясятак салдат для ўтрымання парадку размясцілі ў школе.

У акупацыі людзям было цяжка. Трэба было карміць сям’ю, немцы забіралі курэй, цялят. А калі з’явіліся партызанскія атрады, то і ім трэба было дапамагаць харчамі.

Немцы пачалі паліць вёскі, якія знаходзіліся блізка каля лесу, — за падтрымку партызан.

Да жыхароў Гаварухі дайшла чутка, што Гаваруху таксама павінны спаліць.

Ноччу людзі вывелі коней, пасадзілі дзяцей на вазы і рушылі ў лес. Раніцай заехалі ў гушчар, каб перакусіць і каб адпачылі коні.

Рыгор прывязаў коніка і павёў сям'ю па журавіны. Некалькі радкоў елачак аддзялялі балота ад гушчару.

І раптам пачалася страляніна. Бацька хуценька зняў кажух, кінуў яго ў ямку пад елкай і загадаў жонцы і дзецям легчы на яго, а сам распластаўся на снезе. Кулі пралятали над іх галовамі, крычалі дзеці, іржалі коні. А потым усё заціхла. І толькі нямецкая мова і выстралы. Было зразумела, што немцы дабіваюць жывых. Сям'я Рыгора ляжала ў снезе, баючыся паварушыцца. Моцны мароз скаваў усё цела. А калі стала зусім ціха, бацька паказаў рукой, што трэба ісці. Ногі не слухаліся, зуб не патрапляў на зуб ад холаду і страху. Маці накінула на плечы бацьку кажух.

Ішлі моўчкі, баяліся, што немцы могуць зрабіць засаду. Быў моцны мароз, і таму крочылі па снезе, амаль не правальваючыся. Калі зайшлі ўглыб лесу, бацька дазволіў перадыхнуць.

— Пойдзем да цёткі. Хутка будзе дарога. Мы будзем ісці лесам уздоўж яе Ступаць трэба ціха, — прашаптаў ён. Крочылі след у след. Нарэшце паказалася леснікова хата. Пастукаліся. Цётка адчыніла дзверы:

— Дзякуй Богу, жывыя. Я ўжо ведаю, што здарылася. Думала, што вас ужо не пабачу, — заплакала яна.

Хуценька пачала расціраць шчокі і рукі дзяцей, потым дапамагла Галіне зняць абутак, бо ў яе задубелі рукі. Загадала дзецям лезці на печ.

Рыгор быў увесь белы: і шчокі, і рукі, і ногі. Яму дапамаглі распрануцца, і цётка таксама пачала расціраць яго. Але ён толькі стагнаў.

Назаўтра ўжо Галіна дапамагала цётцы па гаспадарцы, а Рыгор зусім занямог. У яго пачаўся жар. Прыходзіў санітар з партызанскага атрада, прынёс нейкае лякарства, але Рыгору станавілася ўсё горш і горш. І праз тыдзень яго не стала. Пахавалі каля дарогі. Дзядзька з партызанамі выкапалі магілу ноччу, адбіваючы мёрзлую зямлю. Галіна кожны дзень хадзіла на магілу і плакала. А дзецям наказала, што калі памрэ, то і яе каб пахавалі там.

Дзеці дапамагалі цётцы і маме адпраўляць у партызанскі атрад хлеб, які яны самі пяклі, бінты, якія самі мылі і сушылі, крупу, якую малолі на жорнах. Немцы баяліся сунуцца глыбока ў лес, таму на хутары было больш-менш спакойна.

* * *

Неяк хлопцы прачнуліся ад грукату кананады. Вокны аж дрыжэлі. Гэта было наступленне нашых войскаў. Партызаны далучыліся да арміі. Дзядзька таксама пайшоў з войскам.

Наступіла такая непрывычная цішыня, што нават можна было пачуць, як валіцца дрэва.

А далёка грымела кананада, зарывы агню чырванню віднеліся на небе. Дзеці вайны яшчэ доўга будуць уздрыгваць ад гулу самалётаў, выбухаў, калі знішчалі не ўзарваныя з часоў вайны снарады.

* * *

Пачалася вясна. Маці сабрала сякія-такія пажыткі, звязала іх у вузялок, абнялася з цёткай, падзякавала за прытулак і пайшла з дзецьмі ў сваю вёску. Цётка дала ім кошычак бульбы і вядро пшаніцы, зберажоныя для пасеву.

Падышлі да бацькавай магілы, пастаялі, паплакалі, пакланіліся і пайшлі далей. Рыгорка з Пецем неслі кошык з бульбай, а Федзя — вядро.

Дарога ішла каля таго месца, дзе смерць забрала большасць землякоў. На брацкай магіле стаяў крыж. Яго паставілі партызаны, якія толькі на другую ноч пасля расстрэлу змаглі пахаваць забітых.

Цяпер на паляне цвілі пралескі. Хлопцы сабралі букецік і палажылі на магілу. Падышлі да балота, каб убачыць тую ялінку, пад якой іх схавала зіма, бацька, маці, а можа, сам Бог ад варожай кулі. Ялінкі былі падобны адна да адной.

Дадому ішлі са страхам. Вёска сустрэла іх цішынёй, панурымі паўразбуранымі хатамі. Фашыстам ужо не хапіла часу спаліць хаты. Сям'і Рыгора нават пашанцавала. Хата была цэлая. Былі выбіты вокны, зламаны дзверы і разбураны комін… На падворку стаяў хлеў з разбітым дахам, а ў разваленай паленіцы былі дровы. Перахрысціўшыся, маці ўвайшла ў хату. Узяліся за ўборку. Маці палезла ў лёх, дзе ў яе ляжала назапашаная гліна.

— Федзенька, ты палезеш да коміна, паладзіш яго, а мы навесім дзверы, закрыем вокны, — сказала Галіна.

Дзверы прыйшлося трошкі падбіць, і яны хоць і няшчыльна, але зачыніліся. Закрылі аканіцы, а з сярэдзіны на вокны навесілі, што знайшлі ў хаце. Да вечара ўправіліся, а ўвечары запалілі ў печы.

Маці пачысціла бульбы на вячэру. Падазвала да сябе сыноў і сказала:

— Ачысткі не выкідайце, мы іх будзем садзіць.

Дзеці здзіўлена пaглядзелі на яе. А Пеця запытаў:

— А хіба з лупінак бульба можа вырасці, мама?

— Вырасце, вырасце, дзеткі, — адказала яна.

Нарэшце яны спалі ў роднай хаце! Рыгорка прысніў бацьку, які яму наказаў, каб дапамаглі маме ўзараць агарод і пасеяць пшаніцу. Калі хлопцы прачнуліся, Рыгор пачаў расказваць сон. Хлопцы туліліся да мамы і плакалі.

— Родненькія мае, пасеем зерне, што дала цётка, — прамовіла.

Паснедаўшы, выйшлі ў агарод. Зямля была цёплая, здавалася, што яна прасілася, каб яе ўзаралі.

У хлеўчыку ляжаў плуг. Выцягнулі яго ў двор і пацягнулі на агарод. Размералі яго, каб знайсці сярэдзіну. Спераду паставілі Пецю, каб добра было відаць, куды ісці. Маці з Рыгорам упрагліся ў плуг, а Федзю паставілі за плуг.

— З Богам, дзеткі, — сказала Галіна.

Першая баразна была самай цяжкай. Далей было трохі лягчэй. Маці з сынам мяняліся месцамі, каб Федзю было трохі лягчэй. Агарод узаралі толькі на другі дзень. Радасці не было канца. Маці засеяла палавіну агарода пшаніцай. Потым узяла граблі і працякнула імі, каб былі радочкі і каб прыкрыліся зярняткі.

На другі дзень пайшлі садзіць «бульбу». Федзя рабіў баразёнкі, мама клала ачысткі вочкамі ўверх, а Рыгор і Пеця засыпалі іх. Дзецям не верылася, што з ачыстак вырасце і ўродзіць бульба. Асабліва недаверлівым быў Пеця. Ён кожны дзень хадзіў глядзець, ці не з'явіліся ўсходы. Аднойчы ён уляцеў у хату з крыкам:

— Бульба ўзышла! Бульба ўзышла!

І ўсе пабеглі глядзець. Радочкі былі роўненькія, усходы дружныя.

Дзеці скакалі і крычалі:

— Ура! Ура!

З вялікім задавальненнем палолі і акучвалі яе. Кусцікі сталі тоўсценькія, разгалістыя, нават не верылася…

Пшаніца таксама падрастала, дружна шумела.

А хлопцы пакуль што бегалі то на луг па шчаўе, то вудзіць рыбу, каб было што есці.

Маці пайшла працаваць у горад. За першы заробак купіла хлеба, квактуху і дзясятак яек. Пеця павінен быў клапаціцца, каб кура не злятала з яек. Ён прывучаў яе есці з рукі, паіў з талерачкі, а пад вечар знімаў, каб яна размяла ножкі. А якая была радасць, калі з'явіліся жоўтыя піскучыя камячкі. Вылупіліся ўсе да аднаго. І цяпер Пеця павінен быў клапаціцца аб усёй курынай сям'і. Старэйшыя браты палолі агарод, збіралі грыбы і ягады.

— Вось бы нам яшчэ кароўку, — гаварыла мама дзецям.

Яна пачала адкладваць грошы, каб купіць цялятка. З такой сям'ёй карову не купіш. Наперадзе зіма, трэба набыць дзецям абутак і адзежу. Але цялушачку яны ўсё ж купілі. Прывязвалі яе на лузе за агародамі. Удзень паілі вадой і перавязвалі ў другое месца.

Час ішоў. Зашумелі каласкі пшаніцы. Апусцілі цяжкія галоўкі ўніз. Маці сынам гаварыла:

— Калі каласкі апушчаны ўніз, то яны поўныя зярнятак, ураджай будзе харошы.

Пшаніца выспела, і ўсе разам пайшлі яе жаць. Мама паказала сынам, як трэба рабіць завязкі для снапоў. Рыгорка налаўчыўся іх рабіць, ішоў перад мамай, клаў завязку. Галіна сярпом жала пшаніцу, клала на завязку, а Федзя скручваў сноп. Потым усе разам ставілі снапы па пяць або шэсць, якія накрывалі яшчэ адным снапом, як капелюшом.

Надвор'е было добрае, і праз некалькі дзён снапы перанеслі ў хлеў. Малаціць цэпам пшаніцу ўмеў толькі Фёдар, бо яго яшчэ вучыў бацька.

Дах у хляве быў разбураны, таму вырашылі снапы абмалаціць у мамін выхадны, баяліся, каб не замачыў дождж. Намалочаную пшаніцу веялі. Рассцілалі на зямлю посцілкі, маці набірала ў вядро зярняты, паднімала ўверх і паціху сыпала на посцілку, стоячы збоку ад ветру. Вецер адносіў палову, а на посцілку сыпаліся зярняты. Веяць трэба было тры разы. Каб лягчэй было, зярнят у вядро бралі мала.

— Дзякуй Богу, хопіць на блінцы і на насенне, — казала жанчына.

Зярняты ссыпалі ў бочкі і паставілі ў хаце.

Кураняты падраслі, таму Пеця разам з братамі хадзіў у лес па грыбы. У Пеці заўсёды быў поўны кошык грыбоў. Іх і варылі, і смажылі, і салілі, а яшчэ сушылі на пліце. Усе любілі боршч з кіслай капусты з сушанымі грыбамі.

Федзя больш любіў рыбалку. Раніцаю паднімаў братоў, і яны беглі на рэчку. Адзін раз Федзя злавіў вялізнага шчупака, які ледзь не павалок яго разам з вудаю. Ён затрымаўся за куст, ды і браты прыбеглі на дапамогу. У гэты дзень яны наеліся рыбы ўдосталь.

Яшчэ трэба было нарыхтаваць сена для цялушкі на зіму. Федзя касіў, Рыгор і Пеця разбівалі пакосы і сушылі сена, потым зграбалі і пераносілі ў двор.

Кожны дзень яны жылі па раскладзе: рыбалка або грыбы, ягады, догляд хатняй жывёлы, агарод, адпачынак на рэчцы, а вечарам зноў догляд жывёлы. Адзін раз у нядзелю маці выдзяляла грошы на кіно.

Перад выхаднымі яны ішлі ў лес на цэлы дзень, пакідаючы некага аднаго дома.

Трэба было назбіраць ягад, якія мама везла ў горад, каб прадаць.

А вайна палыхала ўжо ў Еўропе. Гналі немцаў усё далей і далей да Германіі.

А хлопцы восенню пайшлі ў школу за восем кіламетраў ад вёскі. Хадзілі пешшу, калі-нікалі падвозілі іх на падводах, якія ехалі ў горад.

Наступіла вясна, а з ёю і перамога. Людзі чакалі з вайны сваіх землякоў. Трэба было будаваць, працаваць.

* * *

Хлопцы вучыліся добра. Рыгорка марыў стаць мараком. Ён маляваў мора і караблі, хоць акрамя рэчкі і возера не бачыў вялікай вады. Яшчэ прасіў у мамы купіць яму матроску і бесказырку. І калі аднойчы яна выканала яго пажаданне, то ён амаль не знімаў ні матроску, ні бесказырку.

Аднойчы паштальён прынёс маме пісьмо. Усе вельмі здзівіліся. Маці прачытала яго, пайшла ў бакоўку і доўга плакала. А праз месяц прыехаў да іх госць — прыгожы мужчына ў ваеннай форме.

— Мяне завуць Іван Фёдаравіч. А дзе ваша мама? — спытаўся ён.

— Мама на рабоце. А вы хто такі? — спытаўся Фёдар.

— Я пачакаю яе. Дазволіце вам дапамагчы? — сказаў госць і, паставіўшы каля плота свае рэчы, пачаў дапамагаць хлопцам калоць дровы. Ён весела расказваў гісторыі, якія здараліся на вайне. А потым да прыхода мамы навundefinedарыў бульбы, паклаў на стол тушонку і кавалак сала, сказаўшы, што гэта салдацкі паёк.

Прыйшла мама. Усе ўладкаваліся за сталом. Іван Фёдаравіч пахваліў хлопцаў: працалюбівыя і старанныя яны. Калі паелі, Іван Фёдаравіч сказаў, што ён бацька Фёдара. Усе замаўчалі, а ён працягваў размову ўжо з мамаю.

— Галіна, табе цяжка будзе адной паднімаць дзяцей. Я ведаю, што бацька хлопцаў памёр. Калі дазволіш, то я застануся з вамі, каб дапамагчы.

— Не, Іван, ты з намі жыць не будзеш. Я спраўлюся сама. Перажылі вайну — і цяпер выжывем, — адказала яна.

— Фёдару трэба вучыцца. Калі не дазваляеш застацца, то адпусці Фёдара са мной у Брэст. Я паклапачуся аб ім, і табе будзе лягчэй, — прапанаваў госць.

За сталом усталявалася цішыня. У Федзі з вачэй пабеглі слёзы:

— Я нікуды не паеду. Тут мой дом, і бацька мой памёр. Вас я не ведаю, хто вы такі.

— Федзя, гэта твой бацька. Ён некалі паехаў ад нас, то мы і не гаварылі табе аб ім. Федзенька, табе рашаць, як ты скажаш, так і будзе, — звярнулася маці да сына.

— Табе трэба вучыцца, а маці адной будзе цяжка падняць вас. Паедзь, паглядзі, калі табе не спадабаецца, то я прывязу цябе назад, — угаворваў сына бацька.

Федзя згадзіўся. Назаўтра ўся сям'я праводзіла яго да станцыі.

— Не забывай нас, сынку, пішы, прыязджай. Дай Божа табе шчасця, — сказала маці, абняла сына і заплакала.

Браты таксама прытуліліся да брата. Ім не верылася, што ён ад'язджае. Фёдар з бацькам заспяшаліся ў вагон.

Цягнік адышоў ад станцыі, вагоны пабеглі міма, а маці ўсё стаяла і стаяла, выціраючы слёзы.

* * *

Адразу стала неяк пуста і сумна. А ў Пецевым сэрцы з'явілася зайздрасць да брата, што ў яго ёсць бацька. Ён стаў часцей бегаць у лес, нават з Рыгоркам не гуляў. Прыручыў вавёрачку і карміў яе з рукі. У яго дзіцячым сэрцы назаўсёды застаўся страх таго жудаснага дня і ўдзячнасць лесу за выратаванне. Калі хлопчык сумаваў або сварыўся з сябрамі, ён бег у лес, які, здавалася, заўсёды заступіцца за яго. А елачкі і бярозы сталі яго сябрамі, з якімі ён дзяліўся ўсім. Аднойчы хлопчык прынёс бярозку і пасадзіў яе каля хаты. Яна прыжылася і радавала яго сваімі клейкімі лісцікамі.

Час ляцеў хутка — вось і сямігодка закончана. Пеця вырашае паступіць у тэхнікум лясной гаспадаркі.

Рыгор ужо вучыўся ў ваенна-марскім вучылішчы. Потым служыў на флоце ў Прыбалтыцы. Там ажаніўся і застаўся жыць. Прыязджаў дужа рэдка.

Пеця працягваў вучобу, на яго плячах была і дамашняя гаспадарка. Закахаўся ў сельскую прыгажуню Валю. Але яна закахалася ў марака і выскачыла за яго замуж. Пеця вельмі перажываў здраду. Маці баялася, што больш не знойдзе сабе дзяўчыну. Але пазнаёміўся з чарнабровай прыгажуняй, якая жыла недалёка ад лясніцтва. Ажаніўся, нарадзілі сына.

Дапамагаў маме, трошкі падрамантаваў старэнькую хатку.

Фёдар пісаў рэдка. Аднойчы прыслаў ліст, у якім жаліўся, што развёўся з жонкаю. А потым другі раз ажаніўся. Нарадзіла Ніна яму дзвюх дачок і сына. Пабудаваў дом. На ўваходзіны і вяселле дачкі паклікаў родзічаў.

Прыехаў толькі Пётр з жонкаю. Маме нездаровілася. Рыгор быў у плаванні.

У Пятра зайздрасць не праходзіла. У брата ёсць свой дом, а ў яго няма. Працуючы ў лясніцтве, яму не так цяжка пабудаваць дом, тым больш што сын вырас і збіраецца жаніцца.

Прыехаўшы ад брата, заняўся будаўніцтвам. За гэты час ён паспеў скончыць інстытут лясной гаспадаркі і вышэйшую партыйную школу. Працаваць пачаў у райвыканкаме.

* * *

Захварэла маці. У горад да Пятра ехаць не захацела.

— Паміраць буду ў сваёй хаце, — сказала яна сыну.

Кожны дзень увечары ён прыязджаў да яе, пратапліваў печ, варыў есці. Але маці кожны дзень станавілася ўсё горш. І яна злегла. Пётр узяў водпуск і даглядаў яе.

— Пеценька, сынку, вызывай братоў, хачу развітацца, пакуль жывая, — сказала маці.

* * *

Фёдар атрымаў тэлеграму і пачаў збірацца ў дарогу. На душы неспакойна. Ужо ў цягніку ён успамінаў сваё дзяцінства. Знаёмыя краявіды за акном навявалі трывогу і неспакой. Вось і родная станцыя. Здаецца, нічога не змянілася. Вось і знаёмая сцежачка, па ёй ён бегаў з сябрамі, калі гулялі ў вайну, па ёй бегаў на рэчку і па грыбы, па ёй праводзіла мама ў самастойнае жыццё.

Родная хатка! У двары, як заўсёды, парадак. Бяроза вырасла, сваімі галінамі ўзнялася ў неба. Сэрца зашчымела, слёзы гатовы былі пырснуць з вачэй.

Дзверы адчыніў Пётр. Браты абняліся.

— Ну як мамачка? — спытаў Фёдар.

— Два дні не паднімаецца. Адмаўляецца ад ежы, — адказаў Пётр.

Прайшлі ў мамін пакой. Яна ляжала на ложку. Калі сын падышоў, яна працягнула яму свае напрацаваныя рукі і прашаптала:

— Сыночку, дачакалася я. Думала, што больш і не пабачу.

Федзя прытуліўся да такой мілай і знаёмай рукі, і слёзы пацяклі з вачэй.

— Мамачка, родная, прабач, — прагаварыў сын.

— Сыночак мой, Федзечка, — усхліпвала і мама.

Праз гадзіну прыехаў Рыгор. Браты абняліся і селі каля мамы.

Яна трымала рукі то аднаго, то другога, то трэцяга сына. Маці ўсё наказвала:

— Не цурайцеся, дзеткі, адзін аднаго. Часцей сустракайцеся, дапамагайце адзін аднаму, абяцайце мне.

Цэлы вечар дапазна яны сядзелі каля яе і расказвалі пра сваё жыццё. Маці павесялела, нават трошкі паела.

А ранкам ціхенька памерла. Пахавалі яе каля бацькі, як і прасіла. Праз два тыдні браты раз’язджаліся. Спачатку праводзілі Рыгора. Потым паехаў Фёдар.

Хоць Пётр стараўся як мог, але непрыязь да сябе Фёдар адчуў. Ды ён спісаў усё гэта на трывогу, перажыванне і клопаты.

А Пётр успамінаў, калі гэта пачалося. У дзяцінстве ён Федзю вельмі любіў. Напэўна, боль у душы быў ад таго, што брат паехаў ад іх, а можа, што ўсе клопаты зваліліся на яго яшчэ дзіцячыя плечы. Здавалася, што гора іх зблізіла. А цяпер, калі брат паехаў, ён з палёгкай уздыхнуў.

* * *

Гады, гады… Куды яны нясуцца? Ужо прайшло больш за трыццаць, як яны сустракаліся, а здаецца, усё было нядаўна. Пётр ужо на пенсіі, але яшчэ працуе, каб дапамагчы ўнуку. Ён разводзіць пчол. Любіць сам пакаштаваць мядку, пачаставаць суседзяў і мядком, і медавухай.

Рыгор і Пётр сустракаліся яшчэ некалькі разоў. А Фёдар больш не прыязджаў…

Можа, напрыканцы жыцця браты яшчэ сустрэнуцца, выканаюць мамін наказ.

Няхай будзе так!

# ПАД НЕБАМ АДЗІНЫМ





**Фрыдзеш Карынты**

Frigyes Karinthy (1887–1938) — вугорскі пісьменнік, гумарыст, перакладчык, эсперантыст. Яму споўнілася 15, калі ілюстраваны часопіс у некалькіх нумарах запар апублікаваў першы раман «Вясельнае падарожжа праз цэнтр Зямлі». З 1906 года працаваў журналістам, друкаваўся амаль ва ўсіх будапешцкіх газетах і часопісах, у якіх па некалькі разоў на тыдзень выходзілі ягоныя апавяданні, пародыі, гумарэскі. Шырока вядомым стаў пасля выхаду кнігі літаратурных карыкатур на творчасць шматлікіх вугорскіх і замежных пісьменнікаў «Вось як вы пішаце» (1912). Сваім літаратурным настаўнікам ён лічыў Джонатана Свіфта, двум уласным раманам («Падарожжа ў Фарэмідо» і «Капілярыя») даў падзагалоўкі: «Пятае» і, адпаведна, «Шостае падарожжа Гулівера». Прайшоў універсітэцкія курсы па розных дысцыплінах: у матэматыцы і фізіцы, філалогіі і хірургіі. Дыплома нідзе і ніколі не атрымаў, але з вялікай павагай і інтарэсам ставіўся да навукі ў цэлым, меў грунтоўныя веды ў розных сферах. «Верыў у моц інтэлекту, больш за тое, можна сказаць, ён слепа верыў, што слепата — з’ява часовая». Яго знакаміты дэвіз: «У гумары я не прызнаю жартаў». Шэсць гадоў узначальваў Вугорскі саюз эсперантыстаў. За два гады да смерці, у Стакгольме, яму ўдала выдалілі пухліну мозгу. Аперацыю, а таксама ўласныя адчуванні і думкі ў звязку з хваробай ён апісаў у выдатным рамане «Падарожжа вакол майго чэрапа».

## Сустрэча з маладым чалавекам

Я быў у добрым настроі, шмат пра што забыўся, цырымонна закурыў цыгару, і мы пайшлі праспектам Андрашы. З-пад вэлюму ўсміхалася мая мілая жонка-прыгажуня, мая дарагая абранніца, якая кахала мяне і дазваляла мне кахаць яе.

Маладога чалавека я сустрэў на беразе Дуная, гадзін каля шасці ўвечары. Ён прайшоў міма нас, ужо пачало пакрысе цямнець, і я не заўважыў яго. Ён быў ужо крокаў за дваццаць ад нас, калі я ўбачыў яго ззаду. Я раптам змоўк, разгубіўся — мяне ахапіў неспакой. Тонкая талія выразна вылучалася на фоне грузавога карабля, але, здаецца, я пазнаў яго па кроках. Вопратка крыху па-

ношаная. У руцэ ён нёс сшытак вялікага фармату. Яму васямнаццаць, а можа, толькі сямнаццаць… я ўсё яшчэ вагаўся, не адважваўся паверыць… я хацеў адвярнуцца, але раптам востры боль, як страла, працяў маё сэрца, яно закалацілася з такой сілай, што я быў вымушаны спыніцца. Я ўбачыў гэты рух, як ён падняў руку і выцягнуў яе перад сабой, ой, якой жудаснай была гэта рука, я пазнаў нават парэз на ёй, які ў спартзале…

Жонка глянула на мяне са здзіўленнем, а я, заікаючыся, сказаў:

— Калі ласка… пачакай мяне… мне трэба пагаварыць з гэтым маладым чалавекам…

Я пакінуў яе і паспяшаўся да яго. Але неўзабаве запаволіў крокі. Ужо змяркалася. Малады чалавек не павярнуўся. Ён ведаў, што я іду за ім. Ён няспешна ішоў далей і спыніўся спакойна ля каменя карабельнага прычала, павярнуўся тварам да ціхага Дуная і глядзеў праз супрацьлеглы бераг, далёка ў бок гор. Мне стала страшэнна няёмка, я вымушаны быў адкашляцца. Стаў побач, каб ён мяне заўважыў. Употай зірнуў на яго рот, які яшчэ быў маладзейшы і вузейшы за мой. Вочы большыя і ярчэйшыя. О, гэта быў ён. І сшытак у руцэ, той стары сшытак… які я паклаў на дно шафы і забыўся… Гэта было цяжкае, трывожнае хваляванне.

— Ну… не бачыш мяне?.. — нарэшце ціха прамовіў я.

— Бачу, — сказаў ён, але не павярнуўся да мяне.

Я разгублена маўчаў. Мне стала сорамна. Смешна. Васямнаццацігадовы юнак! Сустрэча дзіўная, але я павінен знайсці выхад. Я буду непрадузятым. Няхай ён радуецца, што меў магчымасць убачыцца са мной.

— Я адразу пазнаў цябе, — сказаў я ўголас, — як толькі ты прайшоў міма.

— Я ведаю, — адказаў ён.

— Чаму тады ты не падышоў? Хіба я не цікавы табе?

Ён не адказаў. Я разнерваваўся.

— Добра, я ведаю, які ты стрыманы і ганарысты. Але, бачыш ты, гэта бессэнсоўна… Павер, я зразумеў, што бессэнсоўна… Я растлумачу табе гэта… Ты і сам зразумееш, што я не мог заставацца стрыманым і фанабэрыстым… Але чаму ты не глядзіш на мяне?.. Бачыш, у мяне вусы… Мне дваццаць шэсць… Які ж ты дзіўны. Злуешся на мяне?

Ён не адказваў. Толькі вусны горка сціснуліся.

— Ага!.. — сказаў я. — Выдатнае маўчанне! Добра, добра, памятаю ўжо… І што? Чалавек не можа рабіць гэта вечна. Вось як, ты, мабыць, яшчэ і папракаеш мяне? Ай, што ты, тваё вялікае маўчанне — зусім не вялікая справа… Не бачна, быццам гэта мела для цябе вялікую карысць… Твая вопратка зусім зношаная, мой мілы хлопчык. А сам ты худы. Выбачай, але я б так ніколі не апрануўся… Ну, што здарылася? Паплач трохі, атрымаеш капейчыну!

Ён упершыню паглядзеў на мяне. Жорстка паглядзеў мне ў вочы. Потым зноў адвярнуўся.

— Ты шмат гаворыш, — суха сказаў ён.

Мне стала крыўдна.

— Ах! Што ты! Ты ўяўляеш сябе вельмі дасканалым. Так, я гавару, бо хачу навучыць цябе… разумееш? Бо я старэйшы за цябе… і з таго часу многа чаго пабачыў… і пеpажыў… ты ж дзіця… што ты ведаеш?…

Раптам мой голас сціх, я апусціў галаву і ўсміхнуўся разгублена, а потым ціха і нерашуча падняў руку і прашаптаў з недаўменнай усмешкай:

— …Дык што ж мне рабіць?.. ну немагчыма было рабіць так, як ты думаў. Павер, калі ласка, гэта было немагчыма… я спрабаваў… але гэта сапраўды было немагчыма…

Цяпер ён павярнуўся да мяне. Ён глядзеў на мяне са скрыўленым ротам, з нянавісцю.

— Дзе самалёт? — спытаў хрыпла.

Я нават заікаўся, калі прамовіў:

— Ну… што зробіш… вынайшлі… Фарман… браты Райт… мяне там не было… Але, павер, у іх таксама нядрэнна атрымалася… някепска, умоўна кажучы… на ім можна лётаць…

— Разумею, — насмешліва сказаў ён. Потым зноў паглядзеў на мяне. — А дзе Паўночны полюс?

Я апусціў вочы:

— Нейкі Роберт Піры дайшоў да яго… Ты павінен разумець, мне не хапіла часу… ты памыляўся… немагчыма ўсё адужаць… я ў той час вучыўся ва ўніверсітэце…

— Та-а-ак, — сказаў ён.

А потым:

— А дзе гордая і вольная Вугоршчына?

— Бачыш… дзіўны ты, надта… мы над гэтым працуем… я таксама… але гэта будзе не так хутка… а пакуль трэба і жыць.

Я пачаў тараторыць:

— Але ж бачыш… цалкам і я стараўся… зрабіць нешта… з таго, што абяцаў табе… я нават пісаў. Я напісаў даволі добрыя рэчы… Паглядзі, калі ласка, на вітрыны… маё імя вядомае… у мяне ёсць і аўтарытэт… як ты і хацеў… і людзі ўвогуле мяне паважаюць… І, бачыш, я нават кнігі напісаў… так ты і разлічваў… глядзі… вось… даволі добрая…

Я нервова выхапіў з кішэні адну са сваіх кніжак з гумарыстычнымі малюнкамі і апавяданнямі і паказаў яму.

— Глядзі… даволі ўдалая…

Ён толькі зірнуў на кнігу, але ў рукі не ўзяў.

— Так, я ўжо бачыў, — сказаў ён коратка. — Досыць добра.

Ён выцягнуў рукі ў бок гарызонту, які ўжо пачынаў цямнець, у напрамку гары, што выгіналася ўдалечы.

— Дзе вялікая сімфонія, жудасная п’еса пра шэры гарызонт і ганарыстых багоў, што дрыжаць і звіваюцца ў канвульсіях там, за гарызонтам?

Я пачырванеў.

— Ну, няўжо ты не разумееш… гэта немагчыма… гэтага нельга перадаць у трох дзеях… Ты памыліўся… Акцёр не можа сыграць ролю шэрага гары-

зонту… потым я зразумеў, што гэта нават не той жанр… і што, бадай, я нават не змог бы такую п’есу завяршыць… Аднак я напісаў пра гэта прыгожы санет… надрукаваны ў класным часопісе… ён спадабаўся чытачам… і з тых часоў мне плацяць больш…

Ён нічога не адказаў. Ён праваліўся ў панурае маўчанне, позірк яго губляўся ўдалечыні. Я хацеў яшчэ сказаць штосьці, растлумачыць, які ён малады… але цьмяна ўспомніў, што ў такія моманты, калі ён так глядзіць невядома куды, нельга яго турбаваць. Раптам я падумаў пра жонку і пачаў хвалявацца.

— Калі ласка… — сказаў я, — хадзем са мной, я пазнаёмлю цябе са сваёй жонкай. Так, ты ж будзеш рады гэтаму. Вельмі прыгожая жанчына… цудоўная, вартая кабета… бачыш ты… і я яе пакарыў… яна кахае мяне… бачыш… я нехта… як ты хацеў…

Цяпер ён глядзеў на мяне з бясконцай насмешкай у вачах.

— Ты яе заваяваў, — сказаў ён. — Сапраўды? Як ты ганарышся гэтым! Ты пайшоў да яе і заваяваў! Замак з гары спусціўся, акружыў даліну і перамог!.. Дуб адолеў дрыгву, абвіў яе і любоўна абняў хмызняк… Чаму твая жонка не ідзе сюды?

Я прыжмурыў вочы.

— Ты дурны, — сказаў я. — Ты яшчэ дзіцё. Гэта фантасмагорыі. Ты памыляешся. Рацыю маю я. Я дарослы і спазнаў жыццё. Што ты ведаеш пра жыццё! Усе б з цябе смяяліся!

Ён стаў блізка побач са мной, глядзеў мне ў вочы. Я толькі цяпер убачыў яго густыя, каштанавыя валасы.

— Я не хацеў пазнаваць жыццё… Я хацеў, каб жыццё пазнала мяне… Праўда, усе б смяяліся з мяне, а ты не хацеў, каб з-за мяне смяяліся з цябе… Але ты ведаеш, глядзі мне ў вочы, май смеласць глядзець мне ў вочы!.. ты ж ведаеш, што смешным і маленькім з’яўляешся ты… і што я маю рацыю… і тое, што я кажу, зусім не смешна… ты ведаеш, што праўда на маім баку… ты, небарака… ты малы… ты ніхто… Май смеласць глядзець мне ў вочы…

Я быў вымушаны адвярнуцца; сітуацыя была дурная і надта няёмкая. Ён марудна адышоў, потым нават не глядзеў больш на мяне, пачаў павольна, аддаляцца прэч…

Я толькі праз некалькі хвілін змог ціха загаварыць:

— Ты куды пайшоў? Застанься… — прашаптаў я. Але ён так і не павярнуўся больш. Я толькі здалёк пачуў яго словы:

— Памятай, што апошні раз ты сустрэўся са мной… І калі ў цябе яшчэ захавалася нешта ад мяне, апусці сваё пяро ў агонь вячэрняй зары і напішы… напішы гэтую сустрэчу… і напішы, як я пакінуў цябе й як я знік, растаючы ў асмужаным небе, малады, прыгожы і бязмежна вольны, каб больш ніколі цябе не ўбачыць…

Усё гэта я чуў ужо вельмі здалёку, стройная постаць расплылася і паднялася. Я глядзеў яму ўслед, мне здавалася, што я бачу яго, але потым я зразумеў, што гэта было проста тонкае воблака, якое плыло ў чырвоным небе.

У жонкі лопнула цярпенне.

— Хто быў гэты малады чалавек? — спытала яна.

— Мой стары знаёмы, — разгублена сказаў я. — Добры хлопец…

— Так, — адказала жонка крыху разкавата. — Проста ў яго кепскія манеры. Чаму б яму не назваць сябе? Хаця ён надзвычай падобны да цябе.

Потым мы прыйшлі ў кавярню. Здранцвенне адпускала мяне павольна.

«А тэма дык файная, — парадаваўся я. — Для верша гэта было б крыху зашмат. Але з гэтага можна зрабіць невялікі аповед. Коратка, сатырычна. Сёння акурат аўторак, я павінен што-небудзь здаць у рэдакцыю».

Я папрасіў аркуш паперы і, крыху павагаўшыся, запісаў назву: «Сустрэча з маладым чалавекам…»

А рана ўжо толькі тупа пабольвала.

*Пераклад з вугорскай Петэра БАРАСА.*



## Збігнеў Фрончак

Збігнеў Уладзімеж Фрончак — аўтар дзясяткаў кніг: зборнікаў вершаў, апавяданняў, замалёвак, эсэ пра мастацтва, раманаў. Яго творы друкаваліся ва ўсіх краінах Еўропы, кнігі — у больш чым дзесяці. Ён лаўрэат нацыянальных і міжнародных літаратурных прэмій. Адукацыю атрымаў на польскім філалагічным факультэце Універсітэта імя Марыі Складоўскай-Кюры ў Любліне. Працаваў у некалькіх літаратурных часопісах, у 2004 годзе заснаваў часопіс «Люблін. Культура і грамадства», які выходзіць раз у два месяцы. Шмат гадоў назад у пошуках прыгодаў перасякаў усю Еўропу, Афрыку і Азію. Калекцыянер кніг і старых прыладаў.

# Чортавы лісты

### Уступ

«Лісты старога чорта да маладога», апублікаваныя англійскім пісьменнікам К. С. Льюісам, выклікалі фурор ва ўсім свеце. Іх друкавалі і чыталі ўжо падчас апошняй вайны, а маім чытаннем яны сталі ў дзевяностыя гады мінулага стагоддзя.

У каментары да сваёй працы Льюіс ганарыста заяўляе, што не мае намеру тлумачыць чытачу, якім чынам карэспандэнцыя трапіла ў яго рукі.

«Табе можна, пане чорт!» — казалі ў Польшчы ўжо ў шаснаццатым стагоддзі. Сёння я скажу: табе можна, спадар аўтар! І патлумачу, што кніга Льюіса напоўнена лістамі старога чорта па імені Скрэўтап (у польскім перакладзе яно гучыць як «Круцель») свайму пляменніку, у якіх чарцяка дае парады — як давесці чалавека (яго ў чортавай перапісцы называюць «пацыентам») да пякельнага граху.

Чарговы раз прачытаў я сабраную Льюісам чортаву перапіску, і пераканаўся, што імя маладога чорта — Палын — адрасата лістоў Круцяля — мне не чужое! Пакляўся б, што яно мне вядома не толькі са старонак кнігі Льюіса. Далібог! Я напружыў памяць і не сумняваўся, што подпіс «Палын» бачыў на аркушах паперы, якія некалі трымаў у руках! Не ў якімсьці архіве — у сваёй бібліятэцы, ва ўласных калекцыях! Дзве гадзіны я перабіраў папяровыя стосы, а калі надзея знайсці карэспандэнцыю, закінутую чвэрць стагоддзя таму, пачала згасаць, я звярнуўся да святога Антонія. Святы Антоній Падуанскі зноў дапамог мне адшукаць згубу. Ён ведаў, дзе лісты, і падказаў мне!

І вось у маёй руцэ сем аркушаў рукапісу, які я ў васьмідзясятых гадах XX стагоддзя набыў у антыкварнай краме Любліна. Не было часу прачытаць, адклаў ad acta (да запісаў — *лац.*), цяпер зірнуў на апошнюю фразу і подпіс: «З любоўю і павагай твой пляменнік Палын». Неверагодна! Лісты — у адрозненне ад накрэмзаных Круцялём — мелі пазначаны час і месца напісання.

Год 1984, Люблін! Застаецца загадкай, як яны апынуліся ў руках люблінскага антыквара, і, напэўна, ніхто не адкажа, якой поштай яны павінны былі быць дастаўлены адрасату —польскай ці чарцячай. Напісаныя па-польску, можна сказаць — бездакорная пальшчызна. Палын блукаў па свеце, таленавіты чорт, мовы вывучыў у адно імгненне, мяркую, што пісаў іх на мове народа, сярод якога знаходзіўся. Я залічваю яго ў шэраг чарцей Любліна, хаця надоўга ён тут не затрымліваўся, горад на рацэ Быстрыца быў транзітным на шляху ягоных вандровак. Ён імкнуўся наперад, усё ж натура нецярплівая, цікаўная да чалавечага і чарцячага свету, але лісты, лісты з Любліна засталіся! І валодаю імі я! Публікую, каб зірнулі ўсе, каму цікава.

Прыемнага чытання!

**Ліст 1**

Дарагі дзядзечка Круцель!

У маім жыцці з’явілася кабета! Не брыдкая, какетлівая бландзінка, завуць Адэляй. Не, я не закахаўся, мне зусім чужыя парывы кахання, я толькі паддаўся яе жаночай вабноце. Прызнаю, яна падабаецца не толькі мне! Я дзялюся ёю з адным суб’ектам, яе аднагодкам.

Ён не ведае пра мяне, і ці даведаецца? Час пакажа, як кажуць у людзей! Учора падчас сустрэчы Адэля кажа: «Мне трэба ісці. У мяне прызначаная сустрэча са сваім хлопцам, ён не павінен даведацца, што я з кімсьці сустракаюся! Магчыма, я знайду для цябе час на наступным тыдні».

Яна перакананая, што я буду паміраць ад тугі. Я не ведаю рэўнасці, не ўведаю і тугі. Падыходжу да шафы і дастаю скрынку з абуткам. Гэта падарунак для яе. Новыя, з самай лепшай скуры, чырванюткія! Я бачу, як яе вочы ўсміхаюцца.

— Для мяне? — пытаецца і ўжо цягне да іх рукі.

— Для цябе, але з’явішся не праз тыдзень, а праз тры дні.

— Паглядзім, што здолею зрабіць! — кажа яна на гэта

— З’явішся праз тры дні і тады забярэш! Да таго часу будуць у мяне ў шафе!

Прымерыць я не дазволіў. Яна сыходзіць насупленая, але з’яўляецца на трэці дзень. Пасля хмельнай сустрэчы гісторыя паўтараецца, холадна кажа мне:

— Не ведаю, ці буду мець час у гэтым месяцы!

— Чакаю цябе заўтра, — адказваю я і вешаю на дзвярах шафы элегантную сукенку.

Я не збіраюся выдаляць хлопца з жыцця Адэлі! Калі б я быў адзіны ў яе жыцці, я б на другі дзень даў лататы праз замочную дзірку!

Пакуль што я не скуплюся на сюрпрызы! Набыў машыну, пад’ехаў да месца сустрэчы.

— Едзем у сталіцу, — прапаноўваю. — Я заказаў білеты ў тэатр і начлег у гатэлі!..

— Мог бы мяне папярэдзіць, — крывіцца яна, — я б інакш апранулася! Больш эфектна! Узяла б больш элегантную сумачку і штосьці з біжутэрыі.

— Сумачка на сядзенні за намі, упрыгожанні ў бардачку перад табою! — кажу я і абганяю на сваім «Фальксвагене» маленькія «Фіяцікі».

Пачынае доўгі прагляд, развешванне караляў.

— Гэта золата? — задае яна пытанне.

— Самае сапраўднае.

З недаверам круціць галавою.

— Дзе ты працуеш? — пытаецца ўрэшце. — Прызнáешся?

Не запытала «хто ты», а «дзе ты зарабляеш грошы?». Напэўна, палічыла мяне азартным гульцом, а можа, спрытнюгам, які зарабляе на наркотыках або незаконным гандлі.

— Але гадзіннік мужчынскі! Не адрозніваеш мужчынскага ад дамскага?

— Гадзіннік для твайго хлопца. Уручыш яму на развітанне!

— Які ты прадбачлівы, — кажа яна і цалуе мяне ў шчаку.

У тэатры ідзе «Атэла» — тое, што я добра ведаю, ужо бачыў на сцэнах Масквы, Лондана і Парыжа. Лонданскае выданне твора я нясу ў заплечніку. Некаторыя фрагменты ведаю на памяць, і здаралася, што праслаўляўся, дэкламуючы іх сярод школьнікаў, пенсіянераў у санаторыях, вязняў і манашак. Калі слухачы станавіліся сур'ёзнымі, я рагатаў. Мяне бадзёраць шэкспіраўскія бацылы зла і радуе ачарненне дабра! Я ведаў, што ў варшаўскім тэатры мне будзе весела!

Перад спектаклем адыграў я эпізадычную ролю. Карыстаюся сітуацыяй, калі Адэля ў прыбіральні разглядае сваю пазалочаную шыю, падыходжу да кантралёркі ў форме, працягваю стадаляравую купюру і кажу:

— Калі я падыду з дзяўчынай і папрашу паказаць месца, вы назавяце мяне князем. Мы паразумеліся?

— Так, ваша княская мосць, — адказвае яна і хавае банкноту.

— Яшчэ не ўсё, — лезу па другую банкноту і кажу: — Кошык кветак для Атэлы!

І ўжо пра з імгненне, з Адэляй, што ўчапілася за маё плячо, падаю ёй квіткі. Яна далікатна бярэ іх, нізка кланяецца, і кажа:

— Прашу за мной, ваша княская мосць!

— Князь? — шэпча Адэля. — Такую магчымасць я не брала ў разлік!

Мы з годнасцю ідзём за ёй — сапраўдныя князі! Перш чым займаем свае месцы, Адэля паспявае спытаць:

— Як думаеш, яны заўважаюць, што мае кара́лі — залатыя?

— Князі носяць толькі золата! — адказваю я.

Я не расчараваўся! Дзве, дзве з паловай гадзіны экстатычных дрыжыкаў! Калі пальцы Атэлы сціснулі шыю Дэздэмоны, я не здолеў устрымацца, каб не ўскрыкнуць ад задавальнення. І тая асалода для мяне ад абураных і дакорлівых позіркаў публікі! Паэзія, захапленне, ап'яняльны боль! Надыходзіць фінал, акцёры кланяюцца, публіка не шкадуе воплескаў. Тады — паводле майго плану — кантралёрка заносіць кошык кветак. Ставіць перад Атэла, той з гонарам прымае, а жанчына паказвае на мяне як на фундатара. Я ўскакваю на ногі, дастаю з кішэні гарнітура хустачку і размахваю ёю, як на фестывалі ці парадзе. Акцёр стрымана, нават неахвотна схіляе галаву.

— Маэстра! — крычу я, — вашае ўдушэнне найвышэйшага класу! Я ў захапленні! Мая падзяка!

— Вялікі князь, а не ўмее сябе паводзіць! — адчытвае мяне Адэля ўжо ў машыне. — Ты, відаць, лічыш чалавечую драму смешнай, — незадаволена абвяшчае яна.

Яе разважанне было недалёка ад ісціны. Я быў здзіўлены, што часам яна выказвала такія трапныя меркаванні. З жанчынамі трэба быць напагатове. На наступны дзень я пачуў прызнанне:

— Я хачу застацца з табою, трэба зняць большую кватэру і абавязкова памяняць мэблю. Тая, што ў цябе, страшэнна грубая.

Няма праблем! Зняў кватэру, заказаў мэблю. Адэля ўжо засялілася.

— А ты калі засялішся? — пытаецца.

Я не адказваю, бо прыйшла хвіліна, калі мне пара даваць драла. Засталося вырашыць адно пытанне. Сысці князем ці перанасычаным і цынічным каханкам? Князь заплаціць за кватэру на год наперад, разлічыцца за мэблю і пакіне падарункі. Цынік пацягнецца па валізу, запакуе гардэроб, забярэ падарункі, пакіне Адэлю голай. З валізай пабяжыць на базар, за дзясятую-дваццатую частку кошту прадасць сукенкі, хатнія халаты, пантофлі, грошы аддасць п’яніцам, каб выпілі за вольнае каханне. Золата, вядома, пакіне сабе, яно заўсёды спатрэбіцца.

Я задаў сабе трохі працы. Быў на базары! Я разумею, чаму кажуць: што ад чорта прыйшло, да чорта і вернецца.

Ах, добра быць чортам! Дэманізаваць свет — справа цяжкая, але ж нельга сказаць, што немагчымая!

Адданы Табе, дзядзечка, пляменнік Палын.

Люблін, у красавіку 1984 года.

**Ліст 2**

Дыхаю надвіслянскім паветрам. Апынуўся ў Казімежы. Зеляніна, жоўты пясок, серабрыстыя хвалі Віслы, неба — як у Італіі. Бачыў яшчэ мужчыну, што намагаўся выпхнуць на бераг ракі пашарпаны човен. На ўзваллі стаяў двухколавы вазок, на якім — як няцяжка было здагадацца — ён меў намер перавезці яго ў які-небудзь падворак ці сядзібу. Яму было цяжка, бо ўзвалле было стромкім, човен вялізным, а чалавек — як я заўважыў, калі падышоў бліжэй, — не самым маладым. У нейкі момант ён паспрабаваў падняць яго спінай і падштурхнуць вышэй. Гэта ён добра скеміў, так было лепей. А я дзеля забавы паставіў нагу на нос чаўна і перашкодзіў яму рухацца. Ён не мог мяне бачыць, бо быў адвярнуўшыся. Я ўверсе, ён на чатыры метры ніжэй. Ён напружваў сілы, задыхаўся, упіраўся нагамі і не пасунуўся ні на сантыметр наперад, ні на міліметр уверх.

— Што за ліха?! — прамармытаў ён і павярнуўся. І тады заўважыў мяне. Я гарэзліва засмяяўся з яго здзіўленага твару. Мы доўга глядзелі адзін на аднаго, і ён сціснуў ад злосці кулакі. Азірнуўся па баках, быццам нешта шукаў. Я ўгадаў: вёслы. Але ж і з вяслом ён не даў бы мне рады.

— Зычыш мне кепскага, — сказаў я яму. — Хацеў бы, напэўна, каб мяне паглынула пекла! — Сказаў такім тонам, які пачуў учора па тэлебачанні ад нейкага апаратчыка, той гэткай фразай зрэзаў свайго апанента.

Ён засмяяўся. У такі момант заліўся звонкім, шчырым смехам.

— Ты верыш у пекла? — з недаверам звярнуўся ён да мяне.

— Я яго пасланец у Польшчы! — заявіў я не без пыхі.

— У пасланца галава павінна быць не для фуражкі! — сказаў ён. — Ускладніць працу можа любы дурань, а дапамагчы — мала хто.

— Чакаеш дапамогі ад іншых, а сваю галаву носіш для аздобы? — я эфектна зрэзаў яго сваім меркаваннем. — Чаму тузаешся і піхаеш, калі можна каціць без намаганняў?

І кінуў яму сасновы кругляк.

Зразумеў. Падняў, падклаў і выкаціў.

— Не такі ты дурны, як выглядаеш, будуць з цябе…

Тут ён яўна прыкусіў язык. Што ён меў на ўвазе: будуць з цябе людзі… ці будуць з цябе чэрці?

Я дапамог яму паставіць човен на вазок. Ён выцер рукі аб штаны і паглядзеў на мяне больш ласкава.

— Можа, гарбаты? Ці хлебнага квасу? — запрашае да сябе.

— Вялікі дзякуй, — падумаў я. — Піва, я хацеў піва!

*

Праз некалькі хвілін я плюхнуўся на металічнае крэсла ў бары на беразе Віслы і даў знак афіцыянтцы, каб прынесла кухаль піва.

У гэты момант з’явіўся малады чалавек гадоў дваццаці пяці, з нейкімі занадта ўзбуджанымі рухамі і з бегаючымі вачыма. Ён не быў упэўнены, за якім сталом яму сесці.

— Сядай, дружа, — запрасіў я. — І выпі піва.

— Няма часу, — адказаў ён на гэта. — Іду вешацца!

«Ну, то не буду затрымліваць, — мог бы адказаць я, але зразумеў, што хочацца мне раскрыць прычыну ягонага калыхання на вяроўцы. Чаму б, — падумалася мне, — не паслухаць споведзі самазабойцы?! Такія не трапляюцца на кожным рагу вуліцы». І паказаў яму на крэсла.

— Яна здраджвае мне з нейкім нікчэмным камедыянтам, самахвалам у дзіравых туфлях, аблітым рускай парфумай, які ўдае сябе за князя! Нават яна, маю на ўвазе — мая дзяўчына, заўважыла, што ён прасцяк! У яго няма прыдворных манер, ён безгустоўна апранаецца, так, грошай яму не бракуе, абрабаваў, напэўна, нейкі сельскі банк ці задушыў багатую старую цётку. Грошы шпурляе направа і налева, быццам хоча ад іх пазбавіцца, быццам яны яго пякуць, відаць, не хоча, каб ад іх застаўся след.

— …Падараваў ёй жменю золата, а праз тры дні скраў і падарункі, і вопратку і пакінуў з нясплачанымі рахункамі за мэблю і жыллё! Кара́лі не зачапіў, я іх сам узяў напярэдадні. Я хацеў праверыць у ювеліра, ці сапраўды яны з зола-

та. На шчасце так, з золата. Дзяўчына ўпэўнена, што каралі таксама бамбануў ён. Ён не здолеў іх украсці, а я магу прадаць, купіць што-небудзь дзяўчыне на плечы, абутак, аддаць пазыкі! Не! Я не магу, не хачу жыць у такім свеце! Чаму нічога не кажаш? — звярнуўся ён да мяне. — Павер, пагадзіся, што гэта страшэнны ўдар — прайграць суперніцтва такому боўдзілу! Яна кінула мяне дзеля такога…

Я нічога не сказаў, бо гэтыя словы былі як гром з цёмнага пекла! Ён казаў пра нашу Адэлю. Чуў я некалькі разоў пра непрадбачаны збег акалічнасцяў. Ён здараецца з людзьмі, жывёламі, але таксама — як я адчуў — з чарцямі!

— Вяроўку маеш трывалую? — спытаў я.

— Маю кавалак моцнага шнура, а ў рэзерве добрая дзяга ад нагавіцаў!

Вось жа, падрыхтаваўся. Педант!

«На тваім месцы я б зрабіў тое ж!» — мог сказаць я, але не сказаў. Мяне ахапіла злосць на яго і на сябе. Ён быў — хоць і не ведаў — сведкам маіх дзеянняў, лепш бы ён знік. Я быў удзячны Адэлі, што давяла яго да вар’яцтва. Цікава, ці будзе ён страшны для яе пасля смерці?

Але кашчавая яшчэ не трымала яго ў сваіх абдымках, не прыціснула да сваіх худых грудзей! Да яе яшчэ крок, яшчэ два — я хацеў, каб ён зрабіў іх як мага хутчэй! Такім чынам, трэба было дапамагчы добрай парадай!

— Жыць з адчуваннем такой паразы — страшная рэч, — сказаў я. — Ты адважны і годны, а шнур маеш грунтоўны, да справы! Да справы!

— Бывай, дружа! — са слязьмі ўваччу звярнуўся да мяне. — Я б хацеў паціснуць тваю далонь. Гэта будзе апошняя чалавечая рука, паціснутая пры маім жыцці!

Пайшоў да купкі дрэў, ад якіх прыйшоў я.

Я выпіў піва і з’еў бы стронгу, бо афіцыянтка пераконвала, але што там смажаная стронга? Мне было цікава — ці вісіць ужо хлапец.

Ён не вісеў!

Ён фарбаваў човен старога, які я дапамог паставіць на вазок. Гэтага хлопца я страціў, але не яго дзяўчыну, яна яшчэ ўчыніць нам шмат прыемных сюрпрызаў.

Гэтым днём, дзядзечка, я развітваюся трохі засмучаным…

Твой пляменнік Палын.

Люблін, у траўні 1984 года.

**Ліст 3**

Дарагі дзядзечка Круцель!

Я сяджу сабе ў Любліне ў Саксонскім садзе і напяваю:

У Саксонскім садзе ля фантана
Нейкі прасцяк прысеў да панны,
Так з ёю фліртаваў без меры,
Украў яе пацалунак, яна — яго гадзіннік.

Побач на лаўцы сядзіць нейкая асоба, ну, не дзяўчына, можа, і не матрона, а сталая, каб не сказаць, пераспелая кабета. Яна кідае на мяне какетлівы позірк летуценных вачэй і гаворыць пра надвор'е. Я не рэагую. Але недарэкаў — спраўдзіць словы песенькі — тут даволі. Побач нервова ходзіць прыгожы, але змрочны маладзён. Без сумневу, студэнт ці іншы дармаед. Яго абутак і штаны зношаныя, кашуля нясвежая, але думкі клубяцца пад столлю, бо махае рукамі, быццам з кімсьці спрачаецца. Такі чалавек можа прынесці пеклу вялікую карысць! Ён, відаць, стаміўся, захацеў аддыхацца і адразу не мог вырашыць, на якую лаўку сесці — да мяне ці да той асобы. Натуральна, падсеў да старой какеткі, відавочна прагнуў бабскай кампаніі. Яны нават міла пагутарылі, ён у нейкі момант пытаецца:

— Каторая гадзіна?

— Дзесяць! — чуе адказ.

— Дзесяць гадзін?! Немагчыма! — ускліквае ён.

— І не прыйшла! — какетліва іранізуе жанчына.

— Прыйдзе, прыйдзе! — адказвае хлопец. І далей перакідваюцца жартамі.

— Каторая гадзіна? — пытаецца ён праз некаторы час.

— 10:30 — чуе на гэты раз.

— Напэўна, нешта здарылася, — кажа ён хутчэй сабе, чым ёй.

Ён ускаквае і спяшаецца прэч. Какетка застаецца няўцешнай. Такой сумнай асобы я даўно не бачыў!

— Каб я была маладзейшай, — ні то сур'ёзна, ні то жартуючы, кажа яна, — можа, і застаўся б. Ой, тады б душа мая была ў раі! — дадае сумна.

— Вы яшчэ адчуеце сябе вельмі маладой! Хлопец вернецца, — шматабяцальна кажу я. Я ведаю, што ён вернецца, бо мне ўдалося выцягнуць ягоны кашалёк. Нават самы вялікі ідыёт заўважыць адсутнасць кашалька.

— Вернецца?! — з недаверам пытае яна.

— Вернецца! — запэўніваю я. — Вы аддасцё ягоную ўласнасць і падаруеце гэтую залатую драбязу. — Тут я падсунуў пашарпаны кашалёк і залаты гадзіннік. — А калі прыме гадзіннік, то і наступныя падарункі не адпрэчыць. Вось гэты пярсцёнак — калі ласка — каб падараваць яму пасля чарговага ўдалага спаткання, вось кліпса, адна, другая… Як будзе рада яго дзяўчына! Цябе таксама задавальненне не абміне, уведаеш, кабета, незямныя асалоды!

Яшчэ не ачуняла, прыбягае студэнт.

— Кашалёк не пакінуў? — пытаецца.

— Калі ласка, сядайце, — адказвае яна.

Хоць і неахвотна, але сядае. Яна падае яму ягоную згубу. Хлопчык расчыняе, зачыняе, зноў расчыняе, бо не верыць сваім вачам. У яго была адна банкнота, цяпер дзесяць.

— Цяжка паверыць, што гэта ваша? — здзекуецца кабета. — Сумненняў быць не можа! Там фота вашай дзяўчыны. Што, не хочаце прыняць свой кашалёк?

— Чым магу аддзячыць? — манернічае атрымальнік падарунка.

— Гэта яшчэ не ўсё, яшчэ гадзіннік, каб вы не забыліся, што заўтра а восьмай я чакаю! Вось па гэтым адрасе. — І яна падсоўвае паперку, на якой ка-

ліграфічным почыркам напісаны назва вуліцы і нумар кватэры. Хлопец бярэ паперку, узіраецца ў адрас, хавае ў кашалёк. Шукае слоў, але, здаецца, не знаходзіць, бо сыходзіць, не сказаўшы ні слова.

— А што будзе, калі не прыйдзе? — пытаецца яна мяне, а можа, сябе.

— Прыйдзе, прыйдзе! І гэта будзе доказам, што я вас адмаладзіў!

— Хто ты? Напэўна, я буду вымушана падпісаць кантракт?! — смяецца яна з уласнага жарту — і ўжо цалкам са мной фамільярная.

— Ужо падпісала! Так што ты — абранніца лёсу. Табе дадзена больш за іншых! Ужо купляеш людзей, разбэшчваеш іх, схіляеш да спаткання, навязваеш сваю волю.

— Калі ты думаеш, што гэта кантракт, я не супраць! Мы можам рухацца далей! Калі ласка, больш!

І ўжо ў нас чарговы дзень і неверагодныя эмоцыі! Бачу: вяртаецца з базару, у чырвоных туфлях і чырвонай сукенцы! Так, яна купіла тое, што некалькімі днямі раней радавала Адэлю! Як усё ідзе прыгожа, як цудоўна складваецца!

Надыходзіць дзень, якога я чакаў. Падарункі скончыліся, абеды перасталі быць смачнымі, хлопец пачынае адчуваць агіду да сябе і да сваёй партнёркі, намагаецца вырвацца з гэтых адносінаў. Яму нялёгка!

Я спадзяваўся на гэта. Але не чакаў, што яму будзе так цяжка сысці! А яна здзівіла і мяне, і яго. Непрадказальная, здольная і пранырлівая кабетка!

Яна сфатаграфавала цацанкі, якія яму падарыла. І пагражае, што калі ён не завітае да яе заўтра, то фотаздымкі з адпаведным каментаром атрымае яго дзяўчына.

Стаю пад дзвярыма і чую, як хлопец крычыць:

— Калі не пакінеш мяне ў спакоі, я цябе задушу! Я цябе задушу, як рудую суку!

О-о, здолела ювелірка заліць яму сала пад скуру. Толькі б яму смеласці хапіла! Ён і ў акно можа выкінуць! Такі варыянт таксама трэба абдумаць. Але цяпер чуваць толькі з’едлівы смех кабеты.

— Ідзі, астынь, паспі, адзін ці з дзеўкай, а праз тыдзень прыйдзеш прасіць прабачэння! — дакарае яна, упэўненая ў сіле сваіх аргументаў.

Хлопец ляскае дзвярыма і выбягае. Я ведаю, ведаю, якія думкі клубяцца ў яго галаве. Задушыць — вельмі прымітыўна, самы дурны афіцэрык зразумее, што яна не сама, а праз гадзіну будзе ведаць, што за каханак адведаў нябожчыцу. Лепш выкінуць у акно, гэта можа выглядаць як самагубства. Следчаму прыйдзецца няблага паламаць галаву. (Тут я падкідваю некаторыя матэрыялы для чытання.) Хай прачынаецца і засынае з думкамі аб ідэальным злачынстве.

Тыдзень мінае хутка, я з’яўляюся па тым адрасе. Хачу падысці да дзвярэй, а на прыступках рассеўся нейкі рослы, фанабэрысты, упэўнены ў сабе арганізм. Я спыніўся, бо бачу, што ён не збіраецца мяне прапускаць.

— Ты хто? — пытаецца.

— Табе што за справа?! — адказваю.

— Не скажаш — не прапушчу.

— Іду да знаёмай з трэцяга паверха.

— Няма яе і ўжо не вернецца, паехала да дачкі, будзе ўнукаў дагледзець. Чакаю тут аднаго студэнта, павінен перадаць прывітанні і фотаздымкі нейкіх дробязяў. Дык гэта ты — той студэнт?

— Так, студэнт — гэта я. Ведаю, што на тых фота. Я чакаў гэтай пасылкі. — І працягваю лапу.

Той крыва ўсміхаецца.

— Для цябе, дружа, — кажа ён мне, — маю іншы пакет. — І цягнецца да скамечанай газеты побач. Разгортвае і выцягвае ўжываны пэндзаль. Я адразу нічога не сцяміў, і толькі калі ён сказаў «2:0», зразумеў, што двойчы прайграў. Але матч працягваецца. І я не збіраюся сыходзіць з поля.

О, быць чортам-пераможцам — нялёгкая справа! Я разумею, што недахопу цяжкіх супернікаў на маім шляху не будзе, але думка пра перамогу не перастае мяне спакушаць!

Развітваюся з Табою, дзядзечка.
Аддany пляменнік Палын.
Люблін, у чэрвені 1984 года.

## Чортаў мёд, анёльскі мёд

### Сон

Усіх чарцей затрымалі! Як затрымалі? Ну, затрымалі, звычайна. Усё можа быць.

Нябесныя сілы дзейнічалі рашуча (прашу не блытаць «нябесныя сілы» з «нябескімі» (сінімі — *польск.*), што ўтварыліся ад колеру мундзіраў польскай народнай міліцыі, «нябесныя» ж — відавочна ад назоўніка «нябёсы»).

Іх хуткія і эфектыўныя дзеянні па ўтаймаванні рознага кшталту чарцей не выклікалі шырокай цікаўнасці, трывогі ці абурэння. Мой жа інтарэс да дзейнасці нябесных сілаў і звязаная з гэтым трывога ўзніклі з гісторыі аднаго знаёмства.

Заўчора, калі даймала паўдзённая спякота, адчуў я патрэбу патушыць яе шклянкай піва. Смага дапякала не толькі мяне. Усе летнія рэстаранчыкі і піўныя бары майго горада былі запоўнены прагнучымі. Не знайшлося мне месца ў бары «Агрыкола», не было вольнага століка ў «Двух месяцах», а вось у садзе кавярні «Флірт па выкліку» за столікам на дваіх сядзела адзінокая жанчына. Я спытаў, ці можна сесці, адмовы не было, і я бухнуўся ў крэсла, а праз хвіліну — калі з’явілася зграбная афіцыянтка — заказаў піва і толькі тады паглядзеў на тую, што згадзілася на маю кампанію. Убачыў, што яна маладая і прыгожая. Доўгія крумкачовыя валасы, выра́зны чорны макіяж, вусны пакрыты бессаромна-вабнай чырвонай памадай.

Прыгажосць прыгажосцю, але я прыйшоў сюды, каб падмацавацца півам і рушыць у дарогу па неадкладных справах. Таропка глынуў халоднага хмель-

нага напою раз, другі і трэці. Калі прагучала пытанне «Куды вы так спяшаецеся?» — шклянку не адставіў.

Я марудзіў з адказам, а яна — ні то сабе, ні то мне — прамовіла:

— І куды гэтыя мужчыны нясуцца, і за чым? Арлы, сокалы, фазаны?!*

І глядзела на мяне — як мне падалося — з лагоднай цікавасцю да маіх справаў, здарэнняў, да майго свету.

Побач зайздросліва пазіралі чацвёра маладзейшых за мяне мужчын, відаць, з кожным імгненнем дзяўчына здавалася ім усё больш цікавай, і адзін з іх голасна прашыпеў:

— Шанцуе ж некаторым…

Тым часам незнаёмка, мабыць, чакала майго адказу.

Я не адчуваў патрэбы гаварыць і нічога не казаў. Яе не збянтэжыла мая негаворкасць, яна гуляла ў сваю гульню.

— Тут утульна, ці не так? — не спыняла яна спробаў уцягнуць мяне ў размову.

Калі і на гэты раз не атрымала адказу, то падсунула да сябе талерку з мёдам і апусціла ў яе лыжку, я здагадаўся, што слодыччу яна хоча крыху ўзмацніць водар кавы. Спачатку паднесла лыжку да рота, пакаштавала і, каб выцерці рэшткі салодкага, аблізнула вусны.

— Штучны, кепскі! — зрабіла яна непрыхільную выснову. — Я люблю добры мёд! У вас ёсць магчымасць набываць добры мёд? Сапраўдны, не фальшывы, не разведзены цукрам?

— Чаму не, ёсць такая магчымасць! І не ад каго-небудзь — ад лепшага пчаляра! Я ведаю такога! Яго пчолы самыя працавітыя, яны збіраюць нектар з самых прыгожых кветак на лугах, што шырока раскінуліся паабапал блакітнага Гелчава! Для гэтага пчаляра лыжка цукру ў бочцы мёду была б роўнай лыжцы дзёгцю!

Я не фантазіраваў, я распавёў гісторыю, якую прачытаў у мясцовай газеце.

Яна ўдзячна кіўнула. Праз хвіліну дастала са сваёй чорнай скураной сумачкі пасак для валасоў. З карычневай стужкі тырчалі два рожкі, таксама карычневыя. Яна завязала паскам валасы.

— Рожкі як сапраўдныя! — пракаментаваў я. — Выглядаюць вельмі натуральна.

Яна бліснула белазубай усмешкай.

Дастала люстэрка, павярнула галаву налева і направа.

— Так, — пацвердзіла яна мае словы. — Хораша і натуральна. Але мне пара. Калі ў вас дома ёсць мёд, я яго вазьму.

Я не зразумеў, чаму яна будзе забіраць мёд у мяне дома, але кіўнуў.

— Буду вельмі ўдзячнай, аддзячу чымсьці такім жа салодкім! — запэўніла яна. — А цяпер мне трэба ісці.

---

* Гэта прыпеў папулярнай, шматгадовай даўніны песні, адрасаванай занятым мужчынам (сялянам — бо гэтая фраза таксама сустракаецца ў песні), якія надта мала часу прысвячаюць прыгожаму полу.

І яна паклала сваю руку на маю. Не працягнула мне рукі, а — што мяне ўразіла — прыкрыла сваёй далонькай маю, якая ляжала на стале. І гарэзліва падміргнула: — Падаецца, мы пасябруем! — паспела яшчэ дадаць і пайшла, пакалыхваючы сцёгнамі.

— Глядзіце, глядзіце, — сказаў сваім самы гаваркі з тых, што побач пілі піва, — сапраўдная чартоўка!

Па мёд я паехаў у Гелчаў. Знайшоў гаспадара самых працавітых пчол, пакаштаваў мёду і медавухі. Набыў, вярнуўся і чакаў моманту, калі можна ёй падараваць. Усё думаў: што яна мела на ўвазе, калі паабяцала аддзячыць чымсьці такім жа салодкім.

Потым дайшла да мяне звестка пра затрыманне чарцячай брацііі.

Вырашыў, што і яна не пазбегла — кажучы адміністрацыйна-пенітэнцыярнай моваю — абмежавання волі. Але ж і там яна магла пакаштаваць зямнога смакоцця.

Я стаяў перад брамай «інтэрната»*. На прахадной сядзеў Анёл.

— Да каго? — спытаў ён, хоць, напэўна, добра ведаў, што мяне сюды прывяло.

— Да Анастасіі**, — сказаў я.

— А, да Анастасіі! — усклікнуў ён і загадкава ўсміхнуўся. Але праз паўзу строгім тонам службоўца спытаў: — Па якой справе?

— Э-э… — я не мог патлумачыць мэту…

— Прозвішча! Ваша прозвішча? — суха сказаў ён.

Я паслухмяна назваўся.

Ён адчыніў шуфляду, дастаў некалькі картак, па адной некаторы час вадзіў позіркам, а праз секунду-другую тэатральна ўздыхнуў і паглядзеў на мяне з пагардлівым спачуваннем.

— Вас няма на гэтай картцы, а тут яна напісала імёны людзей, з якімі хоча сустрэцца. Гэта яе самыя блізкія, — патлумачыў ён. На яго твары з’явілася іранічная ўсмешка.

— Я прынёс ёй мёд, — сказаў я просячым тонам, хоць гэта было бессэнсоўна.

Анёл сабраў карткі, паклаў іх у шуфляду і рашучым, энергічным рухам зачыніў.

Дапытліва зірнуў на мяне. Убачыў заклапочаны твар і, відаць, пашкадаваў, бо паспяшаўся параіць:

— Схавайцеся дзе-небудзь за вуглом або сядзьце на той лаўцы пад клёнам, але абавязкова закрыйце твар газетай. І чакайце майго знака! Калі тут перада

---

* Школа-інтэрнат — гэта ўстанова пры школе для моладзі, якая навучаецца па-за месцам жыхарства. «Інтэрнатам» звычайна называлі месца зняволення дэмакратычнай апазіцыі камуністычнага рэжыму Польшчы ў 1981–1983 гадах.

** Анастасія… Чаму я назваў такое імя? Не магу сказаць, гэта было першае, што мне прыйшло ў галаву. У сне, як вядома, многае малаверагоднае ўспрымаецца верагодным.

мной з’явіцца адзін з тых, з кім яна хоча сустрэцца, я перастаўлю вазон са стала на акно. Здолееце паглядзець на аднаго з яе… знаёмых.

Ён сказаў: «аднаго са знаёмых», але, здаецца, меў на ўвазе: «аднаго з каханкаў»…

— А той мёд хоць якасны? — узгадаў ён пра мой падарунак.

— Самы лепшы!

— Пакажыце.

Я падаў яму пасудзіну.

Ён узяў, з хвіліну ўзважваў на руках, а потым падняў угору, нібы хацеў угледзець, ці не схаваў я чаго ўнутры.

Ён адкруціў накрыўку, потым агледзеў стол, выцягнуў адну шуфляду, потым другую… Відаць, нешта шукаў. Некалькі гадоў таму, калі польскія турысты ездзілі ў Грэцыю, яны часта кантрабандай везлі футры чарнабуркі ў слоіках або гаршках. Скуркі — загорнутыя ў пакет з фольгі — запіхвалі ў пасудзіну і залівалі тлушчам. Мытнікі былі знаёмыя з гэтым кантрабандным промыслам, часта пагружалі ў смалец дрот і выцягвалі кантрабанду. Гэткі ж дрот я ўбачыў і ў анёльскіх руках. Але ён адкінуў яго, адмовіўся ад такой праверкі, бо што я мог схаваць у мёдзе? Прынамсі, не лісіныя скуркі. Але хто ведае, якія ён меў дырэктывы. Ён правёў пальцам па паверхні мёду, паднёс палец да вуснаў і, перш чым пакласці яго ў рот, прыгледзеўся да жоўтай шчыльнай структуры. Цмокнуў.

— Сапраўды неблагі, — пагадзіўся ён з маім меркаваннем.

Закруціў вечка і вярнуў сасуд мне.

Я не паслухаўся яго парады, не сеў на лаўку, не схаваў твар за разгорнутай газетай, узяў слоік і пайшоў дадому. Мець слоік мёду, які пакаштаваў сам Анёл, — рэч незвычайная.

### Ужо на яве

Я не забыў сон, хоць прайшло некалькі месяцаў. Аднойчы жнівеньскай раніцай я праходзіў праз рынак, дзе фермеры гандлявалі гароднінай і садавінай. Быў там і пчаляр. У яго было некалькі гатункаў мёду: акацыевы, рапсавы, грэчкавы, шматкветкавы… Я папрасіў ліпавы. Ён дастаў слоік і паклаў яго ў поліэтыленавую торбу.

— Вам абавязкова спадабаецца! — запэўніў ён. — Мае пчолы самыя працавітыя! Яны збіраюць нектар з найпрыгажэйшых кветак на лугах, раскінутых паабапал Гелчава. Вам спадабаецца гэты мёд, і вы прыйдзеце да мяне зноўку па чарговую порцыю!

Я купляў мёд у пчаляра, якога бачыў у сне? Магчыма, у яго, а мо ў іншага?

Дома я адкруціў накрыўку… Глядзеў з задуменнем.

Густы, светла-жоўты мёд. Аднак застаўся след — быццам нехта пальцам дакрануўся да яго паверхні.

Я не сумняваўся: да мяне вярнуўся слоік, які Анёл трымаў у маім сне.

*Пераклад з польскай Паўла ЛЯХНОВІЧА.*

# ДЛЯ ДЗЕТАК-МАЛАЛЕТАК



**Іван Мельнічук**

## Каша смяецца

Сястрычка пытае ў Жэні:
— А чаго гэта каша ў каструлі галосіць — нібы злуецца?
— Яна не злуецца, а, як здаецца, радуецца, смяецца! — усміхаецца хлапчук.

## Не пашанцавала

Дзед пасля няўдалай рыбалкі крыўдуе:
— Сёння нават печкура смаркатага не злавіў. Кошцы сорамна ў вочы глянуць.

## Жартаўнік

Жэня бегае, скача. Стаміўся і выдыхнуў:
— О-хо-хо!
— Што здарылася там у цябе?
— Бензін скончыўся!..

## Растлумачыў

Бабуля ўвайшла ў сені, бурчыць:
— Цёмна, хоць вока выкалі.
Жэня са смехам:
— А як выкалеш вока, то вакол пасвятлее?!.

## Дзіўныя вушы

Ноччу выпаў снег, і бацька на світанку гаворыць:
— Снегу наваліла, машыну па вушы занесла.
Жэня жартуе:
— А што, у тваёй машыне вушы выраслі?

## Пацешыў

Бабуля радуецца, што сасніла, быццам сваю ранейшую працу наведала.

Жэня падказвае:

— Ты, бабуль, сёння раней спаць кладзіся. Можа, прысніш, што ўжо зарплату выдаюць.

## Памыліўся

— Ты навошта паказаў цёці язык? — пытаецца мама.

— А дакторка нават прасіла, каб ёй паказаў. Вось я і думаў, што мой язык усім падабаецца.

## Нясуцца машыны

— Будзь асцярожны, — кажа мама Жэніку. — На шашы машыны так нясуцца!

— А вялікія яйкі яны нясуць? — пасміхаецца сынок.

## Жартам

— Дала курам капусты, — кажа бабуля, — накінуліся, як тыгры.

— Бабуль, — пытае жартам малы, — няўжо тыгры таксама на капусту накідаюцца?

## Сур'ёзнае пытанне

Бабуля тлумачыць Жэніку:

— Яйкі есці кожны дзень шкодна.

— Чаму шкодна? Хіба кукарэкаць пачну?

# Анатоль і Васіль Дэбішы



Анатоль ДЭБІШ нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. У 1979 годзе скончыў Мсцібаўскую сярэднюю школу. Служыў у войску. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Дзеяслоў», «Нёман», «Тэрмапілы», «Жырандоля», калектыўных зборніках «Дзень паэзіі», «Дзядзінец», «Берасцейскія карані», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», іншых выданнях. Аўтар зборнікаў вершаў «Калядная вячэра» (1993), «Стодзівы» (1995), «Зірні ў люстэрка» (2013), «Белабог» (2018), «Пушчанскія дзівы» (2018).



Васіль ДЭБІШ нарадзіўся 22 ліпеня 1962 года ў вёсцы Шамятоўка Свіслацкага раёна Гродзенскай вобласці. Жыў у вёсцы Андрэевічы Гнезнаўскага сельсавета. У 1979 годзе скончыў Мсцібаўскую сярэднюю школу. Служыў у войску. Скончыў Мінскі інстытут культуры. Жыве і працуе ў Брэсце. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Дзеяслоў», «Полымя», «Верасень», «Жырандоля», калектыўных зборніках «Дзень паэзіі», «Дзядзінец», «Берасцейскія карані», тыднёвіках «Літаратура і мастацтва», «Новы час», іншых выданнях. Аўтар зборнікаў вершаў «Белыя птахі» (1993), «Лісты да Марыі» (1996), «Праз дождж» (2012), «Чуйнар» (2015), «Шамятоўка» (2019), кніг для дзяцей, напісаных сумесна з братам Анатолем, «Пушчанскія дзівы», «Белабог» (2018). Кніга братоў Васіля і Анатоля Дэбішаў «Пушчанскія дзівы» — лаўрэат літаратурнай прэміі імя У. Калесніка Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта ў намінацыі «Дзіцячая літаратура» (2019).

## Бялун і Варлівока
*Казка*

1.

У той час, калі на свеце
Лёталі, як птушкі, дзеці,
Мёд у рэках нашых цёк,
На Палессі жыў дзядок.
Белая, з ільну, кашуля.
Барада — аж да зямлі.
Пра яго вы, дзеці, чулі,
Можа, бачылі калі?
Не?.. У мой заходзьце дом.
Казку я прабаю вам.
Звалі дзеда — Белуном:
Белы посах, белы сам.
З выгляду стары і хілы,
Ды вялікую меў сілу.
На зямлі сухмень, пажары,
Чуе кліч: «Дапамажы!» —
Посах ён бярэ і хмары
Працінае — льюць дажджы.
Калі лужыны ў двары,
Сонейка не цешыць вока,
Посах зноў бярэ: аблокі
Разганяе і вятры.
Заблудзіўся нехта ў лесе,
Са сцяжынкі выпадкова
Збіўся — выведзе на ўзлессе
Ці на шлях абавязкова.

Бы з суцэльнага акна
Дом чароўны Белуна —
Адчыняеш свет дзівосны:
У махнатых шапках сосны,
Нібы волаты, стаяць,
І гамоняць, і звіняць.
Павуцінкай серабрыцца
Жыватворная крыніца.
Там, як промнікі жывыя,
З сонца, жвіру залатыя
Упрыгожанні ляжаць,
Зыркім полымем гараць.

І люструюць святлацені
Гульні сонечных праменняў.
Там прыжыўся грукат грому,
Шолах крылаў матылька.
І няма ў тым дзіўным доме
Аніводнага кутка.
Здагадаліся? Вядома,
Лес быў домам для дзядка.

Так і жыў адзін Бялун
Між высокіх соснаў-струн:
Днём сцярог ён лес, а ноччу
Спаў салодка да зары.
Дні міналі, ды аднойчы —
Зніклі птушкі і звяры.
Хоць увесь ён лес прайшоў —
Анікога не знайшоў.
Што за ліха? Што такое?
Дзе прапаў лясны народ?
Нат русалкі за ракою
Больш не водзяць карагод,
Нават месячык не свеціць.
Сумна жыць у гэткім свеце:
Змоўклі спевы, сціхлі крокі,
Апусцеў пушчанскі кут.
Мабыць, гэта Варлівока
Уначы нашкодзіў тут?
Вунь пакінуў на балоце
Ён нагі адзінай след,
Што была ў дзіравым боце…
Нарабіў нямала бед.

Праз сцяну галін густую,
Праз імшарыны шыбуе
Наш Бялун у кут далёкі,
Дзе жыве ў нары глыбокай
Варлівока — страшны змей,
Ненажэрны ліхадзей.

Доўга дзед ішоў ці мала,
Але ўжо змяркацца стала.
Не стаміўся ён зусім!
Пень сівы знайшоў, пад ім
Склеп халодны і глыбокі,
Жыў дзе хцівы Варлівока.

І хаваў у лёхах тых
Ён палоннікаў сваіх.
Дзверы з моху і карэння
Расчыніў Бялун уміг:
Па кутах панурых ценяў
Не злічыць — так многа іх.
Прытаіліся, ні гуку.
Вось накінуцца гайнёй…
Ухапіў Бялун у рукі
Незаменны посах свой.
Першы раз Бялун ударыў —
Зніклі чорных ценяў хмары,
Быццам іх і не было, —
Ярка ўспыхнула святло.
Як наступны грымнуў раз —
Абваліўся змрочны лаз,
І з нары сваёй глыбокай
Вылез грозны Варлівока:
Нос кручком, на лбе маршчыны,
Вушы вылеплены з гліны,
Валасы — з травы і сена,
Замест рук тырчаць палены.
Ростам з дрэва, аднавокі,
Зубы скаліць Варлівока,
І раве гідліва ён:
«Хто пасмеў парушыць сон?
Зацягну ў трысцё-дрыгву,
На шматочкі разарву!»
А Бялун яму ў адказ:
«Выхваляцца досыць — час
Сілай мерацца і спрытам.
Будзеш сёння ты пабіты».
Зноў ашчэрыўся пачвара:
«З кім раўняешся ты?.. На!» —
І пякельным пылам-жарам
Ён дыхнуў на Белуна.
Ды, узняўшы дзіва-посах,
Жар пякельны той у росы
Наш Бялун ператварыў,
Варлівоку асляпіў.
Злыдзень на калені ўпаў,
Белуна прасіць ён стаў:
«Ад святла губляю сілы,
Не губі мяне, асілак!»

Зніклі Варлівокі чары,
Надышла пара пацех —
Ззяе сонейка між хмараў,
Гоман чуецца і смех.
Зашумелі, загулялі
Травы, зёлкі, каласкі,
Птушкі песні заспявалі,
Ладзяць танцы матылькі.

2.

Ліха, жаль, адно не ходзіць,
За сабой другое водзіць.
І няведама — якое,
Бо нябачнае яно:
Ні ратунку, ні спакою —
Лезе ў дзверы і ў акно.
Па начах дзяцей лякае,
Спаць спакойна не дае;
Смецце ў хаце раскідае,
Збан, гаршчочак разаб'е.
Лясне ў комін гулкім громам,
Печ астудзіць без пары.
І мякіну ці салому
Растрасе па ўсім двары;
Выпусціць з хлява карову,
Жыта вынесе з гумна,
Знікнуць з-пад павеці дровы…
Клічуць людзі Белуна
Да сябе, на дапамогу:
Невыносна стала жыць;
Безаблічнае, не могуць
Ліха гэтае ўхапіць.

Зноўку з посахам чароўным
Да людзей Бялун ідзе
Лесам, гукаў-зыкаў поўным,
Па імшарах, па вадзе.
Падышоў ён мірна-ціха
Да пушчанскай вёскі той,
Пасялілася дзе ліха,
Што парушыла спакой.
Шкоду робіць ноччу кожнай,
Калі ў стоме людзі спяць.
Хто ж ён, хітры, асцярожны,

Як яго падпільнаваць?
Ноччу хоць Бялун не ходзіць —
Па начах прывык ён спаць,
Але вырашыў дзед: «Годзе,
Трэба звычку памяняць».
І пад поўняй, яснай самай,
Цікаваў гадзіны дзве.
Вось крадзецца хтось дварамі,
Каўтуны на галаве.
Нехта страшны і калматы
Грушы рве ля крайняй хаты
І кідае іх на дол —
Імі ўслана ўсё вакол,
Пакусаныя, на здзек…
Хто ён, звер ці чалавек?
Незаўважна падыходзіць
Да яго Бялун — схапіў
За плячо: «Мо шкодзіць годзе?
Брыдка. Кім бы ты ні быў,
Пакараны будзеш строга.

Хто такі? З якой дарогі?»
Той сумеўся: «Незнарок я
Сад глумлю… Ці ж не пазнаў?
Быў я калісь Варлівокам,
Дзетак у матуляў краў,
У пячоры пад зямлёю
Жыў, нядобрае чыніў,
А сустрэліся з табою —
Ты мой лёс перамяніў.
Злосны выскал знік паціху,
І цяпер я — чалавек,
Ды ўва мне дабро і ліха
Пасяліліся навек.
Дзве душы, адна сляпая,
А другая — лье святло.
Першая, як ёсць, благая,
Што б, скажы, ёй памагло
Стаць таксама чыстай, моцнай,
Каб сябе перамагчы?
І Бялун прамовіў: «Сонца!
Ты ж — бадзяешся ўначы!
Хто схаваўся ў цемры ночы,
Хто да бед людскіх глухі,

Да чужога хто ахвочы —
Варлівока той ліхі.
Сам мяняйся хвіляй кожнай…
Кім быць — выбар за табой.
Тут, павер, бездапаможны
Нат чароўны посах мой».

Кажуць, што й цяпер жыве,
Сярод пушчы ў вёсцы ціхай
Сціплы, добры чалавек —
Сам сваё адолеў ліха.

А Бялун? Шляхоў ягоных
Шмат: ён годнаю хадой
Крочыць сцежкаю лясной,
Мерае палі, і гоні,
І прысады за ракой,
І ў лясах бывае. Будзіць
Раніцой птушыны грай,
Памагае ў полі людзям,
Дзеліць з імі каравай.
А калі бяда над краем —
Посах ён бярэ тады
І нягоднікаў карае…
Дзе ні глянь — яго сляды.

# НАШЫ НОВЫЯ ВЫДАННІ






**ЖЫРАНДОЛЯ, № 15 : літаратурны альманах Берасцейшчыны.** — Мінск : Выдавец Р. М. Цымбераў, 2023. — 176 с.

Чарговы, юбілейны (15-ы), нумар альманаха «Жырандоля» знаёміць з новымі творамі берасцейскіх літаратараў.




**БЕЛЫ, А. І. Вяртанне ў жнівень : вершы** / Аляксей Белы. — Гродна : ЮрсаПрынт, 2023 — 176 с.

У сваёй чарговай кнізе Аляксей Белы не адыходзіць ад уласцівых яму тэм. Родная прырода, каханне… Значная частка вершаў — успаміны. Пра дзяцінства, юнацтва, вандроўкі і прыгоды. Але далёка не ўсе творы аўтара аўтабіяграфічныя. Ён проста піша пра Жыццё ва ўсіх яго праявах.

Калі закрануць гісторыю творчасці Аляксея Белага, то першая яго кніга, якая пабачыла свет ў 1994 годзе і ў якой быў толькі невялічкі цыкл беларускамоўных твораў, мела назву «Тридцать второе августа». Гэта — каб падоўжыць лета хоць на дзень, бо яно заўсёды вельмі хутка канчаецца…

# ЗМЕСТ



## ПАЭЗІЯ

### Аляксей Белы



### Вольга Грыдзюшка



### Уладзімір Лебедзеў

### Генадзь Мішчук



### Аляксандр Рызо



### Ігар Сідарук

## ПРОЗА



## ПАМЯЦЬ

### Да 70-годдзя Аляксея Ганчука



### Аляксей Ганчук



### Уладзімір Глазаў



### Іван Мельнічук



### Валянціна Осіпава

